Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 5
МАЙ



МЕНСК — 1927

# Гісторыя рабочага друку

## Эпоха „Звезды“ і „Правды“

Цяжкія годы рэакцыі адбіваюцца ў жыцьці партыі. Сярод пачынаючагася разброду партыйнай мысьлі ўсё ясьней становіцца позыцыя „ліквідатараў“, якія прызываюць да самазьнішчэньня партыі. Барацьба з ліквідатарствам робіцца чарговай задачай дню.

У барацьбе за партыю бальшавікі і меншавікі—партыйцы выступаюць сумесна. Зноў паяўляецца легальна ў Пецярбургу соцыялдемократычны орган—штотыднёвая газэта „Звезда“ (канец 1910-1912 г.г.) і яднае на час літаратурныя выступленьні прадстаўнікоў двух фракцый (артыкулы Леніна і Плеханава), якія кіраваліся рэдколегіяй у складзе бальшавікоў і меншавікоў-партыйцаў. „Мы ня можам ні адклікаць сябе из кола змагаючыхся ў Расіі грамадзкіх груп, ні ліквідаваць сябе ў чаяньні якогасьці лепшага будачага“—лёзунг газэты (№ 1). Пасьля палугадавога існаваньня і арышта аднаго з радактароў (В. Бонч-Бруевіча), летам 1911 г. „Звезда“ спыняе свой выхад. У гэтым—першы—пэрыод яе існаваньня; у газэты адсутнічае яшчэ сувязь з шырокімі рабочымі масамі. Адноўленная ўвосень таго-ж году „Звезда“ паяўляецца як бальшавіцкая газэта, лучаючы вакол сябе буйнейшыя літаратурныя сілы бальшавізму. Пачынаецца прыток рабкораў і газэта цяпер апіраецца на масы. Новы пэрыод яе існаваньня падгатаўляе выхад масавай бальшавіцкай газэты.

Такую газэту пролетарыят патрабуе і пытаньне аб выданьні яе абгаварвалася і сярод пецярбургскіх рабочых і на Праскай конфэрэнцыі партыі (студзень 1912 г.) кампанія па збору афяр на газэту праходзіць на фабрыках і заводах з буйным посьпехам. Рабочыя масы ўзбураныя ленскімі расстрэламі, рашуча заяўляюць аб тым, што яны ідуць пад сьцягам бальшавізму.

Гэта падтрыманьне дае мажлівасьць выйсьці газэце, створанай на рабочыя грашы, і ў гістарычны дзень 5 мая (22 красавіка стр. стыл.) 1912 г. паяўляецца ў Пецярбурзе штодзённая легальная бальшавіцкая „Правда“.

Кіруе ёю з далеку, з замежаў Ленін і „Правда“ ў працягу двух з невялікім гадоў свайго існаваньня зьяўляецца органам шырока разьвіўшагася рабочага масавага руху.

„Калі засноўвалася старая „Искра“ ў 1900 годзе, у гэтым прымалі ўдзел які-небудзь дзесятак рэволюцыянэраў. Калі ўзьнікаў бальшавізм, у гэтым удзельнічала, на нелегальных зьездах Брусэля і Лёндана, у 1903 годзе дзесяткі чатыры рэволюцыянэраў. 1912-1913 годах, калі паявілася легальная бальшавіцкая „Правда“, за ёй стаялі дзесяткі і сотні тысяч рабочых, сваімі капеечнымі ўзносамі перамогшы ўціск царызму і конкурэнцыю дробнабуржуазных здраднікаў соцыялізму, „меншавікоў“ (Ленін). Для гэтых рабочых мас „Правда“ зьяўляецца організацыйным цэнтрам. Зборы на газэту, яе распаўсюджваньне, масавае корэспондыраваньне—усё гэта адпавядала таму, каб наўкол „Правды“ мацней і мацней складалася партыйная організацыя.

Тысячы рабочых корэспондэнцый, якія паяўляліся ў „Правде“, тысячу другіх, якія незьмяшчаліся ў абмяжованыя разьмеры газэты, робяць „Правду“ запраўднай рабочай газэтай. Рабочыя і называюць яе „сваёй газэтай“. У барацьбе з ліквідатарамі, у барацьбе з царызмам, у барацьбе з капіталістычнай эксплёатацыяй „Правда“ памагае рабочым масам выкоўваюць рэволюцыйную самасьвядомасьць, стварае цэлае пакаленьне „правдистов“, вытрыманых, стойкіх бальшавікоў. Уплыў „Правды“, які даходзіў да самых далёкіх куткоў краіны, вялікі. У провінцыі рабочы друк робіць папыткі ісьці тым-жа праўдзісцкім шляхам (выданьне ў 1913 г. у Маскве праўдзісцкай газэты „Наш путь“).

Рабкоры „Правды“ складаюць цэлую армію. Гэта—галоўныя супрацоўнікі газэты. Некаторыя з іх і цяпер рабкоры савецкага друку.

Калі рабкоры „Звезды“ былі партыйцамі, работнікамі падпольля, дык рабкоры „Правды“—рабочыя-масавікі, якія прыходзілі ў газэту з уздымам масавага рабочага руху. З шэрагаў рабкораў „Правды“ пачынаюць выяўляцца рабочыя журналісты—публіцысты, поэты, бэлетрысты. У сьценах рэдакцыі яднаюцца партыйныя організатары і кіраўнікі бальшавіцкіх сіл. Большасьць работнікаў „Правды“ і зараз на адказнай рабоце партыі, савецкай дзяржавы і савецкага друку.

Царскае правіцельства ня можа застацца глухім да рэволюцыйнага голасу „Правды“. Градам прасьледваньняў абвальваецца яно на бальшавіцкую газэту. Штрафы, конфіскацыя намяроў, прыцягненьне да суду, зачыненьні чаргуюцца ўвесь час. За два з невялікім гады газэта прымушана была дзевяць разоў мяняць сваю назву („Правда“, „Рабочая Правда“, „Северная Правда“, „Правда Труда“, „Рабочий“, „Трудовая Правда“).

Не здавальняючыся гэтымі нападкамі, царскія слугі робяць заходы ўзарваць рэдакцыю з нутра, саджаючы туды правакатара (выяўленага пазьней Мірона Чорнамазава), якога ў хуткім часе кіраўнікі рэдакцыі выкідаюць з рэдакцыі.

Прасьледваньні губяць у канцы канцоў „Правду“—у ліпені 1914 г., за кароткі час да пачатку вайны, спыняецца выхад „Правды“. Яна памірае ў той час, калі пецярбурскія рабочыя кідаюцца будаваць барыкады. У падгатоўцы гэтага рэволюцыйнага кроку ліпнёвых дзён 1914 г. на долю „Правды“ выпала значная праца.

## Рабочы друк у гады імпэрыялістычнай вайны

З пачатку вайны паслаблены рабочы рух. Зьнікае, зыходзе амаль зусім і рабочы друк. Пасьля зачыненьня „Правды“ легальныя рабочыя газэты амаль ня могуць існаваць з прычыны цэнзурных умоў (увядзеньне ваеннай цэнзуры). Існаваньне рабочых органаў друку цяпер становіцца вельмі краткачасовы. Але і яно мажліва, галоўным чынам, у провінцыі. Ня гледзячы на цэнзуру, тут удаецца выпусьціць некалькі бальшавіцкіх выданьняў (штотыднёвая „Наша Газэта“ ў Саратаве ў 1915 г., профэсыянальны „Голас Печатного Труда“ ў Маскве ў лістападзе 1916 г.—студзені 1917 г., часопіс „Наше Слова“ ў Кішанёве ў студзені 1917 г.). Бальшавіцкі орган у Петраградзе (часопіс „Вопросы Страхования“—заснованы ў 1913 г.) у пэрыод вайны можа выпусьціць усяго толькі абмяжованы лік нумароў.

Гэта становішча вымагае рабочы друк ісьці ў падпольле. Робіцца некалькі захадаў наладзіць падпольныя выданьні (Іркуцк—1915 г., Харкаў—1916 г., Петраград—1915-1917 г.г.), але і гэтым выданьням неўдаецца стала стаць на ногі.

Транспарт замежных выданьняў, з прычыны зачыненьня граніц, надзвычайна цяжкі; нумары, якія атрымоўваюцца—нехапае. Усё гэта дазваляе абарончаскаму і меншавіцкаму друку атручваць сьвядомасьць рабочых.

У зарубежным расійскім друку адбываецца перагрупіроўка. Органы друку пачынаюць разглядацца па прызнаку іх адносін да вайны.

Паяўляюцца аб'яднаныя органы абаронцаў—соцыял-дэмакратаў і соцыялістых-рэволюцыянэраў (такі парыскі „Призыв" 1915-1916 г.г. лучаючы Плеханава, Авксенцьева, Алексінскага і Бунакова). Інтэрнацыяналістычны друк, які выходзіць у краінах Антанты, пападае ў цiскі ваеннай цанзуры і церпіць ганеньні—ажно да высылкі яе кіраўнікоў (высылка Л. Д. Троцкага з Францыі) і зачыненьне выданьня (зачыненьне ў 1915 г. у Парыжы штодзённай газэты „Голас", які выдаваўся з 1914 г. т.т. Антонавым-Овсеенко і Д. Мануільскім). Бальшавіцкі друк, які знайшоў прытулак у нэўтральных краінах („Социал-Демократ"—якім кіраваў Ленін; „Коммунист"—Н. Н. Бухарын і т. Пятакоў) з цяжкасьцю пранікае ў Расію.

## Рабочы друк у эпоху лютаўскай рэволюцыі

Лютаўскі пераварот у 1917 г. выклікае да жыцьця рабочы друк, ліквідуе існаваньне зарубежных выданьняў. Узьнікшыя саветы ствараюць свой друк (першы нумар „Известий Петроградского Совета Рабочих Депутатов" выходзе 28 лютага ст. стылю, першы нумар Масхоўскіх „Известий Совета Рабочих Депутатов" выходзіць 2 сакавіка ст. стылю). Гэтыя органы ў хуткім часе становяцца ў руках меншавіцка-эсэраўскай большасьці саветаў. Амаль аднача́сова паяўляюцца органы ўсіх соцыялістычных партый. Бальшавіцкі друк уваскрасае з выхадам у Петраградзе № 1 „Правды" 5 (18) сакавіка. У сьлед за „Правдою" бальшавіцкія газэты паяўляюцца ўва ўсіх буйных прамысловых цэнтрах (Масква, дзе 7 (20) сакавіка выходзе № 1 „Социал-Демократа", Казань, Екацерынбург, Растоў, Харкаў, Кіеў, Екацерынаслаў, Самара, Саратаў і інш.). Яны знаходзяць шырокае распаўсюджваньне ў рабочых масах, тыраж хутка расьце і № 1 „Правды" разышоўся ў 100.000 экз., № 2—200.000).

На чале бальшавіцкага друку ідзе „Правда", як і раней зьяўляючыся кіраўніцай рабочае клясы. Яна набывае адразу большае значэньне, чым толькі цэнтральны орган партыі. Яна, як і ў дарэволюцыйныя часы, організуе вакол сябе пролетарскія масы Петраграда, якія зьяўляўся цэнтрам рэволюцыі, яна вядзе за сабою, за сьцягам бальшавізму. Яна выступае ня толькі як цэнтральны орган партыі, але і як масавая рабочая газэта. Аб яе ролі ў гэтыя м-цы сьведчуць адносіны да яе рабочых і салдат.

З першых-жа дзён рэволюцыі „Правде" прыходзіцца ставіць і вырашаць пытаньні аб задачах і тактыцы пролетарыяту ў рускай рэволюцыі.

Зараз-жа, як толькі прыяджае Ленін у Расію 3 (16) красавіка, бярэ на сябе рэдагаваньне газэты і хутка выпраўляе тыя памылкі, якія былі ў „Правде" ў пытаньні адносін да вайны ў сакавіковыя дні (пасьля ўступленьня ў рэдакцыю Л. Б. Каменева). Адно за другім „Правда" ставіць і вырашае пытаньні высоўваемыя быстрым ходам разварачываючайся рэволюцыі.

Яна выкідвае лёзунг—улада саветам. Яна разаблачае запраўдную буржуазную прыроду часовага ўраду ўсіх складаў, вядзе барацьбу з

кераншчынай, яна стаіць за адзінаўладарнасьць саветаў, за іх узмацненьне. Яна выступае супроць імпэрыялістычнай вайны, супроць усіх урадаў, якія вядуць яе, супроць „займа свободы“, яна разаблачае рэволюцыйнае абароньніцтва правых соцыялістых, яна заклікае салдат да братаньня на фронце. Яна ўскрывае замыслы контр-рэволюцыі, заве да барацьбы з ёю.

Яна—за хуткую конфіскацыя зямель памешчыкаў, за рабочы кантроль. Яна—за стварэньне запраўднага рэволюцыйнага Інтэрнацыяналу. Уся праграма бальшавізму разьвернута ў гэтыя месяцы на старонках „Правды“.

Голас бальшавіцкай прэсы гучыць дысанансам сярод галасоў буржуазнага і соцыял-здрадніцкага друку ўсіх адценьняў і назваў. Бальшавіцкія органы друку—у першаю чаргу „Правда“—церпяць самую жорсткую траўлю. З старонак варожага друку льюцца патокі маны, накірованай да таго, каб які-бы там ня было чынам дыскрэтырываць бальшавізм (легенда аб рэдагаваньні Мірона Чорнамазава, легенды аб бальшавіках-нямецкіх агентах). Робяцца асобныя захады стрымліваць распаўсюджваньне „Правды“.

Буржуазныя друкарні адмаўляюцца друкаваць „Правду“. 5 (18) ліпеня вoінскай часткай разгромлена рэдакцыя і друкарня „Правды“ (апошняя створана на афяраваньні рабочых).

Ленін і Зіноўеў прымушаны скрывацца. 6 (19) ліпеня ў Петраградзе забіты на вуліцы рабкор П. Воінаў, які прадаваў на пярэдадні газэту. Часовы ўрад ня раз зачыняе „Правду“. За час кераншчыны газэта шэсьць раз была вымушана мяняць сваю назву („Правда“, „Листок“, „Правда“, „Рабочий и солдат“, „Пролетарий“, „Рабочий“, „Рабочий путь“). Аналёгічныя прасьледваньні абвальваюцца таксама на органы бальшавіцкага друку ў провінцыі і на фронце (зачыненьне газэт, арышт рэдактара „Окопной Правды“ паручыка Хаустова).

Умовы, у якіх даводзіцца выходзіць бальшавіцкаму друку, прымушаюць успомніць часы царызму. Але на баку „Правды“ і яе супрацоўнікаў падтрыманьне рэволюцыйных мас.

У рэволюцыйны рух у 1917 г. уцягнена сялянства, уцягнена армія, у большасьці сваёй, яна складалася з сялян. Неабходнасьць барацьбы за ідэёвае заўладаньне сялянствам і арміяй, якія ня могуць задаволіцца газэтамі для гарадзкіх рабочых, выклікае паяўленьне новых тыпаў бальшавіцкіх выданьняў—газэт сялянскіх і армейскіх (апошні тып не зьяўляецца новым у гісторыі рабочага друку: 1906—1907 гг. партыя выдавала шэраг газэт прызначаных спэцыяльна для агітацыі сярод солдат). Вясною ўзьнікаюць бальшавіцкія армейскія газэты („Окопная Правда“ на фронце, „Солдатская Правда“ ў Петраградзе“), увосень нараджаецца бальшавіцкі сялянскі друк („Деревенская Беднота“ ў Петраградзе, „Деревенская Правда“ ў Маскве).

### Дзесяцёхгадовы шлях савецкага друку

Пасьля перамогі Кастрычнікавай рэволюцыі савецка-партыйны друк далёка не адразу становіцца адзіным друкам у Савецкай рэспубліцы. Існуе яшчэ буржуазны друк. Зьяўляючыся ў пачаўшайся грамадзянскай вайне магутным аружжам у руках варожае нам клясы, выступае з контр-рэволюцыйнай агітацыяй, яна выступае праціўнікам, якога неабходна зьнішчыць.

Савецка-партыйным выданьням прыходзіцца весьці барацьбу з буржуазнай прэсай, бяз жаласьці выкрываць яе контр-рэволюцыйныя

замыслы. З другога боку ў барацьбу з буржуазным друкам павінна выступіць Савецкая ўлада.

У першыя-ж дні Кастрычнікавай рэволюцыі ў Петраградзе і ў провінцыі было зачынена шэраг буржуазных выданьняў. У далейшым зачыненьні адбываюцца паступова. Барацьба з буржуазнай прэсай ідзе як па лініі судовых прасьледваньняў (установа рэволюцыйнага трыбуналу друку ў сьнежні 1917 г.), так і па лініі пазбаўленьня гэтага друку яго матар'яльнай базы (у 1917 г. уведзена дзяржаўная манаполія на абвесткі, у 1917—1918 гг. нацыяналізацыя друкарань і папяровых фабрык) толькі з восені 1918 г. буржуазны друк перастае існаваць.

Шырыцца і расьце савецка-партыйны друк у гады грамадзянскай вайны. У гэтыя часы на долю друку выпадае бліжэйшы ўдзел у справе організацыі абароны Савецкай Рэспублікі. У тылу, на фронтах, у вызваленых ад белагвардзейшчыны мясцовасьцях—усюды, ня гледзячы на цяжкія ўмовы працы савецка-партыйны друк выконвае сваю задачу, організуе шырокія масы рабочых і сялян на барацьбу з ворагамі Савецкай улады, тлумачачы менш сьвядомым з працоўных значэньне гэтае барацьбы.

У гэты гэроічны пэрыод сваёй гісторыі савецка-партыйны друк, захоплівае ўсё новыя і новыя колы чытачоў, выступае як адзін із організатараў перамогі над белагвардзейскай контр-рэволюцыяй. Роўналежна з дзейнасьцю совецкага друку, павінна быць адзначана вялізарная праца падпольнага бальшавіцкага друку на белагвардзейскай тэрыторыі.

Ліквідацыя фронтаў грамадзянскай вайны і пераход да нэпу высоўваюць перад савецка-партыйным друкам новыя задачы. Ён становіцца ўдзельнікам вялікага будаўніцтва, змагаецца на ўсіх фронтах будаўніцтва соцыялізму. Мобілізуе вакол сябе масы працоўных, прыцягвае да аднаўленьня разбуранае гаспадаркі краіны.

Рупар УКП(б) і Савецкай улады ён асьвятляе ўсе задачы, высунутыя на чаргу жыцьця Савецкага Саюзу. Колькасьць праведзеных друкам кампаній аграмадна. Пытаньні індустрыялізацыі краіны, пытаньні рацыяналізацыі вытворчасьці і падняцьце вытворчасьці працы, пытаньні барацьбы за рэжым экономіі, за зьніжэньне цэн, пытаньні коопэрацыі, пытаньні падняцьця сялянскай гаспадаркі, пытаньні ажыўленьня саветаў, барацьбы з бюрократызмам і валакітай, пытаньні культурнага будаўніцтва, новага быту—усе гэтыя пытаньні, узьнятыя апошнімі часамі на калёнках савецкага друку,—толькі нязначная частка тых пытаньняў, якія асьвятляліся за гады мірнага будаўніцтва.

Разам з тым партыйнаму нашаму друку за гэтыя-ж годы прыходзілася згрупоўваць сваю ўвагу на ўноў узьнікнутых ухілах партыйнай мысьлі, выступаючы абаронцам пачаткаў Ленінізму, супроць усякіх захадаў да іх рэвізіі.

Характэрнай рысай Савецка-партыйнага друку зьяўляецца буйны рост рабселькораўскага руху. У гады Кастрычнікавай рэволюцыі, апрача рабочых, для работы ў газэце ўцягваюцца дзесяткі тысяч сялян, чырвонаармейцаў.

Вялікі рост рабселькораўскага руху прывёў да неабходнасьці стварыць організацыйныя формы гэтага руху, павесьці выхаваўчую работу сярод рабселькораў. Гэты-ж рух выклікаў да жыцьця новую форму газэты: поруч з друкаванай становіцца газэта насьценная (рукапісная)—газэта прадпрыемства, установы, газэта вузка-мясцовая, аднак ня губляючы ад гэтага свайго значэньня. Сотні тысяч рабселькораў, дзесяткі тысяч насьценных газэт па Савецкаму Саюзу відочна паказалі ўсё грамадзка-політычнае значэньне гэтае зьявы. Аб гэтым сьвед-

чаць і прасьледваньні рабселькораў. Зьяўляючыся сродкам уцягненьня мас у грамадзка-палітычнае жыцьцё, рабселькораўскі рух стаіць на першым месцы поруч з формай сувязі газэты з чытачом.

Другой характэрнай рысай у гісторыі савецка-партыйнага друку зьяўляецца пашырэньне кола чытачоў далёка за прадзелы дарэвалюцыйнай чытачоўнай аўдыторыі.

Гады Кастрычнікавай рэвалюцыі зьмянілі пры гэтым соцыяльны склад масы чытачоў.

Выпала белая эміграцыя, якая да рэвалюцыі давала значны процант чытачоў. Затое выйшла замена іх і гэтае кола пашыралася за лік стварэньня новых кадраў чытачоў—рабочых, сялянскіх, нацыянальных. У рэвалюцыйны рух уцягнены, удзел у соцыялістычным будаўніцтве прымаюць слаі, якія раней стаялі ў баку ад грамадзка-палітычнага жыцьця, узьняўся процант пісьменных у краі. Адсюль няспыняецца выдзяленьне ўсё новых і новых чытачоў.

Вялікія задачы, якія сталі перад савецка-партыйным друкам зараз-жа пасьля кастрычнікавага перавароту паставілі пытаньне і будаўніцтва самога друку.

У процэсе рэвалюцыі высоўваліся і афармляліся новыя тыпы савецкага друку (у залежнасьці ад кола чытачоў, для якіх прызначаліся выданьні). Стварыўся друк нацыянальных меншасьцяй. Узрос сялянскі друк. Разьвіўся масавы рабочы друк. Паявіліся выданьні зьмешанага тыпу (у раб.-сялянскіх раёнах).

Адначасова выпрацаваліся тыпы друку профэсыйнага, чырвонаармейскага (або вайсковага), жаночага. Паявіўся комсамольскі друк.

Процэс афармленьня тыпаў савецка-партыйнага друку яшчэ не закончыўся. Ня менш складаным былі і пытаньні адносна сеткі савецка-партыйных выданьняў. Тыпы газэт складаліся таксама і ў залежнасьці ад радыусу іх распаўсюджваньня і ад абслугоўваньня імі тэрыторыі.

У сучасных умовах, калі мобілізацыя мас вакол асноўных лёзунгаў партыі і Савецкай улады становіцца важнейшай справай усёй савецкай грамадзкасьці, асабліва буйную роль прызваны адыграць друк. Ужо адзін той факт, што тыраж савецка-партыйных газэт зараз складае да 8 мільёнаў экз. і, знача, увесь пісьменны СССР дзякуючы газэце з дню ў дзень прыцягваецца да штодзённага будаўніцтва краіны. Розныя організацыйныя шляхі, якімі газэты ўзмацняюць непасрэдную сувязь з масамі (конфэрэнцыі чытачоў, агляды, конкурсы, перапіска і др.), дапамагаюць узмацненьню значэньня друку, як аружжа сувязі партыі з масамі.

Глыбака праходзячы ў рабоча-сялянскія масы да соцыялістычнага будаўніцтва, друк зьяўляецца адным з моцных рычагоў рабочае клясы ў агульнай складанай сыстэме дыктатуры пролетарыяту і ў яго барацьбе за ажыцьцяўленьне соцыялізму. Вось чаму „Дзень друку“ зьяўляецца сьвятам шырокіх рабочых і сялянскіх мас.

## „Дзень Друку“

Штогодна мы адзначаем „Дзень друку“,—дзень, калі мы спыняем увагу працоўных Савецкага Саюзу на гістарычнай ролі рабочага друку, на дасягненьнях і задачах савецкай прэсы,—мае сваю гісторыю. У пяршыню, у 1914 г., па мысьлі старой „Праўды“, парашано было дзень выхаду яе, 22 красавіка (5 мая), аб‘явіць „Днём рабочага друку“ і адчыніць спэцыяльны збор афяраваньняў у „зялезны фонд „Праўды“.

Ліквідатары-меншавікі таксама парашылі аб‘явіць гэты дзень „днём рабочага друку, а збор падзяліць папалам. Да іх далучыліся нават соцыялісты-рэволюцыянэры, якія дамагаліся разьдзелу сабраных грошаў на тры роўныя часткі. Агітацыя тых і другіх ня мела посьпеху, і „Дзень рабочага друку“ ў 1914 г. быў праведзены бальшавікамі. У гэты дзень чарговы № „Пути Правды“ (№ 67) з артыкуламі аб рабочым друку разыйшоўся больш чым у 100.000 экз.

Рабочаму друку, у прыватнасьці двухгадовай гадавіне „Правды“ прысьвечаны былі намяры рабочых журналаў, якія выходзілі тады легальна. Паявіўся ў гэты дзень таксама № 1 „Рабочий“, прысьвечаны гісторыі рабочага друку ў Расіі (артыкулы Леніна і Зіноўева). Рабочыя ў „зялезны фонд“ сабралі да гэтага дню 18.000 руб. У далейшыя годы сьвяткаваньне „Дню рабочага друку“ не магло адбыцца, бо рабочы друк быў задушаны царскім самаўладзтвам.

Толькі ўжо ў 1912 годзе партыя прызнала мэтазгодным аднавіць сьвяткаваньне „Дню друку“.

У гэтым (1927) годзе, ён саўпадае з пятнацёхгадовым юбілеем, з пятнаццатай гадавінай з дню выхаду першага нумару „Правды“ і з дзесятым годам існаваньня савецкага друку.

Пятнаццаць год назад, раніцай, калі выходзіў з машыны першы ліст „Правды“,—у рэдакцыі сабраліся вітаць доўгачаканую газэту прадстаўнікі пецярбургскіх профэсыйных і культурна-асьветных рабочых таварыстваў.

Цяпер кожны нумар „Правды“ гатовы вітаць мільёны працоўных.

З. Давідовіч

# Партыя, рабселькоры і насьценгазэты

(*да двухтыднёвіка друку*)

Колькасны склад рабселькораў у Беларусі да 1926 г., па няпэўным весткам нашых газэт, вызначаецца ў наступных лічбах: рабкораў 736, селькораў 2380, іншых 125 ч. На першае студзеня 1927 г. маецца рабселькораў, якія прымаюць удзел у нашых цэнтральных і акруговых газэтах: рабкораў 1876, селькораў 2232, іншых 450. Партыйцаў і комсамольцаў маецца да 30% агульнага складу.

Трэба адзначыць, што статыстыка аб рабселькорах кульгае. Рабселькораў наогул цяжка вучэсьць і яшчэ ня ўсе газэты займаюцца гэтым. Паказаныя лічбы даюць прадстаўленьне аб актыву рабселькораў, якія стала ўдзельнічаюць у нашым друку. Маецца бязумоўна яшчэ больш значны лік пішучых нерэгулярна ў нашых газэтах, пішучых у цэнтральныя і комсамольскія газэты. Акрамя таго, у паказаныя лічбы не ўваходзяць рабселькоры, якія пішуць толькі ў насьценгазэты, а іх па самаму скромнаму падліку каля 15—20 тысяч.

Ролю рабселькораў у палітычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве можна вучэсьць перш усяго на грунце іх удзелу ў асноўных кампаніях бягучага пэрыоду.

Рабселькораўскія нататкі па ўсім кампаніям уносілі ажыўленьне, давалі практычны зьмест, концэнтравалі ўвагу працоўных вакол практычных пытаньняў нашага будаўніцтва. Допісы рабселькораў будзіравалі, штурхалі нашыя ўстановы, гаспадарсьцьвеньнікаў і адміністратараў, асабліва ў адносінах рашучай барацьбы за правядзеньне рэжыму экономіі. Так, на заводзе Домбаля дасягнута экономія ў 40.000 рублёў дзякуючы прапановам рабкора т. Фрыда.

Газэта „Звезда“ праводзіла кампанію экономіі апалу; па прапановам рабкораў было ўведзена прэміраваньне качагараў за экономію апалу, што практыкуецца зараз на многіх прадпрыемствах і дае значныя вынікі.

Шмат дасягненьняў маецца ў адносінах удзелу рабселькораў у барацьбе з бюрократызмам. Было многа карысных прапаноў аб скарачэньні апарату, валакіты і г. д. У справе міліцыі, па прапанове рабкора, маюцца дасягненьні ў справе ўпрошчэньня дзелаводзтва, больш уважлівых адносін да грамадзян. Некалькі інакш абстаіць справа з кампаніяй зьніжэньня цэн. Рабкораўская маса ў ёй недахопна ўцягнута. Пагэтаму амаль што ўва ўсіх газэтах гэта кампанія праходзіць вяла, няма патрэбнага тэмпу.

У газэце „Камуніст“ (Бабруйск) праведзена некалькі дыскусіяў па пытаньням культурна-бытавога характару. Рэдакцыяй была атрымана нататка селькораў, у якой гаварылася, што Савецкая ўлада не дае асьветы сялянскім дзецям. У працягу 10 дзён па гэтай нататцы паступіла 35 водгукаў супроць аўтара гэтай корэспондэнцыі. У дыскусіі аб сям'і і

шлюбе паступіла болей 70 нататак на працягу 2 тыдняў. Вялікую ролю выпаўняюць селькоры ў барацьбе з усялякімі забабонамі ў сялянскім побыту.

Шмат селькораў зьяўляюцца прыкладнымі культурнымі гаспадарамі. Так, па Бабруйскай акрузе маюцца 64 селькоры, якія сеюць караньплоды, 72 селькоры сеюць травы, 66 селькораў ўцяпляюць хлявы.

Судзіць аб палітычнай ролі рабселькораў можна па двух апошніх кампаніях аб Зах. Беларусі і перавыбарах саветаў. Па ініцыятыве селькораў скліваліся сходы сялян, дзе прымаліся рэзолюцыі, протэсты, сабіраліся сродкі на дапамогу галадаючым сялянам у Зах. Беларусі.

Асабліва важнай была роля рабселькораў у справаздачна перавыбарнай кампаніі саветаў. Можна сказаць, што ў шэрагу месц селькоры сыгналізавалі кулацкую небясьпеку. Бабруйскі АК КПБ меў магчымасьць па лістох селькораў загадзе ўбачыць, у якіх пунктах кулакі вядуць працу.

Трэба адзначыць, што ўдзельная вага рабселькораў за апошні пэрыод паднялася. Факты гавораць, што з рабкорамі на прадпрыемствах лічацца, да іх думкі прыслухоўваюцца, ня толькі з боязьні быць прапечатаным у газэце, але і таму, што адміністрацыя адчувае рабкора, як уважлівага наглядальніка і дзельнага крытыка. Тое-ж самае і ў адносінах селькораў; на лісты рэдакцыі ў розныя організацыі і ўстановы па селькораўскіх нататках адказы атрымоўваюцца больш часта, амаль нормальна. Вялікая колькасьць корэспондэнцый ідзе на расьследваньне. Ёсьць пералом з боку нашых устаноў у сэнсе рэагаваньня на нататкі, але ўсё яшчэ маецца шмат выпадкаў казённай адпіскі, не сур'ёзных адказаў на запытаньні рэдакцыі. Па нататцы рабкора Львова (завод „Леніна"—Барысаў) аб вытворчых недахопах, быў атрыманы няістотны адказ, які меў характар казённай адпіскі, а паміж тым факты рабкора пацьвердзіліся. Газэта „Звезда" гаворыць, што з 100 адказаў на запытаньні—60 носяць характар казённай адпіскі. Характэрна тое, што за апошнія годы „Звезде" давялося прыцягнуць да адказнасьці толькі аднаго аўтара корэспондэнцыі за ашуканства. Рабкораўскія нататкі на 70—80% падцьвярджаюцца. Так, Віцебская „Заря Запада" за 6 месяцаў паслала ў прокуратуру 434 нататкі, з якіх 227 атрымалі здавальняючыя адказы, 37 накірованы на расьследваньне, толькі 41 не атрымалі ходу з прычыны недаказанасьці. Вынікі рабкораўскіх корэспондэнцый сказваюцца. Па вестках „Белар. Вёскі", за апошнія два месяцы зьняты з працы 7 чалавек, аштрафаваны 3 і г. д.

Колькасьць прасьледваньняў за апошні пэрыод паменшылася. Аднак, маюцца весткі аб пагрозах селькорам, ёсьць выпадкі пакушэньняў на забойствы і г. д. У адносінах рабкораў ёсьць пагрозы звальненьня з прадпрыемства. Так у 1926 г. зволены з Наркамсабезу т. Марозенко, за рабкораўства на цагляным заводзе ў Копысі зьнялі з працы рабкора за тое, што ён вылаяў коопэрацыю. Характэрна тое, што адміністрацыя часта шукае прычыны для звальненьня рабкора за яго рабкораўскую працу.

* * *

Адмоўныя зьявішчы ў рабселькораўскім руху тыя самыя, што наглядаюцца ў рабоча-сялянскай масе і адбіваюць настроі новых пластоў рабочых ў горадзе і дробна-буржуазную ідэалёгію ў вёсцы. Было некалькі выпадкаў, калі рабкоры ашуквалі давер'е да іх з боку рэдакцыі і пападаліся ў розных праступках. Гэткіх рабкораў выганяюць з рабселькораўскіх організацый. Некаторыя рабкоры амаль

выключна займаюцца „разоблачением“. Яны лічаць, што калі пісаць, дык абавязкова аб якім-небудзь недахопе. У агульнай масе рабкораўскага матэрыялу, шмат корэспондэнцый, г. з. служкораў, але рэдакцыі стараюцца рэгуляваць зьмяшчэньне матэрыялаў так, каб мінімум месца ў газэце было прадастаўлена здаровым нататкам рабкораў. Як адзінкавыя выпадкі, можна адзначыць, што некаторыя рабкоры глядзяць на газэту, як на сродак для дасягненьня сваіх паасобных мэтаў. З гэтымі рабкорамі рэдакцыі вядуць самую бязьлітасную барацьбу. Усе паказаныя зьявішчы сярод рабкораў зьяўляюцца адзінкавымі і не ўяўляюць сабою якойсьці пагрозы для ўсяго рабкораўскага руху. Гэтыя выпадкі зьнішчаюцца ў парадку штодзённага кіраўніцтва з боку рэдакцый і парторганізацый. Сярод селькораў наглядаюцца выпадкі, калі пішуць толькі для атрыманьня гонорару. Ёсьць такія селькоры, якія раней чым пісаць, прысылаюць пытаньні, ці будуць плаціць і колькі. Пагоня за гонорарам выклікае конкурэнцыю сярод селькораў, асабліва там, дзе маюцца некалькі селькораў у аднэй вёсцы. Ёсьць жаданьне напісаць як мага болей, аб чым выгодна, без праверкі фактаў.

Ёсьць факты злоўжываньня селькораўскім званьнем. Часта чуем заявы селькораў, што іх прасьледуюць, хочуць забіць і г. д., а сапраўды аказваецца, што нічога гэтага няма. Некаторыя селькоры патрабуюць ад рэдакцыі, каб далі селькораўскі мандат, рэвольвэр. Ёсьць праяўленьні чванства: селькор заяўляе селяніну альбо працаўніку— ты, бач, трымайся, а то глядзі, напішу пра цябе ў газэту“...

Шырокай, глыбокай выхаваўчай організацыйнай працай сярод рабселькораў можна будзе ўсе гэтыя адмоўныя зьявішчы зьнішчыць.

**Насьценныя газэты.** У справе ўцягненьня шырокіх працоўных мас у соцыялістычнае будаўніцтва, вялікую ролю адыгрываюць рабселькоры. Ужо гаварылася аб тым, што рабселькоры сваімі допісамі прыкоўваюць увагу мас да асноўных пытаньняў бягучага пэрыоду. У гэтых адносінах вялікую працу праводзяць рабселькоры праз насьценныя газэты, якія шырокай сеткаю абхапілі ўсе нашы прадпрыемствы, установы, вёскі. Калі лічыць на кожную вакругу па 150 газэт (а іх ёсьць яшчэ болей) дык усяго будзе 1.800 газэт, вакол якіх групуюцца па 10-15 рабселькораў. Самы факт існаваньня газэты, якая зьяўляецца продуктам творчасьці мас, выклікае масы да актыўнага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці і будаўніцтве.

Парткіраўніцтва насьценгазэтамі ажыцьцяўляецца шляхам выдзяленьня партыйцаў у рэдколегію. Ува многіх мясцох насьценгазэтаю кіруюць культкамісіі заўкомаў, лічачы гэта часткаю культпрацы. У гэтых выпадках партячэйкі мала цікавяцца насьценгазэтамі. Такія зьявішчы наглядаюцца ў большасьці нашых прадпрыемстваў. Выдзеленыя партячэйкай члены рэдколегіі не заўсёды адпавядаюць гэтай рабоце, яны звычайна зьяўляюцца кантралёрамі, адбіваюць ініцыятыву.

Яшчэ пакуль няма пералому ў адносінах усваеньня лініі партыі аб шырокай выбарнасьці рэдколегіі насьценгазэт. Характэрна, што насьценгазэта, як правіла, лічыцца органам ячэек КПБ, ЛКСМБ, заўкому, сельсавету, а не рабочых, служачых, сялян. У выніку гэтага, навакол насьценгазэты не ўтвараецца актыў; насьценгазэты тады становяцца хваравітымі, губляецца цікавасьць з боку мас да сваіх-жа газэт.

**Парткіраўніцтва.** Чарговыя задачы партыі ў галіне рабселькоруху даволі чотка вызначаны ў пастанове ЦК УсеКП ад 28 жніўня 1926 г., і ў прамове т. Бухарына на 3 Усесаюзнай Нарадзе рабсель-

кораў пры „Праўдзе“. ЦК КП(б)Б на грунце гэтых дырэктыў высунуў перад парторганізацыямі задачу ўмацаваньня партыйнага кіраўніцтва гэтым рухам.

Апошні пэрыод характарызуецца ўзросшай увагай партыі да пытаньняў кіраўніцтва рабселькораўскай працай. Мы мелі ў Беларусі цэлую паласу раённых і акруговых нарад рабселькораў, якія прахо-дзілі пад лёзунгамі задач партыі і рабселькораў. На гэтых нарадах мы чулі дзесяткі выступленьняў беспартыйных, якія гаварылі аб правядзеньні ў жыцьцё дырэктыў партыі ўва ўсіх галінах нашага будаўніцтва, аб гатоўнасьці працаваць пад кіраўніцтвам партыі і ажыцьцяўляць партыйную лінію ўва ўсёй сваёй дзейнасьці.

Рабселькоры сталі бліжэй да партыі, вырасла давер‘е да яе. Трэба адзначыць, што, калі сярод рабкораў гэты факт бясспрэчны, дык сярод селькораў справа некалькі інакш абстаіць. Селькоры, маючы давер‘е да партыі, прызнаючы сябе праваднікамі партуплыву ў масах, аднак, праяўляюць недавер‘е да мясцовых комуністых, і да партячэек „Дырэктывы партыі добрыя, а вось нашыя партыйцы кепска іх ажыцьцяўляюць“—так гавораць селькоры. Вядома што выпадкі гэтыя адзінкавыя і тлумачацца тым, што да апошняга часу парткіраўніцтва з боку нізавых парторганізацый амаль што зусім ня было. Трэба яшчэ адзначыць, як агульнае зьявішча, што ня ўсе парторганізацыі ведаюць прынцыпы і мэтоды парткіраўніцтва рабселькорамі.

Кіраўніцтва рабселькорамі ідзе па двум лініям, з боку нізавых парторганізацый і рэдакцый газэт. За апошні час рэдакцыі замацавалі сваю працу сярод рабселькораў. Акрамя пісьменнага інструктаваньня існуюць пры рэдакцыях сталыя рабкораўскія нарады. Трэба адзначыць, што кіраўніцтва затрудняецца тым, што ў нашых рэдакцыях і парторганізацыях вельмі мала добра падрыхтаваных таварышоў для гэтай працы.

* * *

Галоўнай задачай двухтыднёвіка друку заключаецца ў тым, каб уцягнуць шырокія масы да нашага друку. Рабселькоры і зьяўляюцца тым зьвяном грамадзкіх прадстаўнікоў, якое злучае наш савецка-партыйны друк з працоўнымі масамі, прыцягваючы іх да актыўнага ўдзелу ўва ўсім соцыялістычным будаўніцтве. Вось чаму партыйныя організацыі павінны асноўную ўвагу ў правядзеньні двухтыднёвіка зьвярнуць на ўзмацненьне працы сярод рабселькораў, і ў першую чаргу на ажыцьцяўленьне партыйных дырэктыў у адносінах кіраўніцтва рабселькорамі і насьценгазэтамі.

Практычнымі мерапрыемствамі павінны быць:

а) шырокая кампанія справаздач рэдколегіі насьценгазэт на шырокіх сходах рабочых, служачых, сялян. Трэба організоўваць шырокую крытыку насьценгазэты, дзе можна правесьці дыспуты і суды над насьценгазэтай;

б) адначасова правесьці перавыбары рэдколегіі, забясьпечыўшы ў яе складзе, найбольш актыўных сьценкораў і партыйцаў, якія карыстаюцца аўторытэтам сярод сьценкораў і наогул усяго прадпрыемства. Перавыбары трэба праводзіць таксама на шырокіх адчыненых сходах сьценкораў;

в) утварыць навокал насьценгазэты сьценкораўскі актыў, аб‘яднаўшы яго ў гурток пры газэце. Парт‘ячэйкі павінны дапамагчы гуртку ў яго працы;

г) пераіменаваць насьценгазэты ў органы ўсіх рабочых, сялян, служачых, вучняў і г. д.

Некаторыя думаюць, што ўсе гэтыя мерапрыемствы могуць паслабіць партуплыў на рабселькораў і насьценгазэты, што выбарнасьць рэдколегіі, пераіменаваньне насьценгазэты—усё гэта адрывае газэту ад парткіраўніцтва. Тут вялікая памылка. Трэба разумець, што рабселькоры зьяўляюцца грамадзкай, добраахвотнай організацыяй, што насьценгазэты зьяўляецца продуктам творчасьці мас, калі ня так, дык яна зусім непатрэбна, бо ня можа адпавядаць свайму назначэньню. Пагэтаму зразумела, што трэба ўсю гэтую працу пабудаваць па прынцыпу самадзейнасьці, шырокай ініцыятывы мас, на грунце шырокай дэмократыі. Парткіраўніцтва павінна ўзмацняцца праз камуністых і комсамольцаў, якім партыя даручае гэтую працу. Парт'ячэйкі павінны больш увагі ўдзяліць, больш дапамагчы гурткам і насьценгазэтам, стала кіраваць імі, але мэтодамі пераконваньня для таго каб, выхоўваць рабселькораў, як моцную грамадзкую сілу, праз якую партыя зможа ўцягваць масы ў справу будаўніцтва соцыялізму.

А. Крыніцкі

# Да пытаньня аб нацыянальнай культуры

*(Пра кнігу тав. Ваганяна „О национальнай культуре". Дзярж. Выд. 1927)*

Пытаньні будаўніцтва культуры сьцягваюць на сабе ўсё большую ўвагу партыі. Зразумела, задача соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі, індустрыялізацыя і коопэраваньне краю не вырашальна бяз усё больш актыўнага культурнага ўздыму краю, больш хуткага руху і „культурнай рэволюцыі", без забясьпячэньня соцыялістычнага шляху культурнага разьвіцьця. Задачы будаўніцтва культуры асабліва складаны ва ўмовах нацыянальных рэспублік, краёў.

Кніга тав. Ваганяна „О национальной культуре" таму заслугоўвае ўвагі, што яна ставіць на абмеркаваньне шэраг чарговых пытаньняў культуры, у іх пастаноўцы ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі—ставіць пытаньні нацыянальнай культуры. Тым з большай сілай трэба вылучыць памылковае і спрэчнае ў кніжцы тав. Ваганяна.

Капіталістычныя элемэнты нашай экономікі ў пэрыод НЭП'у знаходзяць сваё палітычнае выражэньне ў некаторым адраджэньні і асьвяжэньні буржуазна-дэмократычных палітычных тэндэнцый. Іх насіцелі—нэпман, кулацкая вёска, частка маладой інтэлігенцыі, зьвязаная з гэтай буржуазнай прапластоўкай, часткова—старыя прадстаўнікі буржуазнай інтэлігенцыі.

Гэтыя буржуазна-дэмократычныя тэндэнцыі набываюць нацыяналістычную афарбоўку, тым самым спрабуючы замаскавацца. Гэтакая ўстралаўшчына, якая пасьля дэклярацыі аб „прызнаньні" савецкай улады даволі хутка перакаалася ў яе клясавай сутнасьці і выкрыўшы відочна свае буржуазна-дэмократычныя позыцыі паказала ва ўсёй няпрыгожасьці свой твар расійскага нацыяналізму. Гэткая, у БССР, лістападаўшчына,—маленькая група інтэлігенцыі, аднолькава бясьсільная ў сваіх дзеяньнях і сымптоматычная па сутнасьці, асуджаная ў 1921 г. пасьля шырокага процэсу,—лістападаўшчына, якая сваю анты-пролетарскую і анты-савецкую істоту прыкрыла нацыяналістычнымі лёзунгамі нацыянальнага вызваленьня, „незалежнасьці Беларускай Рэспублікі". Якраз таксама сыянізм, прадстаўнікі якога паходзяць з нэпманскіх яўрэйскіх колаў, зьяўляецца нацыяналістычным прыкрыцьцём анты-савецкай програмы буржуазных і дробна буржуазных колаў яўрэйскага насяленьня. Можна паказаць шэраг падобных фактаў.

Сутнасьць буржуазна-дэмократычнай ідэолёгіі нацыяналізму зусім яўна выкрываецца па-за СССР,—гл., напрыклад, беларускі нацыянал-дэмократызм, які махрова расьцьвіў у спрыяльным клімаце Пілсудчыны ў выглядзе „Сялянскага Саюзу" Ярэміча, Рагулі ды іншых прадажных паноў, так зван. „Беларускіх дзеячоў Польшчы". Глядзі, напрыклад,—УНДА „Украінскае нацыянальна-дэмакратычнае аб'яднаньне"—на Украіне, якое знаходзіцца ў межах Польшчы, вядзе заўзятую

нацыяналістычную і анты-савецкую політыку. Гэтая сутнасьць відочна выкрываецца ў рамках нелегальнай працы, дзе кропкі ставяцца над і—гл., лістападаўшчына ў БССР.

Аднак, умовы дыктатуры пролетарыяту не падыходзяць для вольнага разьвінаньня політычнай програмы нацыянал-дэмократызму. Вось чаму ён шукае і знаходзіць другія формы свайго разьвіцьця: галіна культурнага будаўніцтва зьяўляецца пакуль што больш або менш выгоднай арэнай для працягваньня нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі. Праўда тав. Ваганяна, калі ён кажа:

„Нацыяналістычная контр-рэволюцыя шукае новых формаў, новых шляхоў для ажыцьцяўленьня сваіх ідэалаў (калі можна казаць аб ідэале нацыяналізму), яна шукае новых мэтаў для атручваньня грамадзкай сьвядомасьці. Такімі шляхамі цяпер зьяўляюцца тыя шматлікія пытаньні, якія ўваходзяць у паняцьце „нацыянальная культура“[1]).

Сапраўды пытаньні нацыянальнай культуры ў нашым краі робяцца ўсё больш актуальнымі, бо ў гэтай галіне пачынае разьвівацца ажыўленая клясавая барацьба. Кніга т. Ваганяна—у сваёй другой практычнай частцы—каштоўная,—ня гледзячы на яе блытанае і ў шмат якіх момантах памылковае тэорытычнае ўгрунтаваньне,—тым, што яна загастрае шэраг чарговых пытаньняў будаўніцтва культуры, што яна накіравана іменна супроць буржуазнага нацыяналізму.

Праўда, організацыі партыі павінны разьвінуць куды большую працу ў галіне культуры:

„Політыка роўнадушства да пытаньняў будаўніцтва культуры, самая небясьпечная політыка. Яна мае толькі тое апраўданьне, што памылкі ў гэтай галіне не даюць непасрэдна паграрожальных вынікаў; але адсутнасьць непасрэднай пагрозы яшчэ-ж ня ёсьць адсутнасьць небясьпек. Часьцей за ўсё падобная адсутнасьць і ёсьць найбольшая пагроза[2]).

Стаўшы на шлях шпаркага гаспадарчага росту, наш край ахопліваецца ўсё большай політычнай актыўнасьцю рабочых, сялян. Разьвіваецца культурнае жыцьцё ды будаўніцтва. Па якім шляху пойдзе культурнае жыцьцё? Пролетарскі шлях культурнага разьвіцьця забесьпячаецца нарастаньнем соцыялістычных элемэнтаў нашай экономікі ды актыўнай працай партыі над разьвіцьцём культуры. Аднак, пакуль у шэрагу галін культурнае будаўніцтва вядзецца бяз досыць актыўнага ўдзелу пролетарыяту ды яго партыі. Адначасна маскуючыся „згодай“ з усёй, паасобку-нацыянальнай політыкай партыі, прадстаўнікі (больш або менш яўныя) буржуазна-дэмократычнай ідэолёгіі працягваюць сваю „політыку“, прыкрываючы сваю працу маскай „нацыянальнай культуры“. Гэта дае падставы т. Ваганяну сьцьвярджаць, што лёзунг „нацыянальнай культуры“ ёсьць буржуазны, рэакцыйны, лёзунг.

Тав. Ваганян не разумее таго, што лёзунг нацыянальнай культуры зрабіўся нашым лёзунгам пры дыктатуры пролетарыяту,—гэта зьяўляецца яго карэннай памылкай.

Востра накіраваная *супроць нацыяналізму*, тым ня менш сваёй тэорытычнай пастаноўкай кніга т. Ваганяна вядзе да *абяззбройваньня партыі ў барацьбе з нацыяналізмам*, іменна таму, што ў шэрагу пытаньняў яна пераскоквае цераз партыйную лінію ў нацыянальным пытаньні, што ў сваю чаргу зьяўляецца вынікам яго недаўразуменьня шэрагу момантаў кіраўніцтва пролетарыяту ў пераходны пэрыод, пэрыод дыктатуры пролетарыяту.

У канечным выніку такая пастаноўка пытаньня харчуе памылкі *недаацэнкі нацыянальнага моманту*, недаацэнкі нацыянальных асаблівасьцяй ва ўсім нашым будаўніцтве, памылкі *„спрашчэнства“* ў пытаньнях нацыянальнай культуры.

---

[1]) Ваганян. „О национальной культуре“, стар. 6.
[2]) Ваганян. „О национальной культуре“, стар. 96.

Як Ленін ставіў агульнае пытаньне культуры пасьля пролетарскай рэволюцыі? Ленін казаў:

„Бяз яснага разуменьня таго, што толькі дакладнай ведай культуры, створанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі перапрацоўкай яе можа стварыць пролетарскую культуру—без такога разуменьня нам гэтай задачы ня вырашыць.

Пролетарская культура не зьяўляецца культурай, што выскачыла невядома адкуль, не зьяўляецца выдумкай людзей, якія называюць сябе спэцыялістымі па пролетарскай культуры. Гэта ўсё ўсьцяж недарэчнасьць. Пролетарская культура павінна зьявіцца законамерным разьвіцьцём тых самых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад уціскам капіталістычнага грамадзтва, памешчыцкага грамадзтва, чыноўніцкага грамадзтва" [1]).

„Наша задача складаецца з культурнай працы для сялянства. А гэтая культурная праца ў сялянстве, як экономічная мэта, прасьледуе іменна коопэраваньне. Пры ўмове поўнага коопэраваньня мы-б ужо стаялі збодвума нагамі на соцыялістычнай глебе. Але гэтая ўмова поўнага коопэраваньня уключае ў сябе такую культурнасьць сялянства (іменна сялянства, як вялізнай масы), што гэтае поўнае коопэраваньне немагчыма бяз цэлай культурнай рэволюцыі...

Для нас даволі цяпер гэтай культурнай рэволюцыі для таго, каб аказацца цалком соцыялістычным краем, але для нас гэтая культурная рэволюцыя прадстаўляе надзвычайныя труднасьці і чыста культурнай уласьцівасьці (бо мы няпісьменныя) і ўласьцівасьці матар'яльнай (бо для таго, каб быць культурнымі, трэба вядомае разьвіцьцё матар'яльных сродкаў вытворчасьці патрэбна вядомая матар'яльная база" [2]).

З гэтых палажэньняў Леніна вынікае: 1) Мы ў нашым краі будуем пролетарскую культуру (не спэцыфічную „пролетарскую культуру" ў разуменьні Пролеткульту, супроць чаго ішоў Ленін); 2) Яна зьяўляецца разьвіцьцём усіх ведаў, усёй культурнай спадчыны, выпрацаванай за капіталістычным ладам, спадчыны прынятай рабочай клясай і якая ім перапрацоўваецца; 3) Пролетарская культура ўсё больш захоплівае і сялянства: цераз коопэраваньне сялянства пад пролетарскім кіраўніцтвам падыходзіць да „культурнай рэволюцыі", г. зн., да соцыялістычнай перабудовы гаспадаркі, перабудовы ўсёй сваёй ідэолёгіі; 4) У меру соцыялістычнай перабудовы экономікі краю, дробнай вытворчасьці, пролетарская культура аказваецца культурай усіх працоўных, агульначалавечай, ня клясавай культурай.

Тав. Сталін дае такую формулу: „пролетарская па сваім зьмесьце, нацыянальная па форме,—гэтакая агульна-чалавечая культура, да якой ідзе соцыялізм" [3]). У гэтай формуле знаходзяць сваё выражэньне ўсе элемэнты разьвіцьця культуры пасьля пролетарскай рэволюцыі: 1) разьвіцьцё пролетарска-клясавай у агульначалавечую культуру; 2) разьвіцьцё ва ўмовах вялікай стракатасьці форм (нацыянальных) пры адзіным пролетарскім зьмесьце.

У тав. Ваганяна другая пастаноўка проблемы культуры: „Пролетарыят ня мае свае клясавай культуры... Культура, што ствараецца рабочай клясай у яе барацьбе за комунізм, зусім ня ёсьць клясавая культура. Яе мы назавём... культурай клясы..." [4]).

„Культуру пролетарыяту ні ў якай меры нельга называць клясавай культурай, бо ні толькі па сваім паходжаньні, але і па сваіх заданьнях яна адрозьніваецца ад клясавай культуры; яе асноўная мэта заключаецца ані ня ў тым, каб увекавечыць панаваньне рабочай клясы, але якраз наадварот, у тым, каб усякае панаваньне ўсякай клясы зьнішчыць" [5]).

„Уся наша культура прадстаўляе сабою згушчэньне, падвядзеньне вынікаў клясавай барацьбы; вынік барацьбы рабочай клясы з буржуазіяй за зьнішчэньне клясы" [6]).

---

[1]) Ленін. Прамова на 3-ім Зьезьдзе УЛКСМ.
[2]) Ленін. Аб коопэрацыі.
[3]) Сталін. Прамова на сходзе студэнтаў КУТВ.
[4]) Ваганян, стар. 9.
[5]) Ваганян, стар. 12.
[6]) Ваганян, стар. 11.

Гэтая пабудова тав. Ваганяна памылковая. Паводле тав. Ваганяна нельга казаць аб пролетарскай культуры (клясавай культуры), бо „мэта культуры пролетарыяту... у тым, каб *усякае панаваньне ўсякай клясай зьнішчыць*“. Зусім правільна гэтакая мэта пролетарыяту. А хіба ў формуле „пролетарская культура“ выключаецца прызнаньне таго, што пролетарыят ідзе да соцыялізму, да грамадзтва бясклясавага? Ані не выключаецца. Наадварот, формула „пролетарская культура“ ўключае ў сябе азначэньне мэты пролетарыяту, але ахоплівае таксама і пераходны пэрыод, калі пролетарыят зламаў буржуазію, умацоўвае ўсё больш сваю дыктатуру, будуе соцыялізм, пры гэтым кіруе ўсімі працоўнымі, вядзе іх за сабою, усё больш і больш узмацняючы свой уплыў на іх супроць спробаў капіталізму адрадзіцца, абаперціся на капіталістычныя элемэнты НЭП'у і адваяваць на свой бок сялянства, іншымі словамі, паняцьцем „пролетарскай культуры“ ахопліваецца пераходны пэрыод, калі ўсё больш і больш мацнеюць соцыялістычныя элемэнты экономікі ды культуры. Формула „пролетарская культура“ сама па сабе ўключае і абымае дыялектычны процэс перарастаньня яе ў агульначалавечую культуру. Тав. Ваганян дзіўна аргумэнтуе, што вось пролетарыят ня можа мець клясавай культуры, бо ня мае сваёй мэтай—у супроцьлегласьць буржуазіі—увекавечыць сваё панаваньне; дык-жа няправільна ўкладаць у паняцьце „клясавая пролетарская“ той самы зьмест, як і ў адносінах „клясавая буржуазная“. Зразумела, розныя мэты ў клясы буржуазіі і клясы пролетарыяту: першая кляса б'ецца за ўвекавечаньне свайго клясавага панаваньня, а другая за зьнішчэньне кляс, за лад, дзе ня будзе і пролетарыяту, як клясы. Але тая і другая кляса аднолькава змагаюцца за свае перамогі над варожай клясай, змагаюцца за ўмацаваньне і паглыбленьне свае ўлады, свайго кіраўніцтва ў адносінах іншых кляс дзеля дасягненьня сваіх мэтаў. Пролетарыят ідзе да зьнішчэньня кляс па доўгім цяжкім шляху барацьбы з буржуазіяй, барацьбы з капіталістычнымі тэндэнцыямі пры НЭП'у, барацьбы за кіраўніцтва прамежнымі пластамі, што прадстаўляюць дробную вытворчасьць—іншымі словамі, пролетарыят дабіваецца свае мэты цераз доўгі пераходны пэрыод дыктатуры пролетарыяту. Ідучы да бясклясавага грамадзтва, змагаючыся за яго, пролетарыят павінен выступаць у пераходны пэрыод ва ўсім сваім *клясавым усеўзброеньні*. І пролетарыяту патрэбна яго клясавая культура, як адно з сродкаў у барацьбе за соцыялізм, за зьнішчэньне кляс, паасобку, за зжываньне клясавага характару культуры.

Зразумела, пры гэтым пролетарыят ня будуе сваю спэцыфічную „пролеткультаўскую“ культуру, пролетарыят забясьпечваючы зьместам культуры, выкананьне яе соцыялістычных мэтаў, адначасна цераз форму культуры робіць яе блізкай, зразумелай, патрэбнай і селяніну; тым самым пролетарыят і ў культуры выражае сваю ролю гегемону ў саюзе рабочых і сялян.

На старонцы 17 у цытаце з кнігі тав. Ваганяна надрукована:

„Зьмілуйцеся—адразу ідзе ў адказ,—Ленін пісаў усё гэта, калі яшчэ“ і далей...

З прычыны пропуску, які скажае ўвесь сэнс, гэтая цытата падаецца цалком:

„Зьмілуйцеся—адразу ідзе ў адказ,—Ленін пісаў усё гэта калі яшчэ? Тое было да імпэрыялістычнай вайны, а мы цяпер вырашылі ў сябе нацыянальнае пытаньне.

Ну, і што-ж? Хіба гэтым што небудзь зьмяняецца ў пытаньні аб „нацыянальнай культуры“? Ужо не кажучы пра тое, што „нацыянальная культура буржуазіі“, на няшчасьце яшчэ працягвае заставацца „фактам“ на 5/6 сьвету,—вырашэньне намі нацыянальнага пытаньня ня толькі не зьмяняе

старое вырашэньне пытаньня аб нацыянальнай культуры, але яго ставіць яшчэ больш рэзка і рашуча.

Супярэчнікі блытаюць „нацыянальную культуру“,—прыроду якой мы вышэй спрабавалі высьвятліць,—з пытаньнем аб культуры на нацыянальнай мове“ [1]).

Тав. Ваганян звужае зьмест пролетарскай культуры абмяжоўваючы яе азначэньнем: *„згушчэньне, падагульненьне* клясавай барацьбы рабочай клясы“. Зразумела, пролетарская культура пачынае будавацца ў разьвінутым відзе толькі ў выніку перамогі пролетарыяту над буржуазіяй. Але пролетарская культура не ўключае ў сябе толькі непасрэдна вынікі і практыку гэтай барацьбы: яна ўключае ў сябе таксама і тыя элемэнты культуры, якія зьяўляліся складніковай часткай буржуазнай культуры. Навука, тэхніка, мастацтва служылі ў буржуазным грамадзтве капіталу,—пасьля пролетарскай рэволюцыі пролетарыят аўладае ўсёй гэтай спадчынай буржуазнай культуры, будуе пролетарскую культуру, перапрацоўваючы спадчыну буржуазнай культуры. Бязумоўна, толькі практыка клясавай барацьбы дапамагае пролетарыяту аўладаць і перапрацоўваць у мэтах пролетарыяту багацьці культуры, пакінутыя капіталізмам, у гэтым сэнсе „згушчэньне і падагульненьне клясавай барацьбы“ ўваходзіць складніковым элемэнтам у разуменьне пролетарскай культуры. Але і „згушчэньне“ і „падагульненьне“ клясавай барацьбы не дадуць пролетарыяту ўсяго патрэбнага для пабудаваньня новага грамадзтва: Для гэтага трэба „законамернае разьвіцьцё“ ведаў,—і культуры наогул выпрацаваных да пролетарскае рэволюцыі і перапрацоўка іх.

У сваіх разважаньнях аб „культуры клясы“, культуры пролетарыяту, як „падагульненьні і згушчэньні клясавай барацьбы“, тав. Ваганян проста супроцьстаўляе буржуазную і пролетарскую культуру, не разумеючы дыялектыкі разьвіцьця аднэй у другую. Тав. Ваганян пераскоквае цераз асаблівасьці, ускладненьні і супярэчнасьці пераходнага пэрыоду, яго вочы бачаць „бясклясавае грамадзтва“, як простую супроцьлегласьць буржуазнаму, ня бачачы асаблівасьцяй пэрыоду дыктатуры пролетарыяту. У тав. Ваганяна ў яго пабудовах не хапае дыялектыкі.

Сваю агульную памылку ў пытаньні аб культуры тав. Ваганян паўтарае і ў пытаньні аб нацыянальнай культуры. Тав. Ваганян неяк проста і лёгка скідае з рахунку ўсю тую differences розпастайнасьць і складнасьць жыцьця пролетарскай культуры ў пераходны пэрыод і яе перарастаньні ў агульначалавечую differences розпастайнасьць і складанасьць, абумоўленыя рознымі ступенямі экономічнага і культурнага разьвіцьця, стракатасьцю экономічных форм і ўкладаў.

Таму пасьлядоўным зьяўляецца звужэньне тав. Ваганянам разуменьня культуры, якая ствараецца ва ўмовах нацыянальных адносін: замест азначэньня „пролетарская па зьместу, нацыянальная па форме культура“, тав. Ваганян дае другое азначэньне: „інтэрнацыянальная культура на нацыянальных мовах“.

Паняцьце „пролетарскі“ замяняецца паняцьцем „інтэрнацыянальны“,—гэта звужэньне паняцьця. Пролетарыят, зразумела, будуе культуру *толькі, як інтэрнацыянальную*, паколькі яго задачы вырашальны толькі, як інтэрнацыянальныя задачы. Тым самым паняцьце „пролетарскі“ *ўжо ўключае ў сябе паняцьце „інтэрнацыянальны“*. З другога боку формула „інтэрнацыянальная культура“ не азначае дакладна клясавага, пролетарскага, зьместу культуры.

[1]) Ваганян, стар. 140.

Далей, „нацыянальная па форме культура“,—гэта формула ахоплівае ня толькі мову, але і асаблівасьці гісторыі, побыту ды г. д., а тав. Ваганян абыходзіць гэтыя асаблівасьці, адзначаючы з нацыянальных момантаў культуры толькі адзін—мову, як асабліваю рысу пралетарскай культуры, што ствараецца ва ўмовах тэй ці іншай нацыянальнай краіны, рэспублікі.

Аб гэтым спрашчэнстве тав. Ваганяна лепей за ўсё кажуць разважаньні адносна формы і зьместу культуры.

Тав. Ваганян кажа:

> „А як-жа вырашаецца пытаньне аб зьмесьце і форме? Дык-жа гэта адзін з відаў сьціраньня нацыяналістычнай прыроды ідэй, што прапаведваюцца, гэта адна з формаў маны. Ці зьяўляецца мова формай культуры? Опортуністыя не без разьліку прыроўніваць форму культуры нацыянальнаму абліччу.
>
> „Форма культуры не абмяжоўваецца яе выглядам, яна яе будова, яе „закон“, кажа Гегель. З гэтага пункту погляду толькі ў штодзённай гутарцы можна казаць пра нацыянальную форму культуры, а навуковая мова, мова марксысцкай навукі, такога дзікага слова, злучэньня не прызнае, бо структура культуры, яе будова (г. зн. форм культуры) азначаецца ў канечным выніку ня мовай і звычаямі, а клясавай барацьбой[1])“.

З гэтых разважаньняў тав. Ваганян, робіць далей такі вынік, што „зьмест і форма культуры... адзіны на ўсіх мовах“. Ці правільна гэта? Ці можна адмаўляць наяўнасьць розных нацыянальных форм культуры.

Зусім праўда тав. Ваганяна, калі ён кажа, што форма—гэта ня ёсьць абліччa, толькі знадворны від культуры. Форма—гэта ёсьць структура, пабудова, суадносіны элемэнтаў, разьмяшчэньне матар'ялу культуры. Зразумела нельга толькі мову адносіць да форм культуры, толькі ў мове азначаць нацыянальныя моманты культуры. Нацыянальнай формай культуры трэба лічыць усё тое, што ў культуры абумоўлена самай сутнасьцю нацыі. „Нацыя—гэта агульнасьць мовы, тэрыторыі, эканомічнага жыцьця, псыхічнага складу, што скаліся гістарычна, якія праяўляюцца ў агульнасьці культуры“ (Сталін). Нацыя кладзе адбітак, азначае формы культурнага разьвіцьця, уносячы ў гэта разьвіцьцё свае элемэнты: 1) мову, 2) асаблівасьці экономікі, суадносіны ў ёй розных гаспадарчых укладаў, 3) асаблівасьці прадыктаваныя географічнымі ўмовамі, зьвязаныя з тэрыторыяй, 4) выкліканыя асаблівасьцямі гісторыі, грамадзкія традыцыі, 5) асаблівасьці быту, звычаі ды г. д. Усе гэтыя акалічнасьці азначаюць формы тэй ці іншай нацыянальнай культуры.

Зусім бяспрэчна, што і разьвіцьцё гэтых формаў азначаецца ў канечным выніку, суадносінамі сіл у клясавай барацьбе, паколькі разьвіцьцё кожнай нацыі, як кожны грамадзкі процэс, адбываецца ва ўмовах клясавай барацьбы,—але гэтае прызнаньне ані не выключае наяўнасьці *асаблівых* (нацыянальных) форм разьвіцьця па адзіным соцыялістычным шляху і нацыянальных форм адзінай па зьместу (пролетарскай) культуры. Перамога пролетарыяту, дыктатура яго, яго кіраўніцтва ў адносінах сялян і ўсіх працоўных даннай нацыянальнасьці, асаблівасьці ў соцыялістычным будаўніцтве і разьвіцьці да соцыялізму даннай нацыянальнасьці, ажыцьцяўляецца дастасоўна да асаблівых нацыянальных умоваў,—тых, якія склаліся ў выніку доўгага гістарычнага процэсу, вынікі якога абыйсьці нельга, які наклаў сваю пячатку на грамадзкія адносіны ў даннай нацыянальнасьці. Дыктатура пролетарыяту, соцыялістычная перабудова экономікі, рух да соцыялізму ідзе і ў Ленінградзе, і ў Маскоўскай губэрні, у Донбасе, у Казакстане, у Якуцыі, у Сярэдняй Азіі, у Азэрбайджане, у Беларусі. Але гэты рух

[1]) Ваганян, стар. 44, 45.

разьвіцьцё да соцыялізму ідзе пры вялізнай стракатасьці форм у залежнасьці ад таго, на якой ступені экономічнага і культурнага разьвіцьця засягнута данная нацыянальнасьць і краіна пролетарскай рэволюцыяй ў нашым Саюзе. Якраз таксама-пролетарская культура, адзіная па сваім зьмесьце, па сваім клясавым значэньні, знаходзіць розныя формы паводле ўсіх нацыянальных асаблівасьцяй, а ня толькі мовы.

Разгледзім некаторыя элемэнты культуры. Навука, паасобку сыстэма працы навуковых установ ды школы, мае за сваю мэту (больш правільна—павінна мець, а на справе гэта не заўсёды ўдаецца): 1) агульна-экономічны і культурны ўздым працоўных тэй ці іншай нацыянальнасьці; 2) абслугоўваньне індустрыялізацыі краіны (краю, краіны, рэспублікі); 3) абслугоўваньне коопэраваньня вёскі; 4) наогул-соцыялістычную перабудову ўсёй экономікі; 5) разьвіцьцё соцыялістычных, інтэрнацыянальных элемэнтаў культуры. Гэтая мэта, *зьмест* працы ў галіне навукі, працы навуковых установ і школы—зьяўляецца *адзіным* ў якой хаця з савецкіх нацыянальных рэспублік і краёў—пролетарскім, г. зн. накіраваным на ўмацаваньне дыктатуры пролетарыяту, на разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва, на пабудову соцыялізму ва ўмовах кожнай з нацрэспублік. Але вялізную рознастайнасьць па сваіх формах (па „будове“, па „структуры“) набывае гэтая праца ва ўмовах кожнай з нацыянальных рэспублік і краёў у залежнасьці ад нацыяльных асаблівасьцяй. Напрыклад, навуковая праца ў БССР концэнтруе вялізную частку ўвагі на пытаньнях мовы, з прычыны адсталасьці ў разьвіцьці беларускай нацыянальнай мовы да пролетарскай рэволюцыі, асабліва разьвіваючы адпаведныя дысцыпліны ў плянах навуковых установ, вышэйшай школы; у РСФСР гэтае пытаньне не займае такога адносна вялікага месца. У галіне экономікі навуковая думка УССР у шмат разоў больш аддае ўвагі пытаньням экономікі і тэхнікі прамысловасьці, а ў БССР, напрыклад, гэтая ўвага адносна больш сьцягнута на проблемах лясной і сельскай гаспадаркі, яе індустрыялізацыі. Прыродныя ўмовы таксама дыктуюць канечнасьць разьвіцьця тых або іншых дысцыплін, тэй або іншай галіны навуковай думкі. Можна падаць шмат прыкладаў. Усё гэта знаходзіць свой адбітак у „пабудове“, ва ўсім матар'яле навуковага жыцьця і думкі, у формах яе,—конкрэтна—у плянах працы Навуковых Інстытутаў, самым іх характары, працы школы.

Літаратура (мастацтва—наогул) у залежнасьці ад нацыянальных (наогул мясцовых) асаблівасьцяй мае справу з тым або іншым матар'ялам,—матар'ялам гораду, вёскі, мястэчка, розных экономічных укладаў. Гэты матар'ял вельмі розны: адзін у Ленінградзе, або прамысловым Донбасе і Баку, другі—у раёнах Сярэдняй Азіі, якія захавалі яшчэ рэшткі патрыярхальных адносін; трэці ў мястэчку Беларусі; чацьвёрты ў раёнах моцнага сялянства Сібіры. Але—літаратура (наогул—мастацтва) пры надзвычайнай рознастайнасьці матар'ялаў ставіць (па крайней мере, павінна ставіць перад сабою) адну і тую самую мэту, мець адзін—пролетарскі,—зьмест, адно клясавае значэньне: быць адным з сродкаў для пролетарыяту кіраваць усімі працоўнымі, будаваць соцыялізм і пабудаваць яго, ня гледзячы на самыя стракатыя нацыянальныя асаблівасьці. Пры гэтым, калі літаратура (мастацтва—наогул) ня прымае нацыянальнай формы, г. зн. формы, якая блізка і моцна падыходзіць да ўсіх мясцовых умоваў, асаблівасьцяй гісторыі, экономікі, быту, настаяшчага роўню экономічнага і культурнага разьвіцьця суадносін клясавых груповак,—то мастацтва адрываецца ад мас рабочых і сялян, не даходзіць да мас, выпадае з рук пролетарыяту, як адна з прыладаў соцыялістычнай перабудовы нашага краю. Зразумела,

тая або іншая мова літаратуры зусім не азначае таго, у якой меры пролетарскі (ды інтэрнацыянальны) зьмест у літаратуры па сваіх формах дойдзе да мас, будзе organізаваць масы навокал задач пролетарыяту.

Як раз таксама ўся сыстэма культурнага будаўніцтва (напр., сыстэма школ, сыстэма політ-асьветнай працы ды г. д.), таксама вылучэньне і падрыхтоўка, узрошчваньне новых кадраў у кожнай нацыянальнай краіне і рэспубліцы—гэта ёсьць вялізная частка будаўніцтва культуры. І гэтая праца, можа і павінна праводзіцца ані ня толькі „на нацыянальнай мове“, не дастасоўна да мовы толькі, а дастасоўна да ўсіх нацыянальных асаблівасьцяй.

Такім чынам, форма культуры,—гэта ня ёсьць толькі мова,—нацыянальная форма культуры адпавядае ўсяму зьместу нашага макрсыцкага паняцьця нацыі.

Зразумела, прызнаючы розьніцу паміж сабою нацыянальных форм пролетарскай культуры, мы *ня супроцьставім форму зьместу*. Ці ёсьць такія спробы? Ёсьць. Нацыянал-дэмократызм, спрабуючы маскавацца, працягвае цераз нацыянальную форму свой буржуазны зьмест у шэрагу выпадкаў. Правільна тав. Ваганян кажа: „з даўна рэволюцыйным марксызмам вядзецца заўзятая вайна супроць... укараненьня ідэі адзінай непадзельнай цэльнай культуры, нацыянальнай культуры“. Правільна! Пролетарыят ня прымае, змагаецца з тэй культурай, зьмест якой не зьяўляецца пролетарскім, у якую працягваюцца буржуазныя элемэнты пад відам, што вось забясьпячаецца і абараняецца нацыянальная форма.

Можна даць прыклады па Беларусі, калі нацыянальная культура губляе клясавы зьмест, ня „форму дае пролетарскай культуры“, а „адмяняе пролетарскую культуру“.

Убраньне залі „Акадэмічнай Конфэрэнцыі па беларускай мове“ [1]) было падрыхтавана так, што нацыянальнай форме ня было дано клясавага значэньня; нацыянальная форма была такой, што ў яе ўваходзіў цалкам і буржуазны зьмест, што з яе было выкінута ўсё, што адносіцца да пролетарскага зьместу: ня было портрэту Леніна, бадай ня было чырвоных колераў,—колеру пролетарскай рэволюцыі, замест чырвонай зоркі было сапсаванае „стылізаванае“ „да непазнавальнасьці“ падабенства чырвонай зоркі. Ці зьяўляецца сам па сабе стыль убранай залі (беларускія ўзоры, ручнікі) не сумяшчальным з пролетарскім зьместам? ані: лёзунгі, сымболі пролетарскай рэволюцыі і Ленінізму не супярэчылі-б гэтаму стылю, а далі-б форме зьмест.

Другі прыклад: некаторыя сьценкі насьценных каляндароў Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Малюнкі поўны беларускіх узораў, у іх портрэты поэтаў, Скарыны, „першага беларускага друкара“ ды інш. Але форма іх такая, што яна ня кажа аб пролетарскім зьмесьце. Дробязь, здавалася-б: Няма лёзунгаў пролетарскай рэволюцыі, ўсё намалявана ў жоўценькіх колерах, але гэтая „дробязь“ робіць гэтую сьценку чужой духу пролетарскай культуры. Таму сваім знадворным выглядам, гэты каляндар, што шырока ідзе ў масу не пропагандуе (што зьяўляецца аднэй з яго задач), ідэй ленінізму. (Якабы „недагадлівыя“ таварышы запытаюць: але як-жа гэта можна, напрыклад, сьценцы з партрэтам Скарыны надаць другі зьмест? А проста надрукаваць каля партрэту „Першы беларускі вучоны“ Скарына. Толькі цяпер выкарыстоў-

[1]) „Акад. конфэрэнцыя“ працавала ў Менску ў канцы 1926 г. Яе дзелавыя навуковыя вынікі, што зьяўляюцца рэзультатам працы беларускіх, расійскіх і шэрагу заграгічных вучоных, вельмі значныя і дадатныя.

ваюцца яго працы. Толькі пролетарская рэволюцыя стварыла поўныя магчымасьці для беларускай культуры разьвівацца ў інтарэсах рабочых і сялян. Можа быць карацей напісаць. Гэта будзе, можа быць, не зразумела сяму-таму з вучоных людзей, але гэта правільна зразумее кожны рабочы і селянін).

Можна знайці досыць падобных прыкладаў, якія характарызуюць праяўленьне нацыянал-дэмократызму і на расійскай і украінскай глебе. Тав. Ваганян шмат іх падае з практыкі Закаўказьзя.

Перад тварам такіх фактаў ды ім падобных (што падаюцца ў яго кніжцы), тав. Ваганян разважае:

> „калі падыйсьці да пытаньня з пункту погляду клясавай барацьбы, з пункту погляду дыялектыкі, то трэба сказаць, што і зьмест і форма культуры рабочай клясы, ня гледзячы на розьніцу ўмоваў,—адзіна на ўсіх мовах—інтэрнацыянальныя“.

Іншымі словамі, вельмі проста вырашаецца пытаньне: з тае прычыны, што некаторыя буржуазныя ідэолёгі спрабуюць пад нацыянальнай формай працягнуць не пролетарскі зьмест, то трэба наогул скінуць з рахунку нацыянальныя асаблівасьці,—да гэтага вядзе практычная пабудова тав. Ваганяна ня гледзячы на яго абмоўкі ў практычнай частцы кнігі. Абышоўшы асаблівасьці разьвіцьця культуры ў Ленінградзе, Сярэдняй Азіі, Арменіі, ды г. д., трэба пакінуць у дужках толькі мову! Такая лінія прывяла-б партыю да здачы сваіх позыцый нацыянал-дэмократызму, бо тады *ён* выкарыстоўвае формы культуры, найбольш даступныя працоўным данай нацыянальнасьці, напіхаючы ў іх свой буржуазны зьмест. Мы-ж, нібы-та змагаючыся за чыстасьць прынцыпаў інтэрнацыяналізму, праскокваем міма ўсіх нацыянальных асаблівасьцяй, міма нацыянальных форм культуры, тым самым аслабляючы кіраўніцтва пролетарыяту.

Корань памылкі тав. Ваганяна ў тым, што ён ні як не разумее, што:

> „лёзунг нацыянальнай культуры быў лёзунгам буржуазным пакуль каля ўлады стаяла буржуазія, а консолідацыя нацый адбывалася пад эгідай буржуазных парадкаў. Лёзунг нацыянальнай культуры, зрабіўся лёзунгам пролетарскім, калі каля ўлады стаяў пролетарыят, а консолідацыя нацый стала адбывацца пад эгідай савецкай улады“ [1]).

Іменна таму тав. Ваганян накіроўвае сказанае Леніным у 1913-14 г. да пролетарскай рэволюцыі супроць політыкі партыі ў нацыянальным пытаньні пасьля пролетарскай рэволюцыі.

Тав. Ваганян спрабуе абаперціся на Леніна, Леніным угрунтаваць свае памылкі ў пытаньні аб нацыянальнай культуры. Цяжка падыскаць лепшыя ўзоры таго, як можна „выкарыстаць літару марксызму супроць духу марксызму“,—лепей, чым дае тав. Ваганян! Яго спасылкі на Леніна паказваюць, як не хапае ў яго „тэорыі“ зразуменьня гістарычных абставін, значэньня сувязі з ёю лёзунгаў і ўсёй політыкі партыі, як мала дыялектыкі, замененай у вельмі і вельмі шмат якіх выпадках „трапным“ жонглёрствам цытатамі і моцнымі выразамі.

Сапраўды, Ленін у 1913 г. (асабліва ў „критическіх заметках по національному вопросу“) вельмі грунтоўна сказаў аб „нацыянальнай культуры“. Але *як* сказаў, *калі, у якой сувязі* акалічнасьцяй, *супроць каго?*—хіба можа сур'ёзны марксісты спасылацца на Леніна без адказу на гэтыя пытаньні.

Правільна, Ленін кажа:

> „Буржуазія ўсіх нацый у Аўстрыі і Расіі пад лёзунгам „нацыянальнай культуры“ праводзіць на справе раздрабненьне рабочых, абясьсіленьне дэмократыі, гандлярскія зьдзелкі з прыгоньнікамі аб продажы народных праў і народнай свабоды.

[1]) Сталін. Прамова на сходзе ў КУТВ.

> Лёзунг рабочай дэмократыі не „нацыянальная культура“, а інтэрнацыянальная культура дэмократызму і сусьветнага рабочага руху. Хай сабе буржуазія абманвае народ усякімі „позытыўнымі нацыянальнымі праграмамі“ [2]).

> Прыкрываецца буржуазная (і буржуазна-прыгоньніцкая) тэндэнцыя лёзунгам „нацыянальнай культуры“. У імя нацыянальнай культуры—веліка-расійскай, польскай, яўрэйскай, украінскай ды інш. робяць рэакцыйныя і брудныя справы чорнасоценцы і клерыкалы, а потым і буржуа. усіх нацый[2])“.

Ленін пытае:

> „Ці дапусьцімы для марксыстых, проста або ўскосна, лёзунг нацыянальнай культуры, ці абавязкова супроць яго прапаведваць на ўсіх мовах, „дастасоўваючыся да ўсіх мясцовых і нацыянальных асаблівасьцяй—лёзунг інтэрнацыяналізму рабочых[3])“

і Ленін адказвае:

> „Лёзунг нацыянальнай культуры ёсьць буржуазная (а часта і чарнасоценна-клерыкальная) мана. Наш лёзунг ёсьць інтэрнацыянальная культура дэмократызму і сусьветнага рабочага руху[4])“.

Супроць чаго выступае тут Ленін. Супроць раздрабненьня рабочых супроць абману іх нацыяналістычнымі лёзунгамі, супроць буржуазнага нацыяналізму на месца пролетарскага інтэрнацыяналізму, *супроць лёзунгу „нацыянальнай культуры“, як прыкрыцьця для політыкі буржуа, прыгоньнікаў, чорнасоценцаў і клерыкалаў.* Ленін бачыць, што іменна лёзунг „нацыянальнай культуры“ зьменен буржуазіяй у самую моцную зброю ва ўмовах тагочаснай сучаснасьці (1913 г.),—ён кажа:

> „Нацыянальная культура буржуазіі ёсьць факт (пры чым, паўтараю, буржуазія скрозь праводзіць зьдзелкі з памешчыкамі і папамі). *Ваяўнічы буржуазны нацыяналізм,* што атупляе, адурачвае, разьядае рабочых, каб весьці іх на повадзе буржуазіі,—вось *асноўны факт сучаснасьці* [5])

„Ваяўнічы буржуазны нацыяналізм... асноўны факт сучаснасьці“. Вось чаму, у імя інтэрнацыянальнага зьяднаньня рабочых (а Ленін бачыў, да якога краху ў 1914 г. рухаўся на ўсіх парах Інтэрнацыянал),—Ленін змагаецца з лёзунгам „нацыянальнай культуры“, які зрабіўся *баявой зброяй ў руках буржуазіі.* Ленін змагаецца таксама супроць агентаў буржуазіі ў рабочай клясе, супроць бундаўцаў, у даным выпадку, якім буржуазія ўкладае ў рукі сваю зброю, ён кажа пра буржуазную політыку Бунду:

> „Абараняючы лёзунг нацыянальнай культуры, будуючы на ім цэлы плян і практычную праграму так званай „культурна-нацыянальнай аўтономіі“ бундаўцы на справе выступаюць правадырамі буржуазнага нацыяналізму ў рабочыя колы“ [6]).

Ці ёсьць у Леніна агульнае адмаўленьне „нацыянальнай культуры“, як лёзунгу, што зьяўляецца частковым адносна агульнага прынцыпу роўнапраўства нацый і моваў, самавызначэньня нацый?—Не, гэтага і не магло быць. Ленін выступае супроць „веры ў па-заклясавую нацыянальную культуру“ (стар. 43), супроць „супроцьстаўленьня аднэй нацыянальнай культуры ў цэлым другой нібы та цэлай нацыянальнай культуры“ (51), супроць не марксысцкага, бясклясавага аналізу прыняцьця лёзунгу, без падліку клясавага зьместу нацыянальнай культуры.

аб гэтым вельмі многа, вельмі цьвёрда кажа Ленін. Чаму тав. Ваганян гэтыя думкі Леніна абыходзіць? Таму, што яму патрэбна правесьці схолястычную опэрацыю над марксысцкім аналізам лёзунгу Леніна.

[1]) Ленін, XIX т., стр. 40. 41.
[2]) „ „ „ стр. 42.
[3]) Ленін, XIX т., стр. 43.
[4]) „ „ „ 42.
[5]) „ „ „ 44.
[6]) „ „ „ 45.

Ленін кажа:

„Інтэрнацыянальная культура, не безнацыянальная [1]).

Ёсьць дзьве нацыі ў кожнай сучаснай нацыі—скажам мы ўсім нацыянал-соцыялам. Ёсьць дзьве нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры. Ёсьць велікарасійская культура Пурышкевічаў, Гучковых і Струве—але ёсьць таксама велікарасійская культура, якая характарызуецца імёнамі Чарнышэўскага і Плеханава. Ёсьць такія самыя дзьве культуры ва украінстве, як і ў Германіі, Францыі, Англіі, у яўрэяў і г. д. [2])"

І тав. Ленін дае ключ да разуменьня пытаньня аб нацыянальнай культуры:

„Значэньне лёзунгу нацыянальнай культуры азначаецца аб'ектыўным і суадносінамі ўсіх клясаў данага краю і ўсіх краёў сьвету [3]) (падкрэсьлена мною А. К.).

Ці зрабіў што небудзь тав. Ваганян, каб па марксысцку выкрыць значэньне лёзунгу „нацыянальнай культуры" да і пасьля пролетарскай рэволюцыі? Каб прааналізаваць розьніцу ў суадносінах кляс нашага краю; асабліва ў пастаноўцы нацыянальнага пытаньня ў нашым краі цяпер, наогул—у кожным краі пасьля пролетарскай рэволюцыі? Нічога не зрабіў. Але тав. Ваганян на працягу ўсёй тэорытычнай часткі сваёй кнігі, часамі больш ясна, часамі супярэчачы сабе, зрабіў усё каб заблытаць ленінскую пастаноўку пытаньня Леніна і Сталіна, тым самым скрывіць лінію партыі ў нацыянальным пытаньні, іменна захапляючыся наўпрэкі папярэджаньня Леніна, „пустымі агульнымі прынцыпамі", „дэклямацыямі і выразамі", замест таго, каб „раўнаць лёзунгі з інтарэсамі і політыкай кляс".

Ня толькі „лёзунг нацыянальнай культуры" зьмяняе сваё значэньне пасьля пролетарскай рэволюцыі. Прыпомніць хоць-бы лёзунг „абарона айчыны": колькі здрадніцтва, подласьці, опортунізму, заолёгічнага шовінізму буржуазіі зьвязана з гэтым лёзунгам, калі ён зьяўляецца прыладай буржуазіі. Аднак нікому ў галаву ня прыдзе ўзьняць голас супроць нашага пролетарскага лёзунгу аб абароне соцыялістычнай айчыны. Нават у дастасаваньні да прыгнечанай нацыі, калі яе барацьба мае значэньне выступленьня супроць імпэрыялізму, Ленін лічыць лёзунг „абарона айчыны" правільным:

Адмаўляць тое, што анектаваная Бэльгія, Сэрбія, Галіцыя, Армэнія назавуць сваё „паўстаньне" супроць анектаваўшага „абаронай айчыны", назавуць правільным, наўрад ці хто адважыцца [4]).

Можна і яшчэ шмат прыкладаў прывесьці таму, як новыя суадносіны кляс даюць новы зьмест лёзунгу, робяць яго прыладай у руках пролетарыяту,—з буржуазнага лёзунгу робяць лёзунг пролетарыяту.

Праўда, у тав. Ваганяна прарываецца некаторае разуменьне таго, што ён у сваіх развагах аб культуры робіць шмат грахоў супроць марксызму, але ён хутка адварачаецца ад гэтага прызнаньня і дадае памылкі.

Тав. Ваганян піша:

Зьмілуйцеся—адразу ідзе ў адказ.—Ленін пісаў усё гэта, калі яшчэ? Тое было да імпэрыялістычнай вайны, а мы цяпер вырашылі ў сябе нацыянальнае пытаньне.

Ну, і што-ж? Хіба гэтым што небудзь зьмяняецца ў пытаньні „аб нацыянальнай культуры"? Ужо ня кажучы аб тым што „нацыянальная культура буржуазіі" на жаль яшчэ застаецца фактам на $^5/_6$ сьвету—вырашэньне на-

1) Ленін, XIX т., стар. 43
2) „ „ „ 50
3) „ „ „ 43
4) „ „ „ 191

мі нацыянальнага пытаньня ня толькі не зьмяняе старое вырашэньне пытаньня, ня толькі не зьмяняе старое вырашэньне аб нацыянальнай культуры, але яго толькі ставіць яшчэ больш рэзка і рашуча.

Супярэчнікі блытаюць „нацыянальную культуру", прыроду якой мы вышэй спрабавалі высьвятліць, з пытаньнем аб культуры на нацыянальнай мове [1]).

Тут у некалькіх радкох не адна памылка: 1) Гутарка ідзе не аб тым, што было „да імпэрыялістычнай вайны", справа не ў вайне, а ў пролетарскай рэволюцыі. Вайна сама па сабе не зьмяніла карэнным чынам суадносіны кляс, расійская рэволюцыя зьмяніла гэтыя суадносіны ў былой Расіі ў корані.

Спасылкі тав. Ваганяна на імпэрыялістычную вайну, а не на пролетарскую рэволюцыю, асабліва выпукла падкрэсьліваюць неразуменьне яго ўсяго значэньня для лёзунгу зьмены суадносін кляс пасьля Кастрычніка.

2) Калі „нацыянальная культура буржуазіі" працягвае заставацца фактам на $^5/_6$ сьвету, пролетарыят ня можа так разважаць, як у $^5/_6$ сьвету, як у капіталістычным сьвеце. Панаваньне буржуазіі ў $^5/_6$ сьвету ні чуць не адмяняе канечнасьці ўлічыць факт панаваньня пролетарыяту ў адной шостай сьвету.

3) Дастасоўна да лёзунгу „нацыянальнай культуры зусім відочна, што новыя суадносіны клясавых сіл у нашым краі ўнесьлі шмат новага ў суадносіны сіл па-за нашым краем, бо вырашэньне нацыянальнай проблемы ў СССР дало зусім новае яскравае асьвятленьне лёзунгам нацыянальнай палітыкі ва ўсім сьвеце, організуе рабочых і сялян прыгнечаных краёў сьвету, узмацняе іх наступальныя позыцыі, іншымі словамі—уносіць шмат новага ў нацыянальнае пытаньне ва ўсім сьвеце. Тым самым і лёзунг „нацыянальнай культуры" відазьмяняецца ў сьвядомасьці працоўных сьвету, больш дыфэрэнцуецца, — паколькі практыка СССР дае новы адчувальны сэнс нашаму лёзунгу „пролетарская (па зьместу), нацыянальная (па форме) культура".

4) Аб якой „прыродзе" нацыянальнай культуры ідзе гутарка? Гэта што, прырода богам данная на ўсе краі, вякі і народы? Ці, не азначаецца гэтая прырода нацыянальнай культуры суадносінамі кляс?

Можна было-б паказаць і яшчэ шэраг памылак тав. Ваганяна— у пытаньні аб неправільнай, утрыраванай трактоўцы суадносін расійскай ды інш. культур, аб інтэлігенцыі, аб калёніях ды інш., можна паказаць на шэраг супярэчнасьцяй у яго кнізе,—абмяжуемся важнейшымі пытаньнямі, закранутымі ў кнізе „О национальной культуре".

Трэба сказаць, то Ваганян—практык куды бліжэй да правільнай лініі, чым Ваганян—тэорэтык. Відочна, практыка будаўніцтва культуры ў Закаўкаскіх Рэспубліках добра папраўляе тэорытычныя вывіхі і скажэньні, падказваючы правільную пастаноўку практычных пытаньняў. Гэтых супярэчнасьцяй у кніжцы шмат, яны кажуць пра значную „бегласьць" у прапрацоўцы пытаньня. Напрыклад: характэрна палажэньне тав. Ваганяна: „Інтэрнацыянальная культура... ня можа прасякнуць у сьвядомасьць працоўных данай нацыі інакш, як апратваючыся ў конкрэтную вопратку быту ды гісторыі", блізкай гэтай масе". (стар. 146). „Конкрэтная вопратка быту ды гісторыі",—гэта ўжо, зразумела, неаблічча „толькі,—гэта форма культуры; гэта ўжо ня толькі „нацыянальная мова" пролетарскай па зьместу інтэрнацыянальнай культуры.

Тав. Ваганян упірае, што трэба „ставіць пытаньне яшчэ больш рэзка і рашуча", пытаньне аб барацьбе з буржуазным нацыяналізмам.

[1]) Ваганян. Стар. 140.

Правільна, бяспрэчна. Што ёсьць каштоўнага ў кніжцы тав. Ваганяна,—усё гэта адносіцца да яго выступленьня супроць буржуазных скажэньняў у будаўніцтве культуры за дыктатуру пролетарыяту.

Зразумела, нямінучы спробы буржуазна-дэмократычных элемэнтаў у СССР прыкрываць нацыянал-дэмократызм лёзунгамі нацыянальнай культуры ў буржуазным яе разуменьні. Зразумела, перад пролетарыятам і партыяй стаіць яшчэ вялізная барацьба за пролетарскі шлях культурнага разьвіцьця, супроць буржуазных уплываў; гэтую барацьбу пролетарыят у нашым краі вядзе і будзе весьці.

Кніга тав. Ваганяна каштоўная тым, што ў сваёй практычнай частцы дае багаты матар'ял супроць скажэньняў пролетарскай лініі ў пытаньнях аб нацыянальнай культуры. Але ў тэорытычнай частцы кніга мае шмат памылак. Іх сутнасьць: недалік асаблівасьцяй пераходнага пэрыоду, абумоўленых вялікай удзельнай вагой дробнай вытворчасьці ў краі, адгэтуль, што вынікае, недалік нацыянальнага моманту ва ўсім будаўніцтве. Іменна таму кніга тав. Ваганяна падтрымае памылковую тэндэнцыю шэрагу таварышоў у нацыянальных організацыях УКП, „недаліку мясцовых нацыянальных асаблівасьцях“. У шэрагу пытаньняў тав. Ваганян дае ўзоры недыялектычнага мэтоду, узоры таго, як „выкарыстоўваецца літара марксызму супроць духу марксызму“.

4-га красавіка 1927 г.

З. Хацімскі

# Партыйная праца ў ВНУ і Рабфаках БССР

*(З матэрыялаў абсьледваньня камісіі ЦК КП(б)Б)*

Партыйная праца ў ВНУ і Рабфаках мае шэраг сваіх асаблівасьцяй і спэцыфічных задач. Аб іх ня раз гаварылася ў пастановах партыйных зьездаў (гл. стэнографічную справаздачу XIII зьезду Усе КП(б) стар. 637, 651, 700, 713, стэнограф. справазд. XIV зьезду Усе КП(б) стар. 998), а таксама ў іншых партыйных дакумэнтах (гл. рэзолюцыю Оргбюро ЦК УКП(б) ад 12/I—25 г., пастанова нарады парт'ячэек ВНУ пры ЦК УКП(б) ад 25-27 лютага 1925 г. і г. д.).

У нас у БССР гэтыя агульныя задачы, якія стаяць перад парторганізацыямі ВНУ і Рабфакаў, ускладняюцца ўмовамі нацыянальнае рэспублікі і выходзячым адсюль шэрагам асаблівасьцяй і цяжкасьцяй.

Праведзенае камісіяй ЦК КП(б)Б абсьледваньне паказала, што ў працы парт'ячэк ВНУ і Рабфакаў маецца шэраг сур'ёзных дасягненьняў: вырасла асяродзьдзе партыйнага і комсамольскага студэнцтва (у БДУ разам з менскім Рабфакам комуністых—12,7%, комсамольцаў—15,4%, у Сельска-Гаспад. Акадэміі комуністых—6,1%, комсамольцаў—15%, у Вэтэрынарным Інстытуце комуністых—7,3%, комсамольцаў—25%), а таксама значна ўзрасла ўдзельная вага і ўплыў партыйнага студэнцтва на масу беспартыйных студэнтаў. Узрос процант студэнцтва, організаванага ў профсаюзы, і палепшылася пастаноўка масавай працы профорганаў ВНУ (у БДУ і Менскім Рабфаке ахоплена профсаюзамі 50% студэнтаў, у Сельска-Гаспад. Акадэміі 65%, у Вэтэрын. Інстытуце 50%). Парт'ячэйкі ў ВНУ ў асноўным усвоілі і правільна праводзяць у жыцьцё партыйныя дырэктывы аб іх удзеле ў вытворчым жыцьці ВНУ. У большасьці выпадкаў зьнішчана ўмяшацельства ў адміністрацыйна-гаспадарчую працу Праўленьня, устаноўлены правільныя ўзаемаадносіны з профэсурай, асазнана неабходнасьць вядзеньня сур'ёзнай акадэмічнай працы.

Ня гледзячы на гэта, усё-ж прыходзіцца адзначыць, што яшчэ значная частка задач партыйнымі ячэйкамі ВНУ выконваецца недастаткова і мае патрэбу ў сур'ёзным паляпшэньні.

У гэтым артыкуле я застанаўлюся толькі на некаторых з гэтых момантаў, якія былі выяўлены пры абсьледваньні.

## Акадэмічная пасьпяховасьць

Гаспадарчае разьвіцьцё краіны, ажыцьцяўленьне задач соцыялістычнага будаўніцтва чым далей, тым усё больш патрабуюць падрыхтоўкі новых кадраў адданых партыі і Савецкай уладзе, высока-кваліфікаваных спэцыялістых у розных галінах народнае гаспадаркі і грамадзкага жыцьця. „Чырвоны спэц“ павінен быць ня менш, а больш

адукаваным, чымся спэц буржуазны",—сказаў XIV зьезд Усе КП(б). Між тым у гэтай найбольш важнай і асноўнай задачы, якая стаіць перад студэнцкімі організацыямі ВНУ, маюцца і найбольш сур'ёзныя недахопы. Лічбы аб акадэмпасьпяховасьці ў ВНУ і Рабфаках БССР гавораць нам наступнае (зьвесткі ўзяты з матэрыялаў ЦБ Пролетстуду за 1925-26 нав. год).

| Найменаваньне навуч. установ | Партыйцаў і комсамольцаў | | | Беспартыйных | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Пераведзена з нормай | Пераведзена ўмоўна | Застаўлена на 2-гі год | Пераведзена з нормай | Пераведзена ўмоўна | Застаўлена на 2-гі год |
| | У процантах | | | | | |
| Б. Дз. Унів. | 58 | 20 | 22 | 61 | 10 | 29 |
| Сельска-гаспад. Акадэмія | 49 | 37 | 14 | 48 | 38 | 14 |
| Вэтэр. Інстытут | 99 | 1 | — | 92 | 8 | — |
| Менскі Рабфак | 92,5 | 7,5 | — | 96 | 3 | 1 |
| Горацкі Рабфак | 92 | 8 | — | 82 | 18 | — |
| Аршанскі Рабфак | 94 | 0,7 | 5,3 | 92 | 8 | — |

Па зьвесткам Галоўпрофасьветы, сярэдняя пасьпяховасьць у ВНУ БССР за першае паўгодзе 26-27 году выражаецца ў наступных лічбах: па БДУ—55%, па Сельска-Гасп. Акад.—49,2%, па Вэтэрын. Інстытуту—93,4%.

Мы, такім чынам, бачым, што ў 2 асноўных ВНУ БССР (Сельска-Гаспад. Акадэмія і БДУ) пасьпяховасьць надта нізкая. (Трэба ўлічыць, што тут узяты вонкавы прызнак акадэмпасьпяховасьці—перавод з курса на курс,—процант сур'ёзна займаючыхся тут ня ўлічан). З матэрыялаў, апрача таго, відна, што асабліва нізкая пасьпяховасьць на Пэдагогічным факультэце БДУ (40%), на мэліорацыйным і земляўпарадкаўчым факультэтах с. г. Акадэміі (31% і 14,1%).

Калі ўзяць пасьпяховасьць комуністых асобна ад комсамольцаў, то яна, як правіла, ніжэй пасьпяховасьці беспартыйнага студэнцтва. З прыведзенай табліцы гэтага ня відаць, таму, што ў ёй падлік пасьпяховасьці комуністых і комсамольцаў разам, а пасьпяховасьць комсамольцаў у шмат якіх выпадках вышэй пасьпяховасьці астатняга студэнцтва. Так, напрыклад, па Сельска-Гаспад. Акадэміі (зьвесткі Праўленьня Акадэміі на 1/3 студэнтаў на 15 лютага 27 г.) пераведзена на наступныя курсы 49,2 проц., комуністых—41 проц., комсамольцаў—59,9 проц. Умоўна пераведзена 37,5 проц., комуністых 41 проц., комсамольцаў 33,8 проц. Выключана—7,4 проц., комуністых—7,7 проц.. Застаўлена на другі год—5,9 проц., комуністых—10,3 проц., комсамольцаў—6,3 проц.

З прычын, адбіваючыхся на акадэмічнай пасьпяховасьці студэнцтва, найбольш важнымі на наш погляд, зьяўляюцца: недастатковасьць агульнай падрыхтоўкі часткі студэнтаў пры паступленьні ў ВНУ, не—

стабільнасьць у шэрагу выпадкаў плянаў навучаньня, програм і мэтодаў выкладаньня, невыстарчальнае абсталяваньне асобных габінэтаў, неўрэгуляванасьць працы студэнцкіх організацый (грамадзкасьць, за шмат пасяджэньняў, а часам і лішніх організацый) і г. д.

На акадэмпасьпяховасьць партыйнай і комсамольскай часткі студэнцтва, апрача паказаных прычын, яшчэ ўплывае няўмерная нагрузка большай часткі гэтага студэнцтва партыйнай і грамадзкай працай, а ў некаторых выпадках вялікі процант служачых у установах (у БДУ к моманту абсьледваньня—45 проц. комуністых-студэнтаў састаяла на службе ў установах.

У пастанове ЦК КП(б)Б даецца шэраг практычных дырэктыў для забесьпячэньня далейшага ўзьняцьця акадэмпасьпяховасьці. Шмат што тут будзе залежыць ад Галоўпрофасьветы і вучэбных частак праўленьняў ВНУ (пляны навучаньня, програмы, мэтоды, абсталяваньне габінэтаў і г. д.), шмат што таксама будзе залежыць ад студэнцкіх організацый. Партыйным ячэйкам ВНУ ў бліжэйшым часе, відавочна, неабходна будзе прыняць самыя рашучыя меры к забясьпячэньню і ўзьняцьцю акадэмпасьпяховасьці ўсяго студэнцтва, у асаблівасьці комуністых, яшчэ больш загастрыўшы на гэтым увагу студэнцкіх організацый. Асаблівыя меры неабходны для забясьпячэньня поўнай магчымасьці займацца акадэмічнай працай комуністым, якія высунуты і рыхтуюцца да навучнай працы.

*Партыйная і грамадзкая нагрузка.* Немалаважную ролю ў справе ўзьняцьця акадэмпасьпяховасьці павінны адыграць: упарадкаваньне працы розных студэнцкіх організацый і ўрэгуляваньне партыйнай і грамадзкай нагрузкі. Ад правільнае пастаноўкі гэтае справы будзе ў значнай меры залежыць спалучэньне акадэмічнай пасьпяховасьці студэнцтва з яго удзелам у партыйнай і грамадзкай працы, спалучэньне прабываньня ў ВНУ з захаваньнем сувязі з рабочай срэдой, сыстэматычнага пераварваньня ў катле ў практычнай грамадзкай працы ведаў, атрымоўваемых у акадэмічным парадку. Трэба сказаць, што партыйныя дырэктывы ў стасунку да рэгуляваньня нагрузкі студэнтаў праводзяцца недастаткова сур'ёзна, а калі-ні-калі зусім ігноруюцца. У БДУ, напрыклад, к моманту абсьледваньня палова складу парт'ячэйкі зусім не нагружана, а частка партыйнага актыву—надмерна нагружана грамадзкай і партыйнай працай. У Сельска-Гасп. Акадэміі ёсьць выпадкі, прымацаваньня комуністых і комсамольцаў к вясковым ячэйкам, знаходзячымся даволі часта на адлегласьці 20—25 вёрст, для вядзеньня сталай працы, часам нават у якасьці сакратароў ячэек. Ёсьць выпадкі камандзіраваньня студэнтаў на некалькі дзён для правядзеньня савецкіх і іншых кампаній. Пад час нашага наведаньня інтэрнату Горацкага Рабфаку накаторыя студэнты заставаліся дома пасьля ўходу усіх на заняткі з тым, каб у той-жа дзень пайсьці за 25 вёрст у вёску на пару дзён для працы.

З другога боку значная частка беспартыйнага студэнцтва або зусім не ўцягнута ў грамадзкую працу і не нясе грамадзкай нагрузкі ці ўцягнута надта слаба. З матэрыялаў ЦБ Пролетстуду па гэтаму пытаньню відна, што ў БДУ прымае ўдзел у грамадзкай працы партыйцаў і комсамольцаў—60%, беспартыйных—35%; у С.-Г. Акадэміі партыйцаў і комсамольцаў—70%, беспартыйных—40%; у Вэтэрын. Інстытуце партыйцаў і комсамольцаў—97%, беспартыйных—37; Аршанскім Рабфаку партыйцаў і комсамольцаў—70%, беспартыйных—30%; Менскім Рабфаку партыйцаў і комсамольцаў—65%, беспартыйных—10% і г. д.

Значная частка партыйнага студэнцтва і пераважаючая большасьць беспартыйнага, такім чынам, не нясе ніякай грамадзкай працы, дзякуючы чаму прыходзіцца ўсю цяжкасьць яе выносіць актыву.

Неабходна ўлічыць яшчэ і тыя абставіны, што прадугледжанае пастановай ЦК КП(б)Б устанаўленьне нагрузкі грамадзкай працай уне ВНУ на прадпрыемствах, у першую чаргу партыйнага і комсамольскага студэнцтва (канечна, у тых мясцох, дзе гэта магчыма—Менск, Віцебск) патрабуе яшчэ больш часу для грамадзкай працы, што пры недастаткова сур'ёзных адносінах к рэгуляваньню нагрузкі можа яшчэ пагоршыць сучаснае становішча. Дзеля гэтага, партыйным ячэйкам ВНУ і Рабфакаў неабходна з шмат большай сур'ёзнасьцю заняцца вырашэньнем гэтага пытаньня і дабіцца поўнага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб рэгуляваньні партнагрузкі (ні больш аднаго абавязку па грамадзкай працы ўнутры ці ўне ВНУ, правільная 6-гадзінная нагрузка ў тыдзень, упарадкаваньне работы студэнцкіх організацый і г. д.

## Партыйна-выхаваўчая праца

Пастаноўка партыйна-выхаваўчай працы ў ячэйках ВНУ адзначаецца тым, што частка дысцыплін, уваходзячых у програму партыйнае асьветы, уведзена ў навучальныя пляны ВНУ (так называемы „політычны мінімум") і яны ў акадэмічным парадку абавязковы для ўсіх студэнтаў. У зьвязку з гэтым, галоўная ўвага партыйных ячэек ВНУ і Рабфакаў павінна быць сконцэнтравана на прапрацоўцы асноўных пытаньняў бягучай політыкі партыі, на барацьбе з ідэолёгічнымі ўхіламі і антыпартыйнымі настроямі, а таксама на барацьбе з небясьпекай дробна-буржуазнага перараджэньня пролетарскага і партыйнага студэнцтва пад уплывам абкружэньня і абстаноўкі. Партыйныя ячэйкі, апрача таго, павінны актыўна ўдзельнічаць у нагляданьні за ідэолёгічным зьместам грамадзка-політычнага мінімуму, выкладаньне каторага ў шэрагу выпадкаў незабясьпечана ідэолёгічна вытрыманымі навуковымі сіламі.

Трэба сказаць, што пастаноўка партыйна-выхаваўчай працы ў ячэйках ВНУ, у шмат якіх выпадках не адказвае паказаным задачам. Перш за ўсё недастаткова сур'ёзна організавана прапрацоўка пытаньняў бягучай політыкі партыі. Тут гэтая частка партыйна-выхаваўчае працы зьяўляецца самай галоўнай і асноўнай. Пры той агульнай падрыхтоўцы, якая маецца ў студэнтаў, пры іх навыках працаваць над кнігай, можна было-б патрабаваць пастаноўкі сур'ёзнай і паглыбленай прапрацоўкі пытаньняў бягучае політыкі партыі. Між тым, у шэрагу выпадкаў гэта прапрацоўка пастаўлена горш, чым у рабочых ячэйках. Возьмем, к прыкладу, як праводзілася прапрацоўка пастаноў XV партконфэрэнцыі ў парт'ячэйцы БДУ. Большасьць дакладаў па гэтаму пытаньню ставілася на адкрытых сходах партыйных ячэек, на якіх часта прысутнічала да 300—400 чалавек, звычайна справа абмяжоўвалася некалькімі запытаньнямі і выступленьнямі па філёзофіі і прыняцьцем належнае рэзолюцыі. Ясна, што пры гэтым ня можа быць і гутаркі аб сур'ёзным усваеньні пастаноў конфэрэнцыі Відавочна, у далейшым неабходна будзе організаваць справу такім чынам, каб даць магчымасьць партыйным ячэйкам у большай меры займацца пытаньнямі жыцьця ВНУ і яго факультэтаў.

Неабходнасьць больш сур'ёзнай пастаноўкі прапрацоўкі пытаньняў бягучае політыкі партыі і пастаноў партыйных зьездаў і конфэрэнцый дыктуецца яшчэ тым, што, як паказала апошняя партыйная

дыскусія, у партыйных арганізацыях ВНУ маюцца яшчэ опозіцыйныя настроі, ня гледзячы на тое, што пераважаючая большасьць партыйнага і комсамольскага студэнцтва выказалася за лінію ЦК УсеКП(б). Аб гэтым можна меркаваць па характару большага ліку пытаньняў і запісак, пададзеных пры абгаварэньні выступленьня опозіцыі на партыйных і комсамольскіх сходах у БДУ.

Да недахопаў партыйна-выхаваўчае працы адносіцца яшчэ і тое, што навучальны матэрыял па грамадзка-політычнаму цыклю ў большасьці выпадкаў не паглыбляецца ў сэмінарыях і гуртках, што сыстэма партасьветы недастаткова ўвязана з грамадзка-політычным мінімумам і што няма выпрацаваных агульных праграм па партасьвеце, прыстаеаваных да умоў ВНУ і Рабфакаў, дзякуючы чаму ячэйкі самі для сябе выпрацоўваюць такія праграмы, што, канечна, адбіваецца на іх якасьці.

У адносінах політвыхаваўчай працы сярод комсамольцаў і беспартыйнага студэнцтва справа абстаіць ня лепш. Часта тут гэтая праца абмяжоўваецца толькі выкладваемым грамадзка-політычным мінімумам. У С.-Г. Акадэміі, напрыклад, гурткі па юнацкаму руху і па вучэньню статуту і праграмы ЛКСМ з пачатку навучальнага году да моманту абсьледваньня не працавалі. Беспартыйнае студэнцтва слаба ўцягнута ў політычныя і профэсыянальныя гурткі. У БДУ к моманту абсьледваньня на Пэдфаку запісалася ў профэсыянальныя і політычныя гурткі 55 студэнтаў, на факультэце Права і Гаспадаркі 29 і г. д.

Усё гэта ставіць перад партыйнымі ячэйкамі ВНУ і Рабфакаў задачу значнага ўзмацненьня ўвагі да пытаньняў партыйнага і політычнага выхаваньня студэнцтва на аснове дырэктыў ЦК КП(б)Б.

## Арганізацыйная структура ячэек у ВНУ

Усё павялічваючыйся лік партыйнага і комсамольскага студэнцтва высоўвае пытаньне аб сталым удасканаленьні оргструктуры партыйных і комсамольскіх ячэек у ВНУ і Рабфаках з тым, каб яна (структура) у большай меры садзейнічала абхопу і абслугоўваньню беспартыйнага студэнцтва, правільнаму і плянамернаму вырашчваньню новага партактыву і ўцягненьне яно ў актыўную грамадзкую і партыйную працу, узгадненьню партыйнага кіраўніцтва з арганізацыйнай структурай навучальнае ўстановы, разгрузка ад дробнай працы агульнага бюро ячэйкі ВНУ для таго, каб яно магло стаць сапраўдным кіруючым партыйным цэнтрам усёй работы ВНУ і Рабфакаў. Абсьледваньне паказала, што оргструктура ў шмат якіх выпадках мала прыстасоўваецца да растучага лікова складу ячэек і к ажыцьцяўленьню паказаных задач. Правядзеньне ў жыцьцё пастаноў ЦК КП(б)Б аб удасканаленьні оргструктуры (арганізацыя факультэцкіх колектываў на правох цэхавых ячэек з выбарным бюро, пры захаваньні бюро парт'ячэйкі ўсяго ВНУ, увядзеньне інстытуту курсавых арганізатараў у першы час на тых курсах, дзе маецца большы лік комуністых і г. д.), павінна дапамагчы паляпшэньню ўсёй пастаноўкі партыйнай работы ў ВНУ і Рабфаках. Па меры далейшага росту партыйных арганізацый у ВНУ неабходна будзе ўсё больш пашыраць інстытут курсавых і групавых парторганізатараў, у некаторых выпадках пераходзіць да арганізацыі курсавых ячэек з выбарным бюро, пры выстарчальным дзеля таго ліку партыйцаў (напрыклад, 20—30 чалав. на курсе).

Арганізацыйную структуру комсамольскіх ячэек мэтазгодна на наш погляд будаваць у адпаведнасьці з оргструктурай партыйных ячэек, ня гледзячы на пераважнасьць па ліку першых. Гэтым самым

можна будзе забясьпечыць больш правільнае партыйнае кіраўніцтва комсамольскімі організацыямі.

### Узаемаадносіны парт'ячэек і парткомаў з фракцыямі праўленьняў ВНУ

Гэтае пытаньне, як выявіла абсьледваньне, выклікае найбольшае сумненьне, прыводзячае часам к спрэчкам, і патрабуе дзеля гэтага большае ўточненасьці. Перш за усё неабходна ўтачніць узаемаадносіны паміж ячэйкамі і фракцыямі праўленьняў. Чым павінна займацца ячэйка? Ясна, што асноўная задача, якая стаіць перад партыйнымі ячэйкамі заключаецца ў вядзеньні партыйна-політычнага выхаваньня студэнтаў-партыйцаў, політычнай рабоце сярод беспартыйнага студэнцтва, навуковых працаўнікоў і тэхнічных служачых, уцягненьне студэнцтва ў працу студэнцкіх організацый і г. д. Парт'ячэйкі, апрача таго, павінны прымаць актыўны ўдзел ва ўсім вытворчым жыцьці ВНУ, павінны абгаварваць усе важнейшыя пытаньні будаўніцтва ВНУ, быць у курсе і рэагаваць на праявы жыцьця і працы ВНУ. Кіраўніцтва-ж усім вытворчым жыцьцём павінна быць згрупавана ў руках Праўленьняў і іх фракцый. Фракцыі ў сваёй працы па адміністрацыйна-гаспадарчай і вытворчай лініям павінны падначальвацца ЦК КП(б)Б. Адсюль выходзіць, што фракцыі праўленьняў у сваёй працы не падначальваюцца партыйным ячэйкам ВНУ, але адначасова з гэтым партыйныя ячэйкі павінны прымаць актыўны ўдзел у працы фракцый, не дапушчаючы, аднак, падмены фракцый у пытаньнях адміністрацыйна-гаспадарчага кіраўніцтва. Правільная работа фракцый можа быць забясьпечана толькі ў тым выпадку, калі сапраўды будзе поўная сработанасьць і ўзгодненасьць з партыйнай ячэйкай, калі апошняя будзе ў курсе ўсіх мерапрыемстваў фракцыі. Апошнія павінны дзеля гэтага ва ўсёй сваёй працы выходзіць з гэтага палажэньня і не адхіляць парт'ячэйкі ад удзелу ў вытворчым жыцьці ВНУ на аснове быццам таго, што фракцыяй непасрэдна кіруе ЦК.

Абсьледваньне паказала, што ў узаемаадносінах паміж фракцыяй і мясцовымі партыйнымі камітэтамі маецца шмат недахопаў. Фракцыі часта ня лічаць патрэбным устанаўліваць сувязь з мясцовымі партыйнымі камітэтамі, ставіць іх у курс становішча працы ВНУ. Дзякуючы гэтаму часта бывае, што партыйны камітэт ці недастаткова, ці зусім ня ўдзельнічае ў кіраўніцтве ВНУ, нават па частцы такіх пытаньняў, кіраўніцтва якімі магло-бы быць поўнасьцю згрупавана ў руках мясцовых партыйных камітэтаў. Пастанова ЦК уносіць яснасьць у гэтае пытаньне. Мясцовыя партыйныя камітэты на падставе гэтае пастановы павінны значна ўзмацніць свой удзел ў кіраўніцтве ВНУ. Гэта павінна выразіцца ў тым, што партыйныя камітэты павінны пэрыодычна ставіць даклады фракцый аб становішчы ВНУ ці асобных галін іх работы, правяраць, як фракцыямі выконваюцца дырэктывы ЦК КП(б)Б. Пастановы Акругкомаў па пытаньням вытворчага жыцьця, вынасімыя ў парадку праверкі выкананьня дырэктыў ЦК, у выпадку згоды фракцыі павінны быць абавязковы для выкананьня, у выпадку рознагалосься, спрэчныя пытаньні павінны пераносіцца ў ЦК. Рознагалосьсі паміж фракцыямі і ячэйкамі па пытаньням вытворчага жыцьця таксама павінны пераносіцца ў ЦК.

Гэтыя пастановы, апрача таго, абавязваюць фракцыю ўстанавіць большую сувязь з мясцовымі партыйнымі камітэтамі, больш поўнае і сваечасовае інформаваньне іх аб жыцьці ВНУ.

## Праца сярод навуковых працаўнікоў

За апошні час узрос процант партыйцаў-навуковых працаўнікоў. Гэта дае магчымасьць партыйным ячэйкам ВНУ палепшыць пастаноўку работы ў сэкцыях навуковых працаўнікоў і ў большай меры забясьпечыць гэтую работу партыйным уплывам. Не заўсёды, аднак, работа сярод навуковых працаўнікоў праводзіцца дастаткова сур'ёзна. Даволі часта партыйная частка навуковых працаўнікоў прымае слабы ўдзел у працы сэкцый і слаба ўплывае на пастаноўку работы ў іх. Маюцца выпадкі праяўленьня хвасьцізму з боку партыйнай часткі профэсуры і навуковых працаўнікоў у стасунку да беспартыйных. Маюцца таксама выпадкі поўнага адрыву партыйцаў-навуковых працаўнікоў ад работы ў ячэйках, а часам і ігнараваньне апошніх. Прыходзіцца таксама адзначыць, што павышэньне кваліфікацыі партыйцаў-навуковых працаўнікоў ідзе паволі, што перашкаджае ўзьняцьцю іх удзельнае вагі сярод беспартыйнай профэсуры. У некаторых выпадках профэсура слаба прыцягваецца да ўдзелу ў вытворчым жыцьці, слаба інформуецца аб становішчы ВНУ. Маюцца таксама выпадкі неўясьненьня політыкі партыі ў адносінах да профэсуры, выпадак, несработанасьці з ёй. У БДУ ў пачатку навучальнага году быў выпадак калі студэнты вайшлі ў аудыторыю пад час лекцыі і прапанавалі профэсару спыніць заняткі.

Партыйным ячэйкам і фракцыям ВНУ неабходна, на аснове пастаноў ЦК прыняць меры к паляпшэньню гэтай галіны працы.

## Нацполітыка

У правядзеньні беларусізацыі за апошні час маецца значны ўзрух як сярод студэнтаў, так і сярод навуковых працаўнікоў і профэсуры. Маюцца дасягненьні ў адносінах вылучэньня беларускага актыву ў розных студэнцкіх організацыях, а таксама ў адносінах вылучэньня навуковых працаўнікоў з карэннага насельніцтва. Некалькі прасоўваецца праца па беларусізацыі навучальнае справы. Аднак, ва ўсёй гэтай працы маецца яшчэ шэраг вялікіх недахопаў: з боку часткі студэнцтва маюцца яшчэ адмоўныя адносіны да беларусізацыі ВНУ, а часам заўважваецца і пасыўнае супраціўленьне правядзеньню беларусізацыі. Ёсьць выпадкі неўясьненьня сутнасьці нацполітыкі часткай студэнцтва, погляды аб тым, што ва ўмовах БССР немагчыма кіраўніцтва партыі і рабочае клясы працай па беларусізацыі. Сярод беспартыйнага студэнцтва і часткова ў комсамольскіх ячэйках сустракаюцца міжнацыянальныя непаразуменьні. Сустракаюцца нават шовіністычныя і нацыянал-дэмократычныя настроі. Дзеля гэтага, партыйным ячэйкам і фракцыям ВНУ прадстаіць яшчэ вялікая задача па растлумачэньню і распрацоўцы пастаноў партыі па нацыянальнаму пытаньню сярод студэнцтва па ўзмацненьню правядзеньня беларусізацыі, па выяўленьню шовіністычных і нацыянал-дэмократычных настрояў і па барацьбе з імі, а таксама па зьніштажэньні міжнацыянальных непаразуменьняў.

У заключэньне адзначым, што значная частка партыйных пастаноў аб працы ў ВНУ недастаткова вядома масе партыйнага студэнцтва. Неабходна будзе дзеля гэтага прапрацаваць ня толькі апошнія пастановы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б, але таксама шэраг папярэдніх пастаноў партыйных зьездаў і пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

А. Некрашэвіч

# Наша культурнае будаўніцтва

Мы на пярэдадні 10-цігодзьдзя пролетарскае дыктатуры. За гэты час пролетарыят і сялянства, пад кіраўніцтвам нашае партыі, прашлі ў змаганьні за замацаваньне пролетарскае дыктатуры й пабудове социялістычнага парадку цэлы шэраг этапаў. І калі першыя годы пасьля Кастрычніка ўся ўвага працоўных была зьвернена на абарону пролетарскае рэспублікі ад „уласнай“ і замежнай контр-рэволюцыі, дык апошнія 4-5 гадоў характэрызуюцца, як годы напруджанага змаганьня на фронце гаспадарчага будаўніцтва. І першая, і другая задача нашай партыяй вырашаны, хаця застаюцца актуальнымі і надалей. Апошнія пару гадоў і асабліва мінулы год, калі мы скончылі адзін пэрыод (аднаўленьня) і перашлі да другога, больш цяжкага й вялікага (рэконструкцыі) нашага гаспадарчага будаўніцтва, перад намі паўстае надзвычайна важная, надзвычайна вялікая задача, без вырашэньня каторай мы ня можам ісьці далей у гаспадарчым будаўніцтве,—гэта задача культурнага будаўніцтва. Праўда, нашай партыяй і гэтая галіна працы ня была забытай у працягу мінулага часу. К 10-годзьдзю нашай працы, калі мы будзем падлічваць нашыя дасягненьні, мы пабачым, як многа ўжо зроблена намі і на гэтым фронце, зроблена больш, чым часта нам здаецца. Даволі толькі хаця-б такога факту, як адчыненьне й замацаваньне ў БССР 4-х вышэйшых вучэбных установ (БДУ С.-гасп. акад., Вэтінстытут, Комвуз). Гэта ў БССР, у межах якой да рэволюцыі ня было ні воднае такой установы. Аднак, гэта нас не павінна запакоіць, бо, як ужо сказана, далейшая пабудова социялістычнае гаспадаркі, прымушана будзе ўперціся ў нашую някультурнасьць, няпісьменнасьць, адсутнасьць патрэбных тэхнічных сіл. Адначасова паўстае пытаньне ня проста аб „культурнасьці“, а аб разьвіцьці культурнага будаўніцтва ў социялістычным напрамку. Тут таксама ня проста аднаўленьне, ня проста пабудова культурных багацьцяў, а некі значны пэрыод „культурнае“ рэконструкцыі.

Гэта задача яшчэ больш сур'ёзна паўстае ў рэспубліках з раней прыгнечаных нацыянальнасьцяў і ў прыватнасьці ў БССР.

Комуністычная партыя Беларусі сваечасова паставіла пытаньні культурнага будаўніцтва, забясьпечыўшы яго социялістычны напрамак лёзунгам „Уся КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва“. Конкрэтныя-ж задачы ў культурным будаўніцтве на бліжэйшы пэрыод вызначаны пленумам ЦК КП(б)Б (у ліпені 1926 г.), каторыя ў асноўным зводзяцца да наступнага: 1) „падняцьця культурнага стану працоўнага насельніцтва, 2) падрыхтоўка кваліфікаваных працаўнікоў па розных галінах нашае гаспадаркі, культуры й савецкага будаўніцтва; 3) забясьпечаньне социялістычнага напрамку культурнага разьвіцьця і 4) прыстасаваньне культурнае працы да мовы й быту нацыянальнасьцяй, якія жывуць на абшарах БССР і далейшае разьвіцьцё нацыянальных форм культуры“ (рэзолюцыі пленуму ЦК КП(б)Б, ліпень 1926 г. ст.).

Як-жа вырашаюцца гэтыя задачы на мясцох? На падставе матэрыялаў аб культурным будаўніцтве ў Віцебшчыне, каторыя, па мойму, будуць паказальнымі, бо ў самым Віцебску сконцэнтраваны значны лік ўстановаў, якія павінны гэтыя задачы вырашаць,—я пастараюся паказаць, як ідзе процэс культурнага будаўніцтва.

Мы ў Віцебску маем Вэтэрынарны Інстытут (выш. вуч. уст.), 2 Пэдтэхнікумы (беларускі й яўрэйскі), беларускія пэдагогічныя курсы, коопэрацыйны тэхнікум, электра-мэханічны тэхнікум, мастацкі тэхнікум, рабфак, а таксама, хаця і неаформлены, як дзяржаўная ўстанова, музычны тэхнікум, 2-гі Беларускі Дзяржаўны Тэатр і г. д., і значны лік іншых установаў, як профтэхшколы, школы сялянскае моладзі, Саўпартшкола 2 ст. і інш.

Ня робячы агульнага агляду, так як ён стаяў на апошнім пленуме Акруговага Камітэту КП(б)Б, высьвятлім толькі некаторыя бакі культурнае працы, галоўным чынам недахваты, каторыя прадстаўляюць агульны інтарэс.

## I

Першай задачай у галіне падняцьця культурнасьці працоўных мас зьяўляецца праца па ліквідацыі няпісьменнасьці. Гэта этап, каторага ў культурным будаўніцтве, ніяк нельга мінуць. І ў гэтай працы мы маем, як па ўсёй БССР, так і па Віцебшчыне значныя дасягненьні. Гэтая праца ідзе па двух напрамках. Першы—гэта школы сацвыху і 2-гі—лікпункты для дарослых. Школамі сацвыху па вакрузе ахоплена дзяцей школьнага ўзросту каля 50 проц. (47,3 проц. па даных Акр. АНА на 1926-27 г.), ці ў параўнаньні з даваенным узрост на 70 проц. па ліку дзяцей і па ахвату іх школай з 29 проц. у 1913 г. да памянёных—47,3 проц. у гэтым годзе. Гэтыя вялікія дасягненьні і аднак, школа-прымітыўка ўжо не здавальняе запатрабаваньняў насельніцтва. Расьце патрэбнасьць у больш сталай адукацыі, расьце імкненьне да старэйшых груп сямігодкі, каторыя ня могуць здаволіць усіх жадаючых, гэтае першае, а па-другое, у сыстэме нашае асьветы, аб каторай, паміж іншым, таксама варта стала пагаварыць і пагаварыць як мага скарэй, ёсьць некаторы правал. У прымітыўках мы ня маем групы 0, у той час, калі яна ёсьць у сямігодках і дзеці, якія скончылі прымітыўкі (4 групы) павінны ізноў паступаць у 4-ю групу сямігодкі, што не заўсёды магчыма для бяднейшага селяніна, бо гэта значна павялічвае тэрмін навучаньня дзіцяці ў школе. Адносіны да раённае вясковае сямігодкі палепшыліся, яе лічаць сталай установай, якая дае пэўныя веды, а гэтага ня было раней. Але сямігодка запаўняецца местачковым жыхарствам і бліжэйшым сялянствам, дзеці каторых вучацца ў першых 4 групах сямігодкі й аўтаматычна пераходзяць у старэйшыя групы, дзеля гэтага новым вучням не застаецца месца, групы перапоўнены (60-70 чал.), а ад гэтага, вядома, якасьць ня выігрывае. У сямігодцы няма мэтавае ўстаноўкі. Селянін-практык патрабуе, каб школа дала што-небудзь рэальнае. Наша сямігодка не дае патрэбных ведаў для паступлення ў ВУЗ, дае больш чым фактычна патрэбна для паступленьня ў тэхнікум. Да й гэта, па нашаму, не яе асноўная задача. Задачай вясковай сямігодкі павінна быць падрыхтоўка культурнага гаспадара, ёй патрэбна прыдаць сельска-гаспадарчы ўхіл, што не перашкодзіць, вядома, і далейшай вучобе (тэхнікум, ВУЗ), пакуль-што ні першай, ні другой задачы сямігодка ня вырашае. І сялянскія дзеці, скончыўшы яе пападаюць у становішча, калі „ад неба адарваўся і зямлі не дастаў“. Ня будзем казаць, што нашы сямігодкі яшчэ не абсталяваны, бедныя й г. д. Гэта задача вырашыцца пры ўзросьце

нашае гаспадаркі, пры перамозе над нашай беднасьцю. Адно патрэбна зрабіць і зрабіць неадкладна. Вясковую сямігодку патрэбна забясьпечыць агульным памяшканьнем, бо бедната ня можа наймаць кватэр у раённых цэнтрах і мястэчках, дзе крызіс на кватэры ня менш, чым у Менску, ці Віцебску, а дзеля гэтага і кошт іх не па бядняцкай кішэні. Гэта адна з прычын, што бедняты ў сямігодках вучыцца мала (па Віцебшчыне 6,3 проц. безьзямельных і 7,9 проц. вясковае бедняты, думаю, што па іншых вакругах ня больш). Дзяцей рабочых у гарадзкіх сямігодках таксама мала (31 проц. у бягучым годзе), хаця і ёсьць тэндэнцыя да росту, аднак, „цэнтральнай фігурай“ у сямігодцы зьяўляюцца дзеці служачых (39 проц. у бяг. годзе, таксама з тэндэнцыяй росту), а калі прыкінуць сюды яшчэ 6-7 проц. па (Віцебску) не прац. элементу, дык хваліцца пакуль-што нечым, хаця ў параўнаньні з мінулымі гадамі дасягненьні, бязумоўна ёсьць (толькі за апошні год лік дзяцей рабочых узрос на 2 проц.).

Дашкольныя ўстановы—дзеці Кастрычніка растуць разам з узростам нашых матэрыяльных магчымасьцяй, але іх яшчэ ўсё-ж надзвычайна мала. Здавальняюць яны толькі 0,5 проц. дзяцей дашкольнага ўзросту. Дзеля гэтага яшчэ наглядаецца даволі значная бяспрытульнасьць, змаганьне з каторай, як паказвае вопыт, можаісьці даволі пасьпешна пры належнай пастаноўцы працы Т-ва „Прыхільнік дзяцей“. Так, напрыклад, Віцебскім т-вам выдадзена за 1925-26 гасп. год на змаганьне з бяспрытульнасьцю і дапамогу дзіцячым установам 56 з лішнім тысяч рублёў. Аднак, ужо цяпер патрэбна паставіць пытаньне аб падрыхтоўцы працаўнікоў дашкольных установаў, бо пакуль-што там працуюць людзі бяз усякай кваліфікацыі, часта выпадковыя.

Пры становішчы, калі нашымі школамі яшчэ не ахапляюцца цалкам дзеці школьнага ўзросту надзвычайнае значэньне набывае праца па ліквідацыі няпісьменнасьці. Не застанаўліваючыся на конкрэтных дасягненьнях, я адзначу два моманты. Першае, гэта тое, што пры значным разгортваньні лікпунктаў, але з надзвычайна кароткім тэрмінам навучаньня, мы часта ліквідуем няпісьменнасьць толькі фармальна, бо асобы, якія канчаюць лікпункт не замацоўваюць сваіх ведаў, ня могуць быць прывучанымі за кароткі тэрмін навучаньня ні да газэты, ні да кніжкі, і дзеля гэтага мы маем значны рэцыдыў няпісьменнасьці. Гэта выявілася, як у Віцебшчыне, так па маіх нагляданьнях і ў іншых вакругах. Часта на лікпунктах вучацца тыя, якія ў мінулым годзе гэты-ж лікпункт скончылі. Каб пазбавіцца ад гэтага патрэбна адначасовае разгортваньне школ малапісьменных, у каторых слухач мог-бы замацаваць свае веды. Магчыма, што гэтае разгортваньне школ малапісьменных пры недахваце сродкаў, пойдзе за кошт лікпунктаў, але ў гэтым вялікай бяды няма. Не патрэбна занадта гнацца за колькасьцю, пара паклапаціцца аб якасьці. Другое,—наша прамысловасьць уцягнула ў сябе значны лік новых рабочых, з якіх большасьць няпісьменных (будаўнікі, дрэваапрацоўнікі, тэкстыльшчыкі і інш.). Паміж тым, профсаюзы, ня гледзячы на ўсе пастановы не разгарнулі належнае працы ў гэтым напрамку (у гэтым годзе мы маем у Віцебшчыне па матэрыялах пленуму АК, нават, памяншэньне лікпунктаў). Зразумела, што гаварыць аб сталай выхаваўчай працы тут ня прыходзіцца. Культаддзелы АСПС павінны задачу ліквідацыі няпісьменнасьці паставіць як адну з важнейшых задач. Пакуль-што гэтага няма.

Адначасова т-ва „Прэч няпісьменнасьць“ павінна больш разгарнуць сваю працу. На гэтае т-ва трэба зьвярнуць больш увагі, бо ня сэкрэт, гэтае т-ва ў нас, як кажуць, у загоне. Адначасова самому т-ву трэба перабудаваць мэтоды сваёй працы і ня гонячыся за лікам сяб-

роў, паставіць працу так, каб кожны пісьменны сябра т-ва конкрэтна заняўся працай па ліквідацыі няпісьменнасьці хаця-б аднэй асобы ў сябе на прадпрыемстве, ЖАК-це, клюбе, хаце-чытальні й г. д.

Далейшым стопням падняцьця культурнага ўзроўню працоўных зьяўляюцца вячэрнія школы моладзі й дарослых. Нягледзячы на тое, што ліпнёўскі пленум ЦК КПБ надае ім надзвычайна важнае значэньне, нягледзячы на тое, што імкненьне да гэтага тыпу школ надзвычайна вялікае, аднак, мы тут зрабілі яшчэ надзвычайна мала. Праграмы гэтых школ неўпарадкаваны, надзвычайна перагружаны. У выкладаньні асобных дысцыплін няма сыстэмы. І што больш усяго небясьпечна, гэта тое, што грамадзянаназнаўства ў гэтых школах пастаўлена ў большасьці дрэнна, выкладаецца малакваліфікаванымі выкладчыкамі, часта беспартыйнымі. Школы не абсталяваны, няма прыкладаў і г. д. У наступным годзе трэба паклапаціцца, каб гэтыя недахопы былі-б зьліквідаваны.

Нарэшце такая важная праца, як самаадукацыя, амаль не разгорнена. Ні ЦСПСБ, ні акруговыя саветы саюзаў у гэтым напрамку амаль нічога не зрабілі.

Праца клюбаў і хатаў-чытальняў, акрамя ўсіх іншых перашкод (адсутнасьць памяшканьняў, абсталяваньня і г. д.) упіраецца ў недахват кваліфікаваных працаўнікоў. Нашыя курсы па перападрыхтоўцы не даюць належнага эфэкту, бо большасьць з скончыўшых іх не застаецца на гэтай працы. Шмат працаўнікоў хат-чытален лічацца імі толькі намінальна, а вядуць іншую працу, лепшыя працаўнікі, пасьля іх выяўленьня, перакідаюцца на іншую працу. Самі загадчыкі часта разглядаюць сваю працу, як часовую. Мы 7 год ніяк ня можам стабілізаваць гэты кадр працаўнікоў. А такая стабілізацыя патрэбна, калі прыняць пад увагу тыя запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца да працаўніка хаты-чытальні,—гэтага унівэрсала па ўсіх пытаньнях. За год працы добры працаўнік ня выйдзе, а на другі год мы яго перакідаем, пераводзім, пасылаем на іншую працу і г. д. і г. д.

Гэты-ж недахват працаўнікоў адчуваецца і ў клюбах і, магчыма, што гэта акрамя ўсіх іншых прычын, значна адбіваецца на працы клюбу. Клюб часта „абсядаюць, як мухі мёд“ розныя „спэцы“, каторыя халтураць, каторыя ня ведаюць рабочае масы. Адсюль тое, што гурткоў у нас шмат, імкненьне да працы ў іх вялікае, а гурткі ўсё ж не працуюць, альбо працуюць цераз пень-калоду. І праўленьне клюбаў праводзяць „кінофіскацыю“ клюбаў. Гэта проста й лёгка. Дастаў сабе „баявік“ і круці, і клопату мала, ды й зарабіць можна. Культаддзелы працай кіруюць слаба, слаба распрацоўваюцца мэтоды клюбнае працы. Няма абмену вопытам у друку.

Кіно справу мы разгарнулі даволі шырока. Кіно дакацілася да глухіх вёсак. Але... але кіно яшчэ стала ня тым, чым яно павінна быць. У нас за межамі чамусьці купляюць хлам, хлам—якога ніякімі надпісамі не направіш. І што яшчэ горш, што гэты хлам ідзе ў рабочыя клюбы, пападае ў вясковыя перасоўкі. Добрая савецкая фільма ідзе ў „камерчаскіх“ кіно („Культура“, у Менску, „Пролеткіно“ у Віцебску). БДК і яго аддзяленьні ня цікавяцца тым, што даецца рабочай і сялянскай масе. Нарэшце, пракат фільм каштуе дорага (15—20 р. вечар) і дзеля гэтага плата ў клюбах высокая. Кіно-хроніка — рэдкі госьць у нашых кіно. Пару слоў аб надпісах на бел. мове ў кіно. Яны напісаны так, што замест таго, каб быць сродкам распаўсюджваньня беларускае пісьменнасьці, вывучаюць людзей быць няпісьменнымі. Пераклады надпісаў неправідловыя, шмат памылак і г. д., а Белдзяржкіно гэтая справа каштуе, мабыць, значных сродкаў.

Аб газэтах нашых, асабліва акруговых, шмат пісалі й гаварылі. Аднак, гэтае пытаньне абгаварыць трэба яшчэ раз. Ці ня варта лепш, замест гэтых кучаў паперы з мільёнамі памылак, наладзіць выданьне адной, добрай, дзяшовай рэспубліканскай сялянскай газэты й часопісі. Па мойму, гэта будзе й таней і карысьней, бо пакуль што шмат якія з гэтых газэт могуць служыць матэрыялам толькі для фэльетонаў. Нам казалі, што гэтае мерапрыемства ня дасьць магчымасьці кіраваць сель-кораўскім рухам. Наколькі мне вядома, рэдакцыі акруговых газэт над-та слаба кіруюць імі. Лепш—было-б мець пры цэнтральнай газэце групу добрых інструктароў,—яны-б часьцей наведвалі вёску й прад-прыемства, чым рэдакцыі акруговых газэт.

Асабліва патрэбна паставіць пытаньне аб „Полымі" і „Маладняку". Гэтыя часопісі здабылі сабе значны аўторытэт. Але чытае іх, галоўным чынам, інтэлігенцыя. Патрэбна, каб гэтыя часопісі больш чыталіся партыйцамі й комсамольцамі, патрэбна, каб яны пісалі ў гэтых часопісях.

Мы маем 4 дзяржаўныя тэатры. БДТ1 здабыў сабе імя, здабыў гледача. Утварэньнем студыі ў Маскве мы думалі выхаваць новага артыстага. Паміж тым з некалькі асоб партыйцаў і комсамольцаў у студыі, засталося ў складзе БДТ 2 толькі 2 чал, Рэшта прыехала да нас добрымі акторамі, але... беспартыйнымі. Мы выхавалі артыстых і згубілі некалі ня кепскіх комсамольцаў і партыйцаў. Адтуль і рэпэртуар БДТ 2, на якім можа можна добра навучыцца іграць актору, але які не задавальняе рабоча-сялянскага гледача. Усе гэтыя „Эросы і Псыхі", „Сны ў летнюю ноч", „Вакханкі" і інш. не здавальняюць новага гледача. Праўда, што рэпэртуару няма, няма новага рэпэртуару, але-ж і тое, што ставіцца ня выхад. Нашаму „Маладняку", дзе ёсьць шмат таленавітых пісьменьнікаў варта папрацаваць над гэтай справай.

Галоўполітасьветы трэба больш паклапаціцца аб ідэёвым кіраўніцтве тэатрам, інакш мы не атрымаем ад тэатру таго, што нам патрэбна. Партыйным ячэйкам, райкомам прыдзецца пры гэтым зьвярнуць належную ўвагу на выхаваўчую працу сяброў партыі, якія маюць дачыненьне да тэатру з тым, каб яны маглі шырэй разгарнуць працу і сярод беспартыйных працаўнікоў сцэны. Інакш будуць іх выхоўваць іншыя, будуць выхоўваць так што мы за нашы-ж грошы будзем мець ідэолёгічных ворагаў нашых.

Той-жа ліпнёўскі пленум ЦК зварочвае ўвагу й на такую важную галіну працы, як радыё. Аднак, ні з боку партыйных організацый, ні асабліва з боку профсаюзаў, мы ня бачым належнае ўвагі гэтае працы. У нас яшчэ ўсе глядзяць на гэтую вялікую працу, як на дзяціную забаўку. Т-ва прыхільнікаў радыё не папулярызавана. У нас няма людзей, якія-б маглі дапамагчы рабочым і сялянам скарыстаць гэтае вялікае дасягненьне навукі. А інтарэс да радыё надзвычайна вялікі. Мы маем прыклады, калі ў Віцебшчыне сяляне зьбіралі дабраахвотна па 300-500 р., на моцнагаварыцелі, калі рабочыя будавалі такія прыемнікі, якіх не пабудавалі нават нашы фабрыкі. Але ў большасьці нашы моцнагаварыцелі маўчаць, бо няма каму наладзіць іх. Т-ва прыхільнікаў радыё павінна падрыхтаваць радыё-аматарскі актыў. А гэта будзе магчыма калі на дапамогу яму пойдуць нашы культаддзелы АСПС, калі парторганізацыі зьвернуць на гэтае т-ва больш увагі, чаго, праўду сказаць, цяпер яшчэ няма.

## II

Другой нашай задачай зьяўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных працаўнікоў ва ўсіх галінах гаспадаркі, савецкае працы й культурнага будаўніцтва.

За апошнія гады ў БССР адчынена шмат навучальных установ, якія рыхтуюць гэтых працаўнікоў (тэхнікумы рознага тыпу, ВУЗ'ы і г д.).

Аднак, калі спэцыяльнай камісіяй АК КПБ было праведзена дасьледваньне гэтых установ па Віцебску, мы пабачылі, што тут ня ўсё добра.

Папершае, мы яшчэ да гэтага часу ня маем сталых програм. Галоўпрофасьветы зацьверджаны навучальныя пляны, але програм няма. Адна й тая-ж дысцыпліна ў аднолькавых установах выкладаецца па розных програмах. Зьмест дысцыплін залежыць ад таго, хто яе выкладае. Вучэбныя пляны тэхнікумаў маюць столькі дысцыплін, што іншаму ВУЗ'у не пад сілу. Напрыклад, Электра-мэханічны тэхнікум мае 36 дысцыплін, з якіх 16 выкладаюцца аднachасова на адным курсе.

У навучальных установах няма належнае мэтавае ўстаноўкі. Слухачы і да гэтуль ня ведаюць каго з іх рыхтуюць, ня ведае часта гэтага й сама ўстанова (напрыклад, Эл.-Мэх. тэхнікум). Адсюль раздавальненьне слухачоў працай, упадачныя настроі і г. д І вядома, што добрых спэцыялістых мы пры такім становішчы не атрымаем.

Выкладаньне грамадазнаўства пастаўлена кепска, хаця крыху і лепш, чым раней. Тут таксама няма сталых програм, няма кваліфікаваных выкладчыкаў. Нарэшце самой дысцыпліне адводзіцца надзвычайна мала часу (4-5 г. у тыдзень). Мы маем такія становішчы, што па гісторыі партыі студэнты ніяк ня могуць перайці далей народніцкага пэрыоду, па гісторыі клясавага змаганьня пачынаюць францускай рэволюцыяй і канчаюць Парыскай Комунай, на больш часу не хапае. Само грамадзяназнаўства выкладаецца беспартыйнымі, якія аб'ектыўна, пры ўсім сваім жаданьні, ня могуць выкладаць яго, як патрэбна. І мы стаім, не перавялічваючы, перад фактам, што цераз год нашых новых працаўнікоў, асабліва настаўнікаў, прыдзецца браць на курсы па ліквідацыі політычнае няпісьменнасьці.

Установы не забясьпечаны партыйным кіраўніцтвам, бо ў адміністрацыйным складзе амаль няма партыйцаў.

Мы дабіліся таго, што ў складзе вучняў тэхнікумаў і ВУЗ'аў налічваецца больш 40 проц. комсамольцаў і да 5 проц. партыйцаў. Але выхаваўчая праца ў ячэйках, як комсамольскіх, так і партыйных пастаўлена дрэнна. Ячэйкі КПБ не заўсёды адыгрываюць кіруючую ролю ў установах. Політычнае разьвіцьцё ў партыйцаў-студэнтаў даволі нізкае. Адсюль нездаровыя настроі сярод студэнцтва, імкненьне да вузкае спэцыфікацыі, адсутнасьць сувязі з рабочай масай, а ў некаторых выпадках проста варожыя адносіны да Савецкае ўлады і партыі.

Я не кажу аб матар'яльным становішчы тэхнікумаў,—яно вядома й жадае шмат лепшага.

Адно, што мы павінны паставіць актуальнай задачай на бліжэйшы час, гэта забясьпечаньне партыйнымі сіламі нашых ВУЗ'аў і тэхнікумаў. Тут патрэбна мобілізацыя партыйцаў на гэтую працу. Нельга казаць, што ў нас няма людзей, праўда, іх мала, але найці можна. Ня было-ж у нас чырвоных дырэктароў, камандыраў,—нашлі. Пара правесьці мобілізацыю партыйных сіл на трэці фронт.

Аднachасова ўсёй партыйнай організацыі патрэбна зьвярнуць больш ую ўвагу на працу нашых навучальных установ, на працу партыйных і комсамольскіх ячэек у іх.

У мінулым годзе першы раз праводзіўся набор у ўстановы без разьвёрсткі. У выніку гэтага, мы маем значнае палепшаньне падрыхтоўкі слухачоў, значна палепшыўся і соцыяльны падбор (дзяцей беднаты на 4,6 проц. больш, чым у мінулым годзе. на 1 проц. лік дзяцей саматужнікаў, паменшыўся на 5,2 проц. лік дзяцей служачых), аднак,

некалькі паменшыўся лік дзяцей рабочых (на 0,1 проц.). Наогул-жа рабочых па свайму пахаджэньню ў тэхнікумах вучыцца мала, асабліва ў пэдтэхнікумах (толькі 24,5 проц. у 1926-27 навуч. годзе). Проціанту рабочых мы ня зможам падняць пры сучаснай сыстэме прыёму без арганізацыі падрыхтоўкі рабочае моладзі для паступленьня ў навучальныя ўстановы. За гэтую працу зараз-жа павінны ўзяцца прафарганізацыі, іначай мы не гарантыраваны, што будзем мець далейшае паніжэньне проц. рабочых. Трэба таксама наладзіць дапамогу дзецям бедняты. Рабоча-бедняцкі асяродак у тэхнікумах і ВУЗ'ах павінен быць павялічаны.

III

Нарэшце некалькі слоў аб удзеле партыйцаў у культурным будаўніцтве наогул і ў справе будаваньня беларускае культуры ў прыватнасьці. Тут трэба адзначыць, што партыйныя арганізацыі пачынаюць праводзіць вялікую працу, аднак, ячэйка, а часта і РК не заўсёды ўважліва адносяцца да пытаньняў культурнага будаўніцтва. Мы маем шмат прыкладаў, калі ў некаторых РК гэтыя пытаньні не абгаварваліся ні разу ў працягу цэлага году. Гаспадарчая праца й іншая можа і не давалі магчымасьці цалком падыйсьці да гэтых пытаньняў, але факт застаецца фактам. Намі таксама надзвычайна мала робіцца ня толькі ў справе выхаваньня новых кадраў інтэлігенцыі, але й выхаваньне той, якая ўжо працуе.

Партыйцы і комсамольцы прымаюць надта слабы ўдзел у краязнаўчай працы, у працы розных літаратурных аб'яднаньняў („Маладняк", „Зваеньня", „Юнгэр Арбэйтер"). І калі мы іншы раз пасылаем туды партыйцаў, дык яны рэдка бываюць зьвязанымі, так сказаць органічна з працай. Адсюль і выпадкі орыентацыі не на Маскву (вокладкі на кніжках друкуюцца на мове беларускай і францускай—бач. расейская, гэта „вялікадзяржаўная". Утварэньне розных новых тэрмінаў спэцыфічна-інтэлігенцкіх у літаратуры й навуцы). У „Трысьце" Дубоўкі для большага ўразуменьня „непосвещенных", нават, прыкладзены спэцыяльны слоўнік у іншых і гэтага няма), якія могуць быць заменены больш зразумелымі народнымі словамі.

Мы яшчэ да гэтага часу ня маем сталае крытыкі на літаратурную продукцыю нашых літаратурных груп і аб'яднаньняў. Мы ня маем „спэцаў ад культуры" партыйцаў. Іх трэба ўтварыць. У нашай партыі ёсьць шмат таленавітых людзей, якія-б многа змаглі-б зрабіць у справе культурнага будаўніцтва, але яны загружаюцца іншай працай, на іх культурную працу на мясцох глядзяць як на нейкую забаўку. І тут яшчэ раз патрэбна мобілізацыя партыйных сіл на культурны фронт. Інача соцыялістычнага напрамку культурнага разьвіцьця мы не забясьпечым. Патрэбна штодзённая праца партыі й яе сяброў на гэтым фронце. Прадстаўніцтвамі тут нічога ня зробіш.

ЦК КПБ павінен падабраць людзей, яны ў нашай партыі ёсьць. Нашлі-ж мы дырэктароў, і камандзіраў, - найдзем і культурных працаўнікоў.

Я яшчэ раз паўтараю, што спыніўся ў сваім артыкуле на недахватах працы. Дасягненьні ў нас вялікія, але, як было ўжо сказана, нам яшчэ шмат патрэбна працы, шмат напруджанасьці, каб цалком ажывіць лёзунг:

„Уся КПБ—на чале культурнага будаўніцтва".

Я. Чарнецкі

# Аб габінэце агітпрапработы

Аб гэтай установе, мы яшчэ не сустракалі ніводнага напісанага слова ў партыйным беларускім друку. Для Беларусі габінэт агітпрапработа—новая справа і аб ім ніхто ня піша. Але-ж маючы на ўвазе, што вопыт організацыі такіх габінэтаў ужо маецца й у нас, як у Віцебску, Магілеве, Менску, а можа і другіх акругах, я лічу неабходным каротка застанавіцца на рабоце гэтае ўстановы.

Якія абставіны ў нашай агітпрапрабоце сучаснага моманту выклікалі неабходнасьць утварэньня габінэту агітпрапработы. Іх можна характарызаваць наступным парадкам:

Вялікі ўзрост сеткі партасьветы, большы размах і паглыбленьне працы па агітацыі, шырокі ўдзел рабочых і сялянскіх мас у культурна-асьветнай рабоце. Высоўваньне агітпрапработнікаў з гушчы саміх рабочых, рост політычнае актыўнасьці й культурнага ўздыму мас—усё гэта выклікае неабходнасьць пераходу да больш плянамернае агітпрапработы, асабліва ў справе вучоту, сыстэматызацыі і абагульваньня новых форм і мэтадаў у галіне агітпрапработы.

Перад намі стаіць задача—палепшаньня кіраўніцтва масамі. Гэтая задача выклікана агромным культурным і політычным узростам мас. Нам неабходна глыбей разгарнуць нашу працу ў справе ахопу нашым кіраўніцтвам узрастаючай актыўнасьці мас і накіраваць яе па шляху, які партыя лічыць правідловым.

У прыстасаваньні да агітпропаўскае работы—палепшаньне кіраўніцтва масамі вызначаецца запатрабаваньнямі павышэньня якасьці агітацыйна-пропагандысцкае работы.

Неабходнасьць паглыбленьня нашае агітацыйна-пропагандысцкае працы, палепшаньня, відазьмены яе форм і мэтадаў у прыстасаваньні да ўзрастаючае патрэбнасьці мас, да іх культурнага росту, неабходнасьць больш сур'ёзнага вучоту вопыту работы, больш сур'ёзнае падрыхтоўкі нашых пропагандыстых, агітатараў—усё гэта прыдае габінэту вельмі вялікае значэньне ў нашай рабоце.

Задача ўзьняцьця якасьці агітпрапработы, а не „мітынгоўшчыны" і „саматужніцтва", стаіць перад намі вельмі востра. Гэта зразумела кожнаму нашаму пропагандыстаму і агітатару. А на самай справе, іменна гэтыя абставіны выклікалі неабходнасьць к утварэньню габінэтаў.

Асноўны зьмест работы габінэтаў—гэта палепшаньне якасьці агітпрапработы, што ў сваю чаргу высоўвае на першы плян пытаньне аб узмацненьні кіраўніцтва работнікамі ўсіх відаў агітацыйна-пропагандыцкай работы. Гэта кіраўніцтва асабліва павінна быць усілена ў адносінах на нізавых работнікаў, якія сваёю работаю абхватваюць самыя адсталыя пласты рабочай клясы і сялянства.

У зьвязку з гэтым асаблівую вартасьць набывае пытаньне інструктажу агітпрапработнікаў, матар'яльнае і ідэёвае іх абслугоўваньне.

Габінэт у сваёй рабоце зьяўляецца дапамагаючым ворганам АПА— праз які ўсе матар'ялы, усе пастановы АПА ў галіне агітацыі прапаганды павінны паднасіцца масе нізавых агітпрапработнікаў у больш жывым, мэтадычна апрацованым відзе. Такія габінэты маюцца амаль што ўва ўсіх губ. гарадох РСФСР.

II

Коратка застанаўлюся на тым вопыце, які мы набылі ў рабоце Віцебскага габінэту. Палажэньне, якое было выпрацавана намі для нашага габінэту было прынята асеньняй агітпропнарадаю пры ЦК КПБ (з невялічкімі зьменамі) для ўсіх акруговых габінэтаў. Там ясна вызначаны і задачы, і зьмест работы і організацыйная структура габінэту. Гэта палажэньне мусіць маецца ўва ўсіх агітпропаў Акркомаў. Гэта палажэньне пратэндуе на вельмі шырокі размах работы. У ём мы налічваем цэлых 7 аддзелаў, па як м габінэт павінен разьвярнуць працу, што бязумоўна, асабліва з пачатку організацыі, немагчыма. З усяго гэтага трэба ўхапіцца з пачатку за галоўнае.

Практыка работы габінэту пры Віцакругкоме КПБ, у якім мы працуем паказала, што ў нашых умовах разгортваць працу габінэту прыходзіцца галоўным чынам па двум аддзелам: а) пропаганды і б) агітацыі і па галіне інструктажу і консультацыі агітпрапработнікаў і людзей займаючыхся самаадукацыяй. Паставіўшы на належную вышыню гэтую працу можна тады брацца і за кіраўніцтва іншаю: як клюбнаю ў горадзе і політасьветную на вёсцы. Якія мы маем дасягненьні ў рабоце нашага габінэту за прашоўшы час. Габінэт з'організаваўся ў верасьні месяцы 1926 году. Мае трох пастаянных работнікаў— 2-х у габінэце і аднаго ў бібліотэцы габінэту. За адпушчаныя па каштарысу 100 руб. у месяц на вучэбную частку габінэта—удалося ўтварыць больш-менш матар'яльны грунт у сэнсе забясьпечаньня літаратурай і другімі пасобчымі матар'яламі па агітпрапрабоце.

Вынікі нашае работы за гэты кароткі тэрмін можна характарызаваць наступнымі фактамі:

За тры месяцы (кастрычнік, лістапад і сьнежань) габінэт пасяціла 626 асоб па розным пытаньням агітпрапработы. Трэба падкрэсьліць, што аддзел пропаганды (партасьветы) зьяўляецца ў нас сапраўднай лябараторыяй для кіраўнікоў політшкол: партыйнай і комсамольскай сеткі. Поўны падбор неабходнай для падрыхтоўкі літаратуры і другіх пасобных матар'ялаў,налічча ўказчыка, па якім матар'ялам трэба рыхтавацца да той ці іншай гутаркі, налічча консультанта, сэмінараў і ўсе іншыя спрыяючыя ўмовы значна аблягчаюць справу падрыхтоўкі кіраўнікам да іх работы. Такім чынам можна сказаць, што наш габінэт задачу абслугоўваньня пропагандыстых, задачу падняцьця іх тэорытычнага ўзроўню, задачу марксісцка-ленінскага выхаваньня нашых маладых рабочых пропагандыстаў выканаў.

Што тычыцца работы габінэта па абслугоўваньню агітацыі, то і тут праведзена значная праца. Вельмі многа зьвярталася ўвагі пытаньням прапрацоўкі XV парконфэрэнцыі, пленумаў і X зьезду КПБ. Па апошнему пытаньню ячэйкі зусім ня мелі матар'ялаў. Габінэтам была падобрана ўся неабходная літаратура, якою абслугоўваюцца агітатары акругі.

Па кампанійскім пытаньням і наогул па галоўным пытаньням нашай бягучай політыкі (рэжым эканоміі, зьніжэньне цэн, барацьба з бюрократызмам і інш.), якія патрабуюць высьвятленьня ў форме дакладаў на рабочых сходах, для дакладчыкаў утвараюцца тэзісы і кон-

спэкты, а таксама концэнтрыруюцца неабходныя матар'ялы, што значна аблягчае работу нашага агітатара.

Я не застанаўліваюся падрабязгова на другіх відах працы, якую праводзіць габінэт; як сыстэматызацыя матар'ялаў, вучот вопыту, вучот настрояў, работы розных нарад і сэмінараў, дачы даведак, консультацыі і інш. Усё гэта гаворыць за тое, што ў работу габінэта ўкладваецца вельмі вялікі зьмест і габінэты агітпрапработы пры належнай увазе даюць з боку нашых партыйных устаноў, часткаю якіх зьяўляюцца і яны і з боку савецкіх—сыграюць вельмі вялікую ролю ў справе якаснага палепшаньня агітпрапработы. Аб уважлівых адносінах да габінэту я гавару таму, што часта хочачы абагаціць габінэт мясцовымі матар'яламі (аб мясцовай прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, коопэрацыі і інш.), што вельмі часта патрэбна прапагандысту і агітатару, гэтыя матар'ялы даставаць вельмі цяжка.

Некалькі слоў аб кіраўніцтве. Работа габінэта выходзіць з тых задач, якія стаяць перад агітпропамі камітэтаў партыі і кіраўніцтва непасрэдна ісходзіць з АПА. Гэта бязумоўна правідлова, але маючы на ўвазе, што гэта новая справа і ў рабоце прыходзіцца адшукваць і формы і мэтоды, у чым вельмі вялікую карысьць сыграла знаёмства з работаю другіх, такіх самых (акруговых) габінэтаў. Дзеля гэтага неабходна было-б, каб АПА ЦК КПБ таксама кіраваў работаю габінэтаў на грунце абагуленага вопыту работы ўсіх габінэтаў, якія маюцца на Беларусі. Гэта дапамагло-б утварэньню большага адзінства ў рабоце. Такі мэтод кіраўніцтва работаю габінэтаў існуе ў РСФСР.

Акрамя гэтага не мяшала-б склікаць пры АПО ЦК нараду заг. акруговых габінэтаў. Усе гэтыя пытаньні насьпеўшыя і патрабуюць сур'ёзнага абгаварэньня.

Я. Шкадарэвіч

# Нарада—школа рабселькора

Адной з форм мэтодычнага кіраўніцтва і выхаваньня рабселькора зьяўляюцца раённыя нарады.

„Беларуская Вёска" першая ўступіла на гэты мэтодычны шлях організацыі і выхаваньня рабселькора і разам з Райкомамі КП(б)Б пачала склікаць раённыя нарады рабселькораў.

За студзень па 15 красавіка г. г. ужо праведзены нарады рабселькораў у наступных раёнах: Койданаўскім, Сьмілавіцкім, Чэрвенскім, Пухавіцкім, Смалявіцкім, Самахвалавіцкім, Заслаўскім, Астрашыцка-Гарадзецкім раёнах, Менскай акругі, у Сьвіслацкім, 1-м Бабруйскім, Жлоб нскім раёнах, Бабруйскае акругі і ў Капыльскім, Слуцкае акругі.

У тых раёнах, дзе партыйныя організацыі праявілі максымум увагі да склікаемай нарады, шырока і своечасова паведамілі рабселькораў, нарада была шматлікаваю, рабселькоры праявілі належную актыўнасьць і зацікаўленасьць да пытаньняў парадку дню, да іх абгаварэньня. За 20-30 вёрст прыходзілі селькоры на нараду, каб агульнымі сіламі вырашыць пытаньні парадку дню і пачуць адказы на ўсе тыя запытаньні, якія непакояць рабселькора ў штодзённым яго жыцьці.

На нарадах прысутнічала ад 25 да 70 рабселькораў, ня лічачы „гасьцей". Па соцыяльнаму складу значная колькасьць беднякоў, па партыйнасьці пераважна комсамольцы, па стану—98 проц. мужчын: па ўзросту моладзь да 17 да 23 гадоў, але былі і барадатыя дзядзькі—селькоры.

Характэрна, што селькоры пажылых гадоў пры абгаварэньні чарговых задач партыі на вёсцы і задач селькора, добра разумелі гэтыя задачы і зусім правільна выказваліся аб сваіх задачах.

Так, напрыклад, на нарадзе Пухавіцкага раёну, стары селькор-культурнік Карнейчык, якому ўжо каля 60 гадоў, зазначае: ...„калі я толькі браўся за палепшаньне свае гаспадаркі, разводзіў культурныя травы ды караньплоды, слухаў агрономаў, іх нарады, слухаў нашую комуністычную партыю ды Савецкую ўладу, калі яны раілі палепшыць сваю гаспадарку, дык нада мною сьмяяліся нашыя сяляне; а калі я палепшыў сваю гаспадарку і сяляне ўбачылі карысьць ад культурнай апрацоўкі зямлі, тады і самі пачалі рабіць так, як і я.

Нам, як селькорам, трэба павесьці працу так, каб усё працоўнае сялянства імкнулася культурна весьці сваю гаспадарку.

На Сьмілавіцкай нарадзе селькоры завастрылі ўвагу на перавыбары сельсаветаў і ўдзел у іх рабселькора.

— Надыходзяць перавыбары сельсаветаў. Нам, як селькорам, патрэбна дапамагчы партыі правесьці гэтыя перавыбары так, каб у саветы не папаў кулак, самагоншчык, злодзей.

Селькор не павінен баяцца выказаць праўду на выбарчым сходзе, каб гэтым самым папярэдзіць выбары ў сельсавет непажаданых асоб.

Пры абгаварэньні дакладу—чарговыя задачы партыі на вёсцы, а ён амаль што ставіўся на ўсіх нарадах,—рабселькоры крыўдзіліся і ў рэзолюцыях адзначалі, што з боку партыйнай арганізацыі, ячэек КП(б)Б яшчэ няма належнага кіраўніцтва рабселькорамі ў іх штодзённым жыцьці.

— Нашымі насьценнымі газэтамі ніхто ня кіруе, насьценныя газэты не атрымоўваюць належнага кіраўніцтва ні з боку партыйнай арганізацыі, ні рэдакцыі друкаваных газэт.

Таксама няма належнага кіраўніцтва і селькораўскімі гурткамі, няма належнай рабселькораўскай літаратуры на беларускай мове.— Селькоры з поўнаю яснасьцю выносілі рэзолюцыі, ды завострывалі сваю ўвагу на організацыі селькораў у гурткі селькораў, на ўцягненьні ў рабселькораўскія шэрагі як мага болей пажылых сялян, на ўцягненьне жанчын, ды батракоў. Вынікі гэтых пастаноў нарад ужо маюцца. Так да студзеня месяца „Беларуская Вёска“ зарэгістравала толькі 3 селькораўскія гурткі, а цяпер ужо налічваецца каля 50, якія яднаюць звыш 600 селькораў ды прыхільнікаў газэт.

Селькоры ведаюць, што кіраўніцтва комуністычнай партыі ёсьць галоўная і абавязковая ўмова для разьвіцьця рабселькораўскага руху (з пастановы 3-яй усесаюзнай нарады рабселькораў па дакладу тав. Бухарына), што „толькі пры ўмове партыйнага, г. зн. правільнага пролетарскага кіраўніцтва, могуць быць ажыцьцяўлены задачы рабселькораўскага руху“. Вось чаму ўва ўсіх выступленьнях селькораў чырвонаю ніткаю праходзіла думка, што рабселькор павінен наладзіць самую цесную сувязь з партыйнымі організацыямі. Некаторыя з селькораў Сьвіслацкай нарады, Бабруйшчына нават прапанавалі, каб гурткі селькораў“ у мэтах непасрэднага партыйнага кіраўніцтва організоўваліся пры партыйных ячэйках, а не пры насьценных газэтах“. Вядома, што гэтая пропазыцыя супярэчыць асноўным прынцыпам пабудовы рабселькораўскага руху і яна не знашла свайго падтрыманьня з боку селькораў нарады.

Адсутнасьць да гэтага часу плянавай сыстэматычнай працы сярод рабселькораў, адсутнасьць популярызацыі пастаноў 3-яй Усесаюзнай нарады рабселькораў адбіліся на выступленьнях і пропазыцыях рабселькораў.

Так селькоры Койданаўскай і Чэрвенскай нарады ставілі пытаньне і ўносілі прапанову аб утварэньні раённага бюро рабселькораў, „якое-б кіравала працаю рабселькораў раёну, давала дырэктывы ў працы рабселькораўскіх гурткоў, сачыла за пастаноўкаю насьценнай газэты склікала нарады і інш.“

На Пухавіцкай нарадзе выявілася, што селькоры організаваныя ў гурток селькораў утварылі нібы каставую організацыю, замкнуліся ў самых сябе, праводзяць зачыненыя сходы (в. Дрычына).

### Недахопы партыйнага кіраўніцтва

„Кіраўніцтва насьценнымі газэтамі, ды гурткамі рабселькораў павінна ажыцьцяўляцца праз комуністых, якія працуюць у рабселькораўскіх шэрагах“.

„Партыйныя ячэйкі павінны рабіць уплыў на конструіраваньне рэдколегіі не шляхам назначэньня, а шляхам ідэёвага ўплыву накіраванага на ўцягненьне ў гэтую працу найбольш актыўных, політычна вытрыманых і аўторытэтных у рабселькораўскім асяродзьдзі таварышоў“ (з

пастановы ЦК УсеКП(б) ад 27 жніўня 1926 году). Здавалася-б, што гэта ясна, што гэта аксіома. Аднак, не. Маюцца прыклады, калі партыйныя ячэйкі, замест таго, каб кіраваць, выпраўляць хібы, ды дапамагаць рэдколегіі насьценнай газэты ў яе працы, рабілі нажы на рэдколегію.

Так, селькоры Сьмілавіцкага раёну скардзіліся, што комсамольская ячэйка ў м. Дукоры контралявала корэспондэнцыі насьценнай газэты ды рабіла нажым, а на Самахвалавіцкай нарадзе селькоры расказвалі такі прыклад „кіраўніцтва“ з боку партыйнай Дудзіцкай ячэйкі.

Мы выпусьцілі насьценную газэту, у якой зьмясьцілі допіс аб дрэнных адносінах партыйца-ізбача да працы і насельніцтва. Допіс быў правільны на ўсе 100 проц. На другі дзень рэдколегія атрымоўвае ад сакратара ячэйкі КП(б)Б пісьмо: „прашу прысладь копію допісу і прозьвішча аўтара яго“. Рэдколегія адмовілася выдаць аўтара, патрабавала апраўяржэньне. Тады сакратар заяўляе: „вы падарвалі партыйнае кіраўніцтва“.

Магчыма, што корэспондэнцыю ня трэба было зьмяшчаць у насьценнай газэце. Магчыма рэдколегія памылілася, нетактычна паступіла. Можа патрэбна было допіс пераслаць на разгляд у парт'ячэйку, ці Райкомпарт. Магчыма, што яна (рэдколегія), косвенно, і „падарвала адзінства“, але партыйная ячэйка, якая не кіравала працаю насьценнай газэты сама гэтае адзінства парушыла, з-за нядбайных адносін стварыла такія ўмовы.

Нарады выявілі, што ў шырокіх партыйных колах патрэбна популярызаваць прынцыпы і мэтоды партыйнага кіраўніцтва рабселькорамі.

Селькоры скардзіліся, што дрэнна вядзецца расьсьледваньне, доўга і бываюць выпадкі, што выкрываецца селькор.

— Напішаш корэспондэнцыю, якая патрабуе тэрміновага расьсьледваньня, а на яе ніхто не адказвае, і атрымоўваецца тое, што сяляне кажуць: „Вось, напісаў і не памагло“ (Сьвіслачы).

У вынесеных рэзолюцыях зазначаецца, што як партыйныя, так і савецкія організацыі, асабліва прокуратура павінна сваечасова рэагаваць на допісы селькораў, і на тое, каб ня выкрываўся аўтар допісу.

Даклад рэдакцыі „Беларускай Вёскі“ праходзіў пры надзвычайна вялікай зацікаўленнасьці абгаварэньня з боку рабселькораў, і асабліва ў тых раёнах, дзе нарада адбывалася першы раз. Мінімум паўсотні запытаньняў рознага зьместу і характару, 10—25 чалавек запісваецца ў спрэчкі,—вось актыўнасьць з боку рабселькораў. Характэрна, што селькоры Чэрвенскай і Капыльскай нарады патрабавалі, каб рэдакцыі замест гонорару выпісвалі рабселькораўскую літаратуру.

Характэрна таксама і тое, што рабселькоры патрабавалі ад рэдакцый друкаваных газэт зьвярнуць больш увагі на высьвятленьне рэжыму экономіі на вёсцы, на бюрократызм і цеганіну, на большае высьвятленьне жыцьця рабочых, фабрык ды заводаў.

— Нам цікава ведаць ня толькі жыцьцё сялян, а і жыцьцё, працу рабочага. „Беларуская Вёска“ павінна падумаць аб яшчэ большым замацаваньні сувязі паміж рабочымі і сялянамі, паміж горадам і вёскаю.

Некаторыя з селькораў Койданаўскай, Капыльскай нарады даходзілі нават да таго, што абураліся на вядомых пісьменьнікаў, маладнякоўцаў, „што вось іхнія творы друкуюцца, а нашыя—не“.

— Няхай ведае рэдакцыя і нашыя поэты, што і мы вясковыя хлопцы можам тварыць, што мы мо' яшчэ лепш напішам за іх.

— Мы ня гонімся за ганорарам, але хочам каб нашыя творы ня гінулі. Мы хочам, каб рэдакцыі выхоўвалі нас, давалі парады, як і аб чым пісаць, давалі адказы на нязьмешчаныя допісы.—Каб мае вершы былі падпісаны Якубам Коласам ці Янкам Купалам, дык яны-б напэўне былі-б надрукованы ў „Чырвоным Сейбіце“ (Капыль).

Што дае нарада рабселькору і вынікі яе аб гэтым пішуць самі селькоры.

— Нарада селькораў Сьмілавіцкага раёну адбылася 9 студзеня. Ужо маюцца вынікі яе. У вёсках: Карзуны, Старане, Матарове, Пярэжыры організаваліся селькораўскія гурткі, значна палепшыліся насьценныя газэты.

Раённая нарада шмат чаго ўнесла ў штодзённае жыцьцё селькора. Некаторыя селькоры нават ня ведалі, што прокуратура можа за іх уступіцца, калі селькору пагражаюць забойствам—так піша селькор Гарбуз, і заканчвае сваё пісьмо словамі: пажадана каб такія нарады склікаліся часьцей.

Нарада—школа для селькора. На гэтых нарадах рабселькор атрымоўвае належныя адказы на цікавячыя яго пытаньні. Нарады выяўляюць недахопы ў працы рабселькораў раёну і намячаюць практычныя мерапрыемствы для зьнішчэньня іх: у ўмовах Беларусі, калі мы яшчэ ня маем моцных рабселькораўскіх аддзелаў пры рэдакцыях газэт „Б. В“ —1 чал., „Савецкая Беларусь“—1 чал., „Звезда“—2 чал, яны (нарады) адыгрываюць выключнае і вялікае значэньне ў справе, як організацыйнай так і вучэбна-выхаўваўчай рабселькора.

З. Маневіч

# Пытаньні ваенізацыі ў нашым друку

Да канца 1926 году вайсковая пропаганда не займала належнага месца ў нашым партыйна-савецкім пэрыодычным друку,—матар'ялы па пытаньню абароны краіны і ваенізацыя насельніцтва ў газэтах і журналах зьмяшчаліся вельмі рэдка.

Пасьля студзенскай пастановы ЦК КП(б)Б аб вайсковай пропагандзе і кіруючага артыкулу па гэтаму пытаньню тав. Шыфрэса [1]) (начальніка Аддзелу Друку Пур'а) у нашых газэтах і журналах за апошнія месяцы маем пэўнае зрушэньне ў бок рэгулярнасьці вядзеньня аддзелаў і частковага паляпшэньня якасьці іх зьместу.

Адзначаючы некаторае палепшаньня якаснага зьместу вайсковых аддзелаў усё-ж такі да гэтага часу, ня гледзячы на ўпаўне яскравыя дырэктывы партыйных органаў, вайсковая пропаганда мае цэлы шэраг недахопаў.

Буйным недахопам у вайсковай пропагандзе—трэба лічыць адсутнасьць у некаторых з нашых газэт здавальняючай політычнай чуласьлі для сваечасовага завостраньня тых, альбо іншых пытаньняў вайсковай падрыхтоўкі насельніцтва ў сувязі з вайсковай пагрозай. Асабліва гэта рэзка выявілася з пачатку абвастрэньня вайсковай небясьпекай, калі пасьля прамовы тав. Бухарына і Варашылава на 15-ай маскоўскай партконфэрэнцыі і прамовы тав. Рыкава на Ўсесаюзным зьезьдзе Авіахіму, толькі невялікая частка газэт практычна падышла к пытаньню і паднялі кампанію за ўзмацненьня вайсковай працы.

Пасьля прамовы тав. Сталіна аб аслабленьні пагрозы вайны, некаторыя газэты яе надрукавалі пад загалоўкам „Вайны ня будзе“, пры гэтым альбо зусім без тлумачэньня, альбо з такім тлумачэньнем і перакручваньнем, што зусім прытупілі ўвагу насельніцтва к вайсковым пытаньням.

Асноўным момантам ва ўсіх відах вайсковай пропаганды павінна быць не прытупленьне ўвагі насельніцтва к пытаньням абароны па тэй прычыне, што „можа быць заўтра ня будзе вайны“, а наадварот, вайсковая пропаганда павінна быць накіравана на ўзмацненьне ўвагі працоўных к пытаньням неабходнасьці пагалоўнай ваенізацыі, каб умець уладаць аружжам і быць гатовым у любую хвіліну стаць на абарону СССР. Бо па сутнасьці апаснасьць нападзеньня на СССР, як на адзіную пролетарскую дзяржаву, ня выключана да таго часу, пакуль мы знаходзімся ў капіталістычным абкружэньні.

У напраўленьні і ўтрыманьні вайсковых аддзелаў маюцца яшчэ таксама наступныя недахопы:

**Папершае**—ня зусім правільна зразумета сама ўстаноўка вайсковых аддзелаў у грамадзкім друку,—яшчэ некаторыя газэты паранейшаму зьмяшчаюць вузка-армейскі матар'ял за лік матар'ялаў па ваенізацыі грамадзянскага насельніцтва.

---

[1]) Журнал „Красная печать“ № 2. 1927 г.

У гэта пытаньне неабходна ўнесьці поўную яскравасьць, што асноўная задача вайсковых аддзелаў замыкаецца не ў высьвятленьні жыцьця Чырвонай арміі, а галоўным чынам у мабілізацыі грамадзкай думкі працоўных к абароне краіны і высьвятленьня практычных мерапрыемств па ваенізацыі і вайсковай падрыхтоўцы.

**Падругое**,—малавата ўвагі канкрэтным пытаньням ваенізацыі. Можна ўпэўнена сказаць, што вайсковай падрыхтоўкай цікавяцца шырокія колы рабочых і сялян, асабліва моладзь, аб гэтым сьведчыць вялікі рост гурткоў вайсковых ведаў, стралковых, авіяхім-каманд і інш. Ці адказвае наш друк усім гэтым здаровым імкненьням і запытаньням па вывучэньню вайсковай справы?

З гэтай задачай наш друк пакуль што ня справіўся: у вайсковых аддзелах яшчэ ў большасьці выпадкаў пакуль што даюцца агульныя стацьці і разважаньні „аб задачах абароны краіны", „аб задачах т-ва авіяхіму", каторыя ніякім чынам ня змогуць разьвязаць гэта практычнае пытаньне, як вайсковая падрыхтоўка працоўных. Акрамя таго, гэтыя агульныя стацьці часам мэханічна перадрукоўваюцца з Прэс-Бюро альбо бюлетэня Пур'а без усялякай перапрацоўкі і прыстасаваныя к бягучым задачам і мясцовым умовам працы. Чарговая задача пэрыодычнага друку—сыстэматычна падтрымоўваць і ўзмацняць увагу працоўных к штодзённым практычным мерапрыемствам вайсковай падрыхтоўкі, памагаць разгортаваць масавую самадзейнасьць у гуртках вайсковых ведаў, стралковага спорту, ліквідацыя пачатковай хэмічнай няграматнасьці, як абходзіцца з процівагазам і г. д., гэтак сама дапамагаць Чырвонай арміі ва ўсіх мерапрыемствах, прываблівае ў друку грамадзянскую думку к чарговым кампаніям па дапрызыўнай падрыхтоўцы, тэрзбор, укомплектаваньня вайсковых школ і г. д.

**Патрэцяе**,—слабае прыцягваньне рабселькораў і ваенкораў к высьвятленьню стану вайсковай працы на мясцох. Амаль ва ўсіх вайсковых аддзелах можна рэдка знайсьці рабкораўскі допіс, адбіваючы той альбо іншы недахоп вайсковай працы. Нашы газэты павінны павесьці сыстэматычную работу з рабселькорамі і ваенкорамі, інструктаваць іх, і на аснаваньні жывога рабселькораўскага матар'ялу выяўляць недахопы і тормазы ваенізацыі на прадпрыемствах, клюбах і ячэйках Осоавіяхіму пастаяннае грамадзкае вока друку, вядома, мае вялікае значэньне ў пасьпешнасьці далейшай працы па вайсковай падрыхтоўцы.

**Чацьвертае**,—слабая сувязь рэдакцый газэт з політорганамі Чырвонай арміі. У правільнай пастаноўцы вайсковай пропаганды політорганы могуць шмат дапамагчы пуцём пастаяннага консульціраваньня альбо вылучэньня спэцыяльных кваліфікаваных таварышоў для вядзеньня вайсковых аддзелаў.

Акрамя таго, політорганы павінны своечасова разам з рэдакцыямі газэт дакладна падрыхтоўваць чарговыя кампаніі, як увальненьне, прызыў, тэрзборы, дапрызыўная падрыхтоўка і г. д. І пры наліччы ўвагі політорганаў к вайсковай пропагандзе можна будзе ўхіліцца выпадкаў разглашэньня вайсковага сэкрэту і зьмяшчэньня ў друку політычнага і фактычнага няпраўдзівага матар'ялу па вайсковых пытаньнях.

**Пятае**,—рэдакцыі газэт маюць вельмі слабую сувязь з кіруючымі органамі Осоавіяхіму.

**Шостае**,—да гэтага часу зусім ня вывучана пытаньне аб стане вайсковых аддзелаў у грамадзянскіх насьценных газэтах. Неабходна ў далейшым наладзіць у друкаваных газэтах высьвятленьне гэтага пытаньня і пэрыодычна наладжваць выстаўкі грамадзянскіх насьценных газэт сумесна са ўсімі газэтамі Чырвонай арміі.

# ПА МЯСЦОХ

Н. Конюхаў

## Праца сярод вясковай беднаты

*(Бабруйская акруга)*

Акругком падсумаваў ітогі і праверыў вопыт працы сярод беднаты з пункту погляду праверкі выкананьня пастаноў партыі.

Распрацованая програма па данаму пытаньню, ставіла сабе тры задачы: папершае—устанаўленьне сапраўднага ўплыву на беднату, аказваемай ёй экономічнай дапамогі з боку грамадзкіх і дзяржаўных організацый; падругое— у якой меры сума організацыйных мерапрыемстваў павышае актыўнасьць беднаты і батрацтва і садзейнічае вырашчваньню актыву з іх і патрэцяе—якасьць правадзімай працы.

Падсумаваны матэрыял, у працы акруговых організацый — праверка яго практыкай месц, праверка работы нізавых ячэек, заслухоўваньне ў акругкоме агульных дакладаў Райкомаў і спэцыяльна працу сярод беднаты (1-шы Бабруйскі) дае аб працы беднаты наступныя вынікі:

### У справе гаспадарчай дапамогі беднаце

Організацыйна-палітычная праца мысьліма тады, калі побач з гэтым разгортваецца гаспадарчая дапамога, калі мерапрыемствы, накірованыя да ўзьняцьця самадзейнасьці шырокіх мас беднаты і сераднякоў. Аб правядзеньні працы, па гаспадарчай дапамозе беднаце ва ўмовах акругі за 1926 г. будзе гаварыць наступная сводка:

| Віды дапамогі | Сума ў рублёх | Колькасьць ахопленых гаспадар. | Разьмер дапамогі | Астача нявыкарыстаных сродкаў |
|---|---|---|---|---|
| Ільготы па земляўпарадкаваньню. | 7 650 | 999 | — | — |
| Ільготы па сельска-гаспад. падатку . . . . . | 67.265 | 22.318 | — | — |
| Ільготы па Дзяржстраху . . | 39.588 | 8.000 | — | — |
| Спэцыяльны крэдыт беднаце . | 40.000 | — | — | — |
| Фонд коопэраваньня беднаты . | 23.692 | 6.000 | — | 16 994 |
| Адпушч. насеньня беднаце ў крэдыт . . . | — | — | 64.000 пуд. | — |
| Працоўн. дапамога з боку КС Узаемадапам. . . . | — | 522 | 4 300 (тры дні) | — |
| Агульны крэдыт . . . | 52.774 | 1.265 | — | бяз коняй |
| Землянадзяленьне і данадзяленьне . . . . | — | 3 109 | 15.629 гэктар. | — |

Да гэтых даных неабходна дадаць і такія віды дапамогі, якія ня ўлічаны па акрузе, як-та: бясплатнае і ільготнае задаваленьне лесаматарыялам беднаты (11.895 дрэў—І Бабруйскі р,—3500 куб. футаў будаўнічага і драўнянага матэрыялу адпушчана інспэктарам лясоў). Прыцягненьне беднаты к лесараспрацоўкам (атрымана беднатой зарплаты па Любаніцкаму і Казуліцкаму с/с—17.500 руб.), дапамога з боку СК Узаемадапамогі, дзейнічаючымі ў іх распараджэньні 4 цагельнямі, 25 млынамі-вятракамі, з адной сеялкай, 6 майстэрнямі, 9 малатарнямі, 7 веялкамі, 4 адсартыроўкамі, 58 саломарэзкамі і 56-цю дробнымі сельскагаспадарчымі прыладамі. Таксама аказваецца дапамога з боку сав. гаспадарак і ў выглядзе сартаваньня насеньня, абмену на культурнае насеньне, вытворчасьць злучак і т. п.

Які-ж уплыў аказвае гаспадарчая дапамога на групу бедняцкіх гаспадарак?

Зразумела, гэта трэба разглядваць як ітогі мінулых год, а праца апошняга году, як плюс к праведзенаму. Але ўсё-ж прывадзімыя ніжэй даныя па акрузе кідаюць сьвет на ўзрух у групе бедняцкіх гаспадарак:

| ГОДЫ | Колькасьць гаспадарэк | Па колькасьці коняй | | | | Па колькасьці кароў | | | | | Па інвэнтарнасьці | | | Па пасеву | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Без каня | З 1 канём | З 2 канямі | З 3-ма конямі | Без каровы | З 1-й каровай | З 2-ма каровамі | З 3-ма каровамі | З 4-мя каровамі | Бяз інвэнтара | Бяз плугоў | Бяз плугоў і сахі | З пасевам | Без пасеву |
| 1925 г. | 79.508 | 15,7 | 66,7 | 16,9 | 1,5 | 4,4 | 48,4 | 36,0 | 8,5 | 2,3 | 11,0 | 16,4 | 15,5 | 98,3 | 1,7 |
| 1926 г. | 80.745 | 14,0 | 66,8 | 17,9 | 1,3 | 4,3 | 41,8 | 38,0 | 11,4 | 3,3 | 9,3 | 12,5 | 12,8 | 98,6 | 1,4 |

Калі ўзяць Глускі раён—самы тыпавы, як сялянскі і вялікі ў акрузе, таксама і тут находзім узрух у групе бедняцкіх гаспадарак.

У 1925 г. гаспадарак па раёну было—9630, бясконных з іх—1706.

У 1926 г. гаспадарак па раёну стала — 9752, бясконных з іх—1391.

У Каткоўскім с/с у 25 г. бедняцкіх гаспадарак (па пасеву, хатняй жывёлы і рабочай сіле) было—255, ці 38,6 %, у 1926 г. стала—209 бедняцкіх гаспадарак, ці 31,2 %.

Значыцца, работа па гаспадарчай дапамозе беднаце і відзе землеўпарадкаваньня, землянадзяленьня, данадзяленьня крэдытаваньня і т. п. мерапрыемстваў у масе бедняцкіх гаспадарак атрымоўваюць пэўны ўзрух у бок, паляпшэньня. Прычыны гэтых зьменаў іменна трэба разглядаць у правадзімых мерапрыемствах у стасунку да беднаты.

Важна ўлічыць яшчэ адзін варунак—ролю нізавой ячэйкі с/с—у абароне інтарэсаў незаможных пластоў вёскі. Аб гэтым прасачым на настуных фактах:

1. Разьмеркаваньне ільготнага лесу – Ляскавіцкі с/с ў 25 г. бедната —55 % серадннякі—45%.

2. Разьмеркаваньне ільготнага лесу — Лясковіцк. с/с у 26 г. бедната 48 %, серадннякі—52 %.

3. Разьмеркаваньне ільготнага лесу—Жэлвенецкі с/с у 27 г. бедната 58 %, серадннякі—42 %.

4. Разьмеркаваньне ільготнага лесу — Загальскім с/с у 27 г. бедната 68 %, серадннякі 32 %.

Разьмяркована ільготнага лесу бясплатна—Загальскім с/с у 27 г. бедната 100 %.

6. Разьмеркаваньне сенажаці—Жэлвенскі с/с у 26 г. беднаце—72 %, сераднякам—28 %.

7. Разьмеркаваньне сенажаці—Піравіскім с/с у 26 г. беднякам—67 %, сераднякам—33 %.

Можна прывесьці яшчэ шэраг фактаў станоўчага характару ў працы с/с, але дастаткова і гэтага. У мясцох, дзе парт'ячэйка забясьпечыла партыйны ўплыў, сваё правільнае кіраўніцтва, дзе ў с/с прадстаўлена бедната і актыўная, там мы знойдзем такую лінію работы. Такую лінію ў працы нізавой ячэйкі трэба праводзіць усюды цераз фракцыі РВК, сачыць за правільнасьцю яе правядзеньня.

Як дасягненьне трэба прызнаць пашырэньне коопэрацыйнага фонду ў выніку праведзенай кампаніі па перавыбарам спажывецкай і сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Так, па спажывецкай коопэрацыі нізавая сетка адлічвае ў фонд коопэраваньня беднаты да раней маючыхся сродкаў—6.666 руб., а сельска-гаспадарч. коопэрацыя ўпяршыню адлічвае—3.500 руб.

Такая сума гаспадарчай дапамогі па відам, аказаная беднаце за 1926 г.

Аналіз праведзенай працы па гэтай лініі выяўляе наступныя буйныя недахопы:

1) Дужа невыстарчальныя мерапрыемствы парт'ячеек, крэдытных таварыстваў, коопэрацыі, СКУзаемадапамогі—выкліку самадзейнасьці мас беднаты і сераднякоў. У 1926 г. у акрузе быў выкарыстан доўгатэрміновы крэдыт у 30.000 руб. на крэдытаваньне машын. Прадстаўлялася бязумоўная магчымасьць яго накіраваць у большай частцы па шляху колектыўнага крэдытаваньня ў выглядзе організацыі машынных таварыстваў. Але ў рэчавістасьці выйшла тое, што крэдыт пашоў адзіналічнікам, вядомая справа, бедняку набыць буйныя машыны амаль няпрыступна, а толькі магчыма колектыву. Заданьне, якое падлягае вучоту.

Гэткае самае становішча і па лініі СКУзаемадамогі—якія павінны ў справе організацыі машынных таварыстваў, аказаць усё магчымае садзейнічаньне. Ці шляхам вылучэньня са сваіх прылад, ці шляхам атрыманьня ў крэдыт машын—для пачатковага існаваньня машынных таварыстваў, а ўжо пасьля разьвіваць далей самадзейнасьць беднаты. У гэтай частцы таксама нічога ня было зроблена. Па акрузе ўсяго маецца 6 машынных таварыстваў.

2) Ня рэдкія выпадкі, калі крэдыт доўга-тэрміновага значэньня ператвараецца ў кароткатэрміновы. Як прыклад—Глускае крэдытнае таварыства перавяло 8.326 руб. у кароткатэрміновыя крэдыты, тым самым пазбавіла беднату атрыманьня доўгатэрміновага крэдыту, тады, як аб гэтым, на ўсіх бадай сходах беднаты былі скаргі на кароткатэрміновасьць крэдыту, пропуску тэрмінаў па ўзятым ужо пазыкам і г. д.

3) Слабое ўцягненьне беднаты ў арцелі і таварыствы. У сельскагаспадарчай коопэрацыі (спэцыяльныя віды) беднатой робіцца пазычка 14%, серадняскамі—72%, саматужнікамі—13% і заможнымі—1%. Садова-гародных таварыстваў амаль няма. А ў 1-м Бабруйскім раёне няма ніводнага таварыства, тады як побач з гэтым, маецца 10 прыватных садова-гародных кампаній.

4) Несваечасовае выкарыстаньне, пры шырокай папярэдняй працы, пры выкліку на самадзейнасьць,—фонду па коопэраваньню беднаты (астача каля 17.000 руб.). Ёсьць выпадкі, калі бедні адмаўляюцца ад атрыманьня коопэрацыйных кніжак пры коопэраваньню з фонду.

Ня ведалі адкуль такое „шчасьце". Сюды мімаволі пранікلі элемэнты „сабезаўшчыны".

5) Надта слабы падлік вазьдзеяньняў на групу бедняцкіх гаспадарак, аказваемай дапамогі. Улічваць агульныя ўзрухі цяпер ужо недастаткова, трэба каб ячэйка, СКУзаемадапамогі, с/с. коопэрацыя наглядалі як рэальна, пад іхназіраньнем узмацняецца бедняк.

## У справе організацыйна-політычнай працы сярод беднаты

Падсумаваньне тут таксама рабілася з пачатку прымяненьня організацыйных форм працы сярод беднаты. Пачатак адносіцца к сьнежню м-цу 1925 г.

Ва ўмовах акругі праверана вопытам тры організацыйныя формы: 1) сходы беднаты, 2) сходы беднякоў упаўнаважаных—СКУзаемадапамогі, коопэрацыі, 3) групы беднаты.

**Сходы беднаты:** Трэба сказаць, што найбольш распаўсюджаная форма працы з беднатой у практыцы партыйных ячэек зьяўляюцца сходы беднаты. Аб гэтым будзе гаварыць наступная сводка:

| У зьвязку з чым праводзіліся сходы беднаты | Годы | Колькасьць сходаў |
|---|---|---|
| 1. Перавыбарная кампанія сельсаветаў | 1925/26 г. | 132 |
| 2. Вучот аб'ектаў абкладаньня | 1926 г. | 37 |
| 3. Перавыбары спажыв. і сельска-гаспадарчай коопэрацыі | 1926 г. | 78 |
| 4. Мясцовыя пытаньні жыцьця вёскі | 1926 г. | 37 |
| 5. Перавыбары сельсаветаў | 1927 г. | 291 |

Адсюль відна, што практыка іх прымяненьня супадае з ударнымі кампаніямі. Парт'ячэйкі кампаніі праваджіць навучыліся і навучыліся ня дрэнна. Але вось правядзеньне сходаў беднаты ў пэрыод—бягучых, бытавых, гаспадарчых мясцовых пытаньняў—у жыцьці вёскі, іх прымяненьне ў працы ячэек надта слабое. Папярэдні вывад застаецца ў моцы, што праца з беднатой у дзейнасьці партячэек не зьяўляецца іх штодзённай складанай часткай.

Як можна ўгледзець са сводкі, сходы беднаты праводзяцца ад кампаніі да кампаніі і працяг часу паміж імі зьяўляецца даволі значным. Некаторыя беднякі скардзяцца на гэта гаворачы: „што мы вам патрэбны тады, калі трэба праводзіць тую ці іншую кампанію" (Буда-Кашалёва,—Кастрышча). Заўвагі менавіта адказваюць на тое, што перарывы паміж кампаніямі ў працы ячэек застаюцца пустымі.

Чырвонаю істужкай праходзяць цераз усе вывады, матэрыялы з месцаў аб тым, што актыўнасьць беднаты значна ўзрасла. Яўка на сходы беднаты, на выбарчыя сходы, выступленьні на іх, адстайваньне сваіх кандыдатур і правал організована кулацкіх кандыдатур—вось характэрыстыка паводзін беднаты сумесна з серадняком. У гэтым, разумеецца, адыгралі рашучую ролю сходы беднаты. Хто-ж прысутнічаў на сходах беднаты?—бедната—73,5% і сераднякі—26,7%. Рэдкае выключэньне, калі выстаўленая кандыдатура ад ячэйкі і беднаты правальваецца і толькі, дзякуючы таму, што парт'ячэйкі ў гэтых выпадках недастаткова разгарнулі організацыйную працу.

Серадняк актыўна падтрымліваў высоўваемыя кандыдатуры і ахвотна наведваў, прымаў удзел у сходах беднаты. Сьвіслацкі РК паведаміў, што ячэйкі, цераз сходы беднаты, абгаварылі 119 кандыдатур у с/с, а правялі—106.

Тыя агульныя недахопы, якія мелі месца ў мінулым, пры скліканьні і правядзеньні сходаў беднаты цяпер зьнішчаны, але належыць адзначыць маючыя месца такія недахопы:

1) Слабое наведваньне батрацтвам, моладзьдзю і жанчынамі сходаў беднаты.

2) Адкрытыя сходы беднаты ад імя СКУзаемадапамогі, ці правядзеньне (адзін выпадак) сходаў беднаты комсамольскай ячэйкай.

3) Правядзеньне сходаў беднаты (хоць адзін выпадак) самым актывам з беднякоў, бяз удзелу прадстаўнікоў ячэйкі.

**Сходы беднякоў упаўнаважаных.** Гэты вопыт праведзен у 1-м Бабруйскім раёне—Райкомам партыі. Райком да гэтага пытаньня падыйшоў з прычыны таго, што пры Праўленьні коопэрацыі немагчыма было організаваць групы беднаты. У зьвязку з перавыбарамі коопэрацыі—было склікана 4 сходкі беднякоў—упаўнаважаных спажывецкай коопэрацыі перад тым, як зьбіраліся ўсе ўпаўнаважаныя. На гэтых сходах беднякоў-упаўнаважаных абгаварвалі: аб складзе будучага Праўленьня, аб разьмеркаваньні прыбыткаў, аб фондзе па коопэраваньню беднаты, аб зьніжэньні цэн. Усе гэтыя пытаньні на агульным сходзе ўпаўнаважаных спажыв. таварystваў былі праведзены добра. Прычыны такога становішча—пасьпяховага правядзеньня намечаных мерапрыемстваў, заключаецца ў тым, што Райком папярэдні організаваў і падрыхтаваў беднякоў-упаўнаважаных і расклаў правядзеньне гэтых мерапрыемстваў упаўнаважаных з масы серадняўкоў. Гэты мэтод трэба ўвесьці і ў тых выпадках, калі ў коопэрацыі ці ў СКУзаемадапамогі маюцца групы беднаты і асабліва шырока распаўсюджыць тады, калі няма адпаведных умоў у коопэрацыі і СКУзаемадапамогі для організацыі груп.

Да перавыбараў с/с групы былі організованы толькі ў некалькіх раёнах і толькі пры с/с. У сучасны момант організацыйна аформлены ў наступных раёнах:

| Назвы раёнаў | Колькасьць сельсаветаў | Колькасьць сельячэек | Колькі груп да перавыбараў | Колькі організована к сучасн. моманту |
|---|---|---|---|---|
| 1-й Бабруйскі | 14 | 6 | 4 | 4 |
| 2-й Бабруйскі | 13 | 6 | — | 4 |
| Рагачэўскі | 15 | 5 | — | 6 |
| Жлобінскі | 14 | 4 | 2 | 4 |
| Б-Кашалёўскі | 12 | 4 | — | 6 |
| Гарадзецкі | 7 | 4 | — | 4 |
| Глускі | 20 | 8 | — | — |
| Клічэўскі | 13 | 5 | — | 5 |
| Стрэшынскі | 8 | 4 | — | 8 |
| Асіпавіцкі | 8 | 5 | — | — |
| Сьвіслацкі | 9 | 3 | — | 4 |
| Парыцкі | 15 | 8 | — | 4 |

Пры чым яшчэ організована 4 групы пры Праўленьнях коопэрацыі і 6 пры СКУзаемадапамогі. Як-жа працавалі групы беднаты пры с/с старога складу? Прасачым аб гэтым па 4-х групах 1-га Бабруйскага раёну.

Групы былі організованы ў жніўні м-цы 1926 г.—тры, пад непасрэдным кіраўніцтвам Райкому, адна пад кіраўніцтвам парт'ячэйкі. Пры абсьледваньні працы аказваецца,—што групы беднаты, знаходзячыяся пад

кіраўніцтвам непасрэдна Райкому, толькі організацыйна аформіліся, мелі па аднаму пасяджэньню. Зусім іншае ў групе беднаты, кіруемай на месцы парт'ячэйкай—Любанічы. Гэтая група мела 5 пасяджэньняў і вырашыла наступныя пытаньні: 1) аб малочнай арцелі; 2) аб урачу; 3) аб вучоце захаваных аб'ектаў аблажэньня; 4) выяўленьне захаваных ад ваеннага вучоту коняй і павозак; 5) перавыбары с./с. і 6) коопэраваньне беднаты. У Стрэшынскім раёне—групы беднаты ўжо новага складу пасьпелі распрацаваць і цераз с./с. правесьці наступныя пытаньні: 1) Разьмеркаваньне лесу сярод насяленьня; 2) аб ахове лясоў мясцовага значэньня і 3) ачыстка насеньня к вясеньняй пасяўной кампаніі.

Усе гэтыя пытаньні, прапрацованыя групай беднаты былі перанесены на пасяджэньні прэзыдыуму с./с. Калі ўжо с./с. прыняў прапановы групы і сам прыступіў да іх ажыцьцяўленьня. Усе пытаньні праведзены ў жыцьцё з атрыманьнем рэальных вынікаў.

На пасяджэньнях групы беднаты, апрача яе сталых удзельнікаў, прысутнічалі 2 актыўных бедням—упаўнаважаных СКУзаемадапамогі і адна работніца-дэлегатка. Пасяджэньні груп праводзіліся адкрыта.

Хто-ж уваходзіў у групу беднаты? З 23-х членаў с./с. у групу ўваходзіла 11 членаў с./с., з іх 7 беднакоў і 4 комуністыя (з іх 2 кандыдаты).

Партыйныя ячэйкі, а таксама і Райкомы з організацыяй груп шмат марудзяць. Зразумела, што тут цяжкасьці шмат большыя, чым пры правядзеньні (па прастаце) сходаў беднаты. З невялікага вопыту працы груп беднаты адзначаюцца наступныя недахопы:

1) Райкомы бралі на сябе кіраўніцтва групамі, і не ўдзялялі належнае ўвагі, ды і не маглі, гэтым самым групы беднаты губілі сваё назначэньне і намаўлялі некаторым аб немачымасьці іх практычнай працы. Як правіла трэба прызнаць, каб групы беднаты організоўваліся на месцы, дзе маюцца партыйныя ячэйкі.

2) Вырашалі на групах беднаты пытаньні, якія папярэдні не адтрымалі належнай прапрацоўкі ў партыйнай ячэйцы і лініі ў даным пытаньні вылучанаму, для кіраўніцтва групай, партыйцу.

3) Слабое прыцягненьне на пасяджэньні груп беднаты актыўных серадгнякоў.

4) Перагіб палкі (адзін выпадак) актыўным бедняком з групы беднаты пры правядзеньні ў жыцьцё пастаноў с/с па прапанове групы беднаты. У выніку, утварыліся абвостраныя да яго адносіны з боку серадгнякоў данага с/с.

5) Яшчэ да гэтага часу організаваныя групы не правялі сталай прапрацоўкі ніводнага пытаньня, толькі організацыйна афармляліся. Гэта сьведчыць аб тым, што парт'ячэйкі і Райкомы марудзяць з разгортваньнем організацыйнай працы.

Усе гэтыя віды гаспадарчай і організацыйнай працы сярод беднаты бязумоўна садзейнічаюць вырашчваньню актыву з беднаты. Прасачым гэта на наступных даных:

**Бедната ў сельсаветах**

| | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| Глускі раён: | 288 член. с/с | 293 член. |
| З іх: рабочых— | 7 „ „ „ | 10 „ |
| батракоў— | 4 „ „ „ | 3 „ |
| служачых— | 8 „ „ „ | 9 „ |
| настаўнікаў— | 3 „ „ „ | 1 „ |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| іншых— 7 „ | „ | „ | — 7 „ | |
| Беднякоў— 97—33,7% | | „ | —126- 39,6% | |
| Серадьнякоў—162—56,3% | | „ | —167—50% | |

Каткоўскі с/с—камісіі пры с/с—усяго членаў камісій—151, з іх беднякоў—58, серадьнякоў—93, якія разьмяркоўваюцца:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Зямельная—44,— | беднякоў—17, | серадьнякоў—17. | |
| 2) Налогавая—57,— | беднякоў—16, | „ | —41 |
| 3) Культурная 22,— | „ —12 | „ | —10 |
| 4) Коопэрацыйная 28, | „ —13, | „ | —15 |

Усе гэтыя даныя паказваюць рост актыву па лініі с/с, а таксама яго камісій. Недахоп працы з актывам, галоўным чынам, заключаецца ў тым, што ён слаба прыцягваецца на адкрытыя сходы парт'ячеек, у практычную працу с/с., СКУзаемадапамогі, коопэрацыі—у відзе дачы асобных даручэньняў, інструктаваньня іх.

Вось тыя дасягненьні і недахопы ў працы сярод беднаты.

А. С.

# Заўвагі аб працы груп беднаты[1])

Калі ў працы сярод беднаты, наогул гаворачы, ёсьць значныя дасягненьні і такая форма працы з ёй, як правядзеньне сходак беднаты, у значнай частцы вясковымі парт'ячэйкамі ўясьнена, уясьнены за некаторымі рэдкімі выключэньнямі організацыйныя моманты ў гэтым пытаньні—то далёка ня так абстаіць у дачыненьні да другога віду палітычнай працы з беднатой—гэта груп беднаты.

Зусім зразумела, што шэраг практычных момантаў у організацыйным пабудаваньні груп і іх працы патрабуюць стараннага вывучэньня, але гэта ні ў якім разе не выключае тэй абставіны, што па шэрагу пытаньняў працы і організацыйнага пабудаваньня груп беднаты ёсьць дастаткова ясныя ўказаньні ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

Тым ня менш у практыцы працы вясковых парт'ячэек і нават асобных РК у гэтым пытаньні назіраецца некаторае неразуменьне як у сэнсе організацыйнага пабудаваньня груп, так і іх ролі (практычных форм і мэтодаў іх працы).

Маючыяся матэрыялы прынамсі з вачавіднасьцю ўстанаўляюць, што асноўным недахопам гэтай працы зьяўляецца тое, што ў шэрагу організацый няма выстарчальна рашучых, настойлівых мерапрыемстваў к стварэньню груп беднаты—гэта з аднаго боку, а з другога—колькаснае захапленьне ў пытаньні організацыі груп за кошт вывучэньня і паляпшэньня якасьці іх працы. Калі ў першым выпадку існуе „пасыўная“ надзея атрымаць хоць-бы некаторы вопыт іншых організацый у гэтай справе, то ў другім—некалькі павярхоўны падыход да гэтага пытаньня, без дастатковага падліку конкрэтных умоў працы груп і мэтазгоднасьці іх організацыі. Абедзьве праявы асабіста ўплываюць адмоўна на разгортваньне работы груп.

Калі-ж закрануць пытаньне ўясьненьня парт'ячэйкамі і асобнымі партыйцамі ролі груп беднаты ў агульнай сыстэме працы з беднатой і іх організуючага вазьдзеяньня на працу тых організацый, пры якіх яны існуюць, то асобныя недахопы гэтай працы могуць пры пэўных абставінах прывесьці к організацыйна-палітычным памылкам у гэтай працы. Дастаткова паказаць на такі момант, як выступленьне аднаго сакратара вясковай парт'ячэйкі, які па дакладу кіраўніка групы беднаты гаворыць: „У нас яшчэ да гэтага часу ня зусім зразумелі працу сярод беднаты. Неабходна каб працу сярод беднаты вялі групы беднаты, як прэзыдыумы яе“. Што ў гэтым пытаньні існуе няяснасьць, якую неабходна расьсеяць, у гэтым няма ніякага сумненьня. Але тут закранута больш істотнае пытаньне, маючае прынцыповае значэньне ў працы з беднатой—гэта пытаньне аб ролі груп беднаты. Пасьлядоўна разважаючы

[1]) Друкуецца ў парадку абгаварэньня.

так выйдзе, што ў выніку „групы беднаты, як прэзыдыумы яе“ павінны няўхільна кіраваць работай сярод беднаты і ў выніку, адхіляючы непасрэднае кіраўніцтва парт‘ячэек гэтай працай, стануць абасобленымі „організацыямі беднаты“, стануць самадаўлеючымі органамі, якія будуць падмяняць функцыі савецкіх і грамадзкіх організацый, пры якіх яны організованы, а гэта проста і непасрэдна цягне к „камбедам“, даўно адхіленых партыяй.

Што гэта можа быць так, сьведчаць яшчэ такія факты, калі парт‘ячэйкі, даючы ўказаньні кіраўніком груп беднаты „пераглядзець сьпіс організаванай арцелі беднаты і сьпіс праўленьня арцелі“ прыдаюць, натуральна, гэтай групе (цераз яе кіраўніка) пэўную кіруючую ролю ў дачыненьні да складу арцелі і праўленьня яе, зьмяншаючы сваю ролю, як парт‘ячэек у адносінах гэтых організацый. Больш таго, у гэтым-жа ўказаньні проста даручаецца кіраўніку групы „ўзяць рашучую лінію на організацыю сапраўднай арцелі беднаты“, не прыцягваючы да практычнага ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў сельсавет, СКУзаемадапамогі і г. д.

Усе гэтыя моманты об‘ектыўна маюць тэндэнцыю надаць групам беднаты характар самастойных кіруючых організацый з усімі выходзячымі адсюль правамі і абавязкамі, якія могуць урэшце, бязумоўна, падмяніць функцыі савецкіх і грамадзкіх організацый.

Неабходна гэтай тэндэнцыі працівапаставіць аснаўную лінію ў працы груп, якая зводзіцца к таму, каб групы папярэдні па шэрагу прынцыповых пытаньняў, вырашаемых у савецкіх і грамадзкіх організацыях, пры якіх групы існуюць, *сплачвалі адзіны погляд беднякоў і батракоў членаў гэтых організацый для організованага адстойваньня неабходных к правядзеньню па лініі сельсавету, СКУзаемадапамогі, коопэрацыі, мерапрыемстваў, якія абараняюць інтарэсы бедняка. Пры гэтым шляхам вучоту інтарэсаў серадняка неабходна забясьпечыць яго падтрыманьне пры правядзеньні гэтых мерапрыемстваў, сплачваючы, такім чынам, бедняка і серадняка супроць лініі заможнага і кулака.* У гэтым аснаўная задача груп беднаты, а дзеля гэтага неабходна будаваць гэтую працу ні ў якім разе ня выходзячы пры вырашэньні гэтай задачы з таго, каб надаваць групе беднаты форму пэўнай організацыі з Прэзыдыумам на чале, вядзеньні пратаколаў, зацьвярджэньні груп на сходах беднаты і г. д.—Як гэта мае месца ў практыцы работ груп.

Другім, ня менш важным пытаньнем зьяўляецца організацыйная нячоткасьць у пабудаваньні груп беднаты, гэта зн. іх складу. Матэрыялы, якія маюцца характэрызуюць, што ў шэрагу месц у групы беднаты ўключаюць вясковую інтэлігенцыю, сераднякоў,—ня членаў організацыі, пры якой група існуе і наадварот, ня ўключаюць беднякоў, ня гледзячы на тое, што зьяўляюцца членамі гэтых організацый. У стасунку апошніх адзіным мотывам служыць тое, што мол, „беднякі не актыўныя і ня могуць абараняць у групе інтарэсаў беднаты“ і што „ў групы мы ўключаем толькі актыў“. Ня трэба даказваць наколькі такі пункт погляду зьяўляюцца ня сталым, а толькі ня шкодзіць яшчэ раз сьцьвердзіць другую асаблівасьць у працы сярод беднаты, у прыватнасьці груп, гэта сталую задачу парторганізацый праз гэтую форму масавай працы *ўзьнімаць актыўнасьць беднаты,* умацоўваючы саюз бедняка з серадняком і вызваляць такім чынам іх (бедняка і серадняка) з пад уплыву заможных і кулакоў. Па пытаньню-ж складу груп належыць толькі саслацца на пастанову оргбюро ЦК УсеКП(б), у якім гаворыцца: „Групы беднаты могуць ствараццa пры саветах,

праўленьнях коопэрацыі і СКУзаедапамогі з складу іх членаў—беднякоў, батракоў"... (газэта „Правда" ад 24-VI—26 г. № 142).

Урэшце яшчэ некалькі слоў аб кіраўніках груп. Адзначаны выпадкі, калі парт'ячэйкі недастаткова ўлічваюць некаторыя асаблівасьці ў вылучэньні кіраўнікоў груп, якія заключаюцца ў тым, што вылучаюцца таварышы, якія зьяўляюцца кіраўнікамі тэй ці іншай гаспадарчай адзінкі, пры якой, прыкладна, організована працоўная арцель з беднякоў. Зусім зразумела, што гэты таварыш перад групай і арцельлю беднаты выступае „адзін у двух асобах"—то як кіраўнік групы беднаты, то як гаспадарсьцьвенік. Апошняе ў шэрагу выпадкаў стварае становішча для таварышоў, об'ектыўна ўтвараючае шэраг супярэчнасьцяй у яго працы сярод беднаты, якія ў сваю чаргу, адмоўна дзейнічаюць на настроі апошняй.

Усе гэтыя моманты паглыбляюцца тым, што вышэй стаячыя організацыі (Райкомы) недастаткова рэагуюць на іх, надастаткова інструктуюць і правяраюць працу парт'ячэек у гэтым нагэтулькі новым у той час старым пытаньні.

У выніку ўсяго гэтага неабходна больш рашуча прыступіць к організацыі груп беднаты, выкарыстоўваючы іх організуючы ўплыў для ўмацаваньня кіруючай ролі парт'ячэек у працы савецкіх і грамадзкіх організацый сельсавету. Прыступаючы к організацыі груп заўсёды трэба мець на ўвазе вывучэньне пастаноўкі і якасьць іх работы;—лепш організаваць 1-2 групы ў Сельсавеце, з тым, каб яны працавалі, чым організаваць 3—5 груп, існуючых толькі на паперы.

Яшчэ раз і асабліва ўважліва неабходна нізавым парторганізацыям прапрацаваць пастановы ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньню організацыі груп беднаты і іх ролі з тым, каб рашуча не дапускаць якіх небудзь організацыйных скажэньняў у гэтым пытаньні. Там, дзе дапушчаны памылкі ў дачыненьні складу груп беднаты пастарацца іх пераглядзець адпаведна маючымся дырэктывам, стала праверяючы і інструктуючы ў гэтай справе парт'ячэйкі.

Неабходна нізавым парторганізацыям больш шырока паставіць пытаньне аб высьвятленьні ў друку практыкі працы груп беднаты, што будзе дапамагаць накапленьню практычнага вопыту гэтай працы, своечасова выпраўляючы падмечаныя недахопы.

Абмяжоўваючыся пакуль гэтымі заўвагамі, чыста організацыйнага парадку, маецца на ўвазе высьветліць некалькі момантаў аб практычных формах і мэтодах працы груп беднаты, маючы на ўвазе выказаць некаторыя думкі па гэтаму пытаньню ў наступны раз.

Б. Васільлеў

# Да працы з беднатой

*(Мозырская акруга)*

Паўтарагадовая праца з беднатой па акрузе, перш за ўсё, значна дапамагала правільнаму ўсваеньню ўсёй парторганізацыяй прахо-дзячай дыфэрэнцыяцыі вёскі. Няма ўжо заяў аб тым, што „ў нашай акрузе кулакоў зусім мала і ўплыву на вёску яны ня маюць" ці „што праца з беднатой, у зьвязку з тым, што не яскрава выражана дыфэрэнцыяцыя вёскі, можа прывесьці як раз да адрыву серадняцтва ад беднаты".

З усіх Райкомаў паступаюць лісты аб тым, што клясавае рассластаваньне ў вёсцы выяўляецца ўсё больш яскрава з узмацненьнем нашай працы з беднатой.

Калі да пачатку нашае працы з беднатой асноўная цяжкасьць гэтай працы ўскладалася цалкам на Райкомы партыі, то ўжо ў сучасны момант асноўную работу праводзяць самі парт'ячэйкі.

Усяму гэтаму ў значнай меры садзейнічалі мерапрыемствы Акругкому, выразіўшыяся ў 2-х кратным абсьледваньні працы з беднатой членамі Бюро і інструктарамі Акругкому, пастаноўка два разы пытаньняў аб працы з беднатой Райкомпартаў. Пастановы Пленумаў АК насілі ў большай частцы характар практычных указаньняў у рабоце, на падставе вучоту вопыту.

У частцы ўсваеньня пастаноў парт'ячэйкамі к сучаснаму моманцу маецца значнае зрушэньне. Пастановы ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б і Пленумаў Акругкомаў прапрацоўваюцца ячэйкамі і, як вынік, Рэмезоўская сельпарт'ячэйка, Каралінскага раёну, маючы на ўвазе вопыт сваёй работы, ужо зрабіла попыт скласьці нешта накшталт палажэньня аб працы груп беднаты.

Слаба абстаіць яшчэ справа з плянавасьцю працы з беднатой у большай частцы ячэек, бо ў плянах іх прац пытаньне аб рабоце з беднатой невыстарчаюча практычна распрацоўваецца.

Ёсьць выпадкі ў сельпарт'ячэйках недаацэнкі рассластаваньня вёскі. Быў, напрыклад, такі выпадак, калі ячэйка адводзіць намечанага з сьпіску ў склад Сельсавету комуністага-серадняка толькі таму, што ён, як селянін серадняк, можа мець „не пролетарскі ўхіл у працы".

Ці ў Капаткевіцкім раёне ў шэрагу вёсак з вялікай цяжкасьцю ўдаецца аднавіць бедняцка-серадняцкі блёк, таму што на першых сходах беднаты прысутнічаўшым серадняком не давалі права голасу.

### Сходы беднаты

За час з сьнежня 1925 г. па кастрычнік 1926 г. было праведзена па акрузе 398 сходаў беднаты, з іх 238 пры перавыбарах сельсаветаў, а з кастрычніка 1926 г. па сакавік 1927 г. (па яшчэ ня поўным даным)—505 сходаў, з іх пры перавыбарах сельсаветаў—348.

Ахоп насяленьня ў пэрыод 1925-1926 г. г. у лічбах такі—23.980 чал. (беднякоў і батракоў 60,6 проц. і серадняков—35,2 проц.), а ў

апошні час (кастрычнік—сакавік) ахоп узрос да 29.795 чал. (з іх беднякоў і батракоў—69,5 проц. і серадднякоў—30,5 проц.).

Трэба заўважыць, што кулацтва, за рэдкімі адзінкамі, на бедняцкія сходы ня йдзе. У той час і якасьць, саміх сходак таксама паступова павышаецца. Калі на першых сходах беднаты ставіліся на абгаварэньне пытаньні ў большай частцы палітычна-кампанейскага характару, то ў апошні час пытаньні гаспадарчыя, пытаньні штодзённых сялянскіх запатрабаваньняў пачынаюць заваёўваць сваё месца. Так па зьвесткам 4-х Райкомаў з агульнага ліку разгледжаных на апошніх сходах пытаньняў — 34 проц прыпадае на пытаньні гаспадарча-бытавыя.

У выніку пастаноўкі практычных гаспадарча-бытавых пытаньняў узьнялася здаровая ініцыятыва беднаты ў справе паляпшэньня розных вясковых організацый і паляпшэньня эканомічнага становішча вёскі.

Вось некалькі прыкладаў: па ініцыятыве беднаты ў Каралінскім раёне было організавана машыннае таварыства, якое налічвала больш 100 супольнікаў; у Мухаедаўскім сельсавеце, Нараўлянскага раёну бедната на сваім сходзе пастанавіла організаваць пракатны пункт; вёска Засінцы, Каралінскага райну па ініцыятыве бедняцкага сходу Селькомдапамогі купляе сячкарню; у вёсцы Рэмізы, Каралінскага раёну, сход беднаты выносіць пастанову: „прасіць РК пабудаваць мост, лес мы вывезем самі і дапаможам у працы па яго пабудаваньню“.

На сходах беднаты ў пэрыод паміж перавыбарамі сельсаветаў абгаварваліся пытаньні аб коопэраваньні беднаты, аб лясох, аб пасяўной кампаніі, земляўпарадкаваньні беднаты і г. д.: у практычным разрэзе выходзячы з мясцовых умоў і магчымасьцяй. Гэтыя сходы садзейнічалі організацыі ініцыятывы беднаты навакол конкрэтных гаспадарчых задач.

Сходы склікаюцца цераз актывістых сялян-батракоў, працуючых у групах беднаты, цераз комсамольцаў і шляхам спэцыяльных апавяшчэньняў і т. п. Гэты мэтод поўнасьцю сябе апраўдвае і не ператварае сходы беднаты ў агульныя сходы сялян.

Калі ў мінулым годзе ўдзел батрацтва і жанчын на сходах быў не выстарчальным, то ўжо ў сучасны момант удзел батракоў выражаецца ў 16% (да агульнага ліку ўдзельнікаў) і жанчын 15,2%. Трэба ўсё-ж адзначыць невыстарчальнае выкарыстаньне на мясцох Саюзу прац. Землесу для большага ўцягненьня батрацтва ва ўсю грамадзка-масавую працу на вёсцы.

Асабліва яскрава выявілася актыўнасьць беднаты пры апошніх перавыбарах Сельсаветаў. Гэтаму галоўным чынам дапамагала правядзеньне сходаў беднаты к моманту перавыбараў, на якіх абмяркоўваліся пытаньні працы Саветаў і намячаліся кандыдатуры ў Сельсавет (сходаў такіх праведзена—348).

Вось некалькі характэрных прыкладаў:

*З Каралінскага раёну нам пішуць*—„Бедната на выбарах у сельсавет групуецца каля прэзыдыуму, не даючы заможным магчымасьці ўносіць перабоі ў працу сходаў“, ці: „Больш актыўныя беднякі рассаджваюцца па ўсяму памяшканьню з мэтай перашкаджаць заможным „перацягваць“ падчас перавыбараў паасобных беднякоў на свой бок“.

*З Калінкавіцкага раёну*—„У вёсцы Касьцякова ў Сельсавет папалі кулакі. Бедната падала заяву і перавыбары былі скасаваны, пасьля кулакі ў Сельсавет не прашлі“.

*З Азарыцкага раёну*—„Наглядаліся моманты гострай барацьбы паміж беднатой і кулацтвам. У вёсцы Лесец, дзе большасьцю галасоў прайшоў заможны селянін, бедната і частка серадднякоў дэмонстрацый-

на выйшлі з сходу, цераз 10-15 хвілін, зьвярнуўшыся, настаялі на перагаласаваньні і ў выніку заможнага правалілі“.

Усе гэтыя прыклады дастаткова яскрава малююць рост актыўнасьці і арганізованасьці бёднаты.

Такім чынам якасьць працы нашай з беднатой ў частцы арганізацыі сходаў значна павысілася.

Ці ўсё намі робіцца для таго, каб правільна выкарыстаць гэтую актыўнасьць? У гэтых адносінах яшчэ шмат прарэх і памылак.

У шмат якіх сельскіх парт‘ячэйках невыстарчальна ўлічваюцца і праводзяцца ўсе здаровыя, цалкам мэтазгодныя і ажыцьцявімыя пастановы бядняцкіх сходаў, гэта ў некаторых месцох вядзе да таго, што сходы беднаты наведваюцца мала (у Капаткевіцкім раёне, на шмат якіх сходах беднаты прысутнічае 20 чал.).

Невыстарчальная сыстэматычнасьць працы з беднатой, калі абмяжоўваюцца толькі сходамі беднаты пад час агульна-сялянскіх кампаній, прыводзіць да таго, што бедната падпадае пад уплыў кулакоў.

Паступова пачынае разгортвацца праца груп беднаты.

## Групы беднаты:

Груп беднаты па акрузе на сакавік месяц арганізавана 53, з іх пры сельскіх саветах—37, пры Камітэтах Узаемадапамогі—8 і пры каапэрацыйных арганізацыях—8.

Калі падлічыць, што ў акрузе 46 сельскіх ячэек, то можна лічыць сетку груп беднаты пакуль дастатковай.

Пры праверцы працы з беднатой Акругкомам былі выяўлены і „групы на паперы“, гэта зн. у зьвестках было паказана аб арганізацыі 16 груп сапраўды-ж пачалі працаваць 12 груп, а 4 „прадпалагалася арганізаваць“.

У адзнаку ад сходаў—групы беднаты з самага пачатку сваёй працы больш займаюцца пытаньнямі гаспадарча-бытавымі. З разгледжаных на групах пытаньняў—42,3% прыпадае на гаспадарча-бытавыя і толькі 7,7% на палітычныя, астатнія пытаньні кампанійскага характару.

Гэта ў значным стопні садзейнічала заінтарасованасьці беднаты працай груп. Групы за гэты час пасьпелі займацца, галоўным чынам, пытаньнямі разьмеркаваньня крэдыту, водпускам лесу, разгледжаньнем плянаў прац сельсаветаў, пытаньнямі магчыма большага коопэраваньня беднаты і г. д.

Характэрна, што на пасяджэньнях груп беднаты вельмі чула адносяцца к запытаньням серадняка, у той-жа час садзейнічаюць правільнаму, па клясаваму прызнаку, разьмеркаваньню разнаітых ільгот.

Так, напрыклад, у в. Скароднае пры разгляджэньні, каму даць у першую чаргу крэдыт лесам, беднякі адкравенна ўскрывалі ўсіх „скрытых“ кулакоў.

Сходы груп праводзяцца цераз спэцыяльныя апавяшчэньні кожнага, хто павінен уваходзіць у групу.

Трэба адзначыць, што прысутнасьць на групах у большасьці беднякоў і толькі актыўных сераднікоў значна падымае актыўнасьць першых.

Пакуль праца груп яшчэ поўнасьцю не разгарнулася, што тлумачыцца некаторым незразуменьнем сельячэйкамі формаў працы груп. Аднак, цяпер ужо можна сказаць, што ўваходзячыя ў групы беднякі—гэта той бядняцкі актыў, цераз які нашы сельячэйкі будуць мець магчымасьць лепш зьвязацца з бядняцкім пластом вёскі. Гэты актыў, праўда, яшчэ не вялікі (у 53 групах арганізована каля 300 чал.), пры

пашырэньні сеткі груп беднаты, пры правільным уцягненьні гэтага бедняцкага актыву ва ўсю грамадзкую працу на вёсцы, гэта будзе дастаткова сур'ёзны фундамант для разгортваньня работы партыі на вёсцы.

## Кулак і праца з беднатой

Натуральна, што адкрыта праводзіўшаяся праца з беднатой, накіраваная к палітычнай ізоляцыі кулацтва, сустрэла з боку апошняга даволі організованы адпор.

З усіх раёнаў адзначаюць, што кулак значна зьмяніў мэтоды сваёй працы на вёсцы.

Работа кулацтва ідзе пад сьцягам „шырокай дэмократыі". Кулакі ў большасьці адмаўляюцца ад „мэтодаў камандваньня". Значна менш стала выпадкаў выступленьня кулака з абвінавачваньнем, што „беднякі гэта гультаі". Кулакі выступаюць з крытыкай савецкай улады па мотывам, што ўлада „мало клапоціцца аб беднаце".

Пры перавыбарах у Сельсаветы, у шмат якіх пунктах, кулакі пад крыкі „тут усе за беднату"—высоўваюць кандыдатуры беднякоў, па тым ці іншым прычынам, находзячыхся пад уплывам кулакоў.

На перавыбары Сельсаветаў кулакі прыходзілі з падрыхтованымі сьпісамі ў склад сельсаветаў, прапрацованымі на особных „сходках кулакоў". Найбольш актыўныя з багатыроў (кулакоў) разьязджалі па асобным вёскам для вярбоўкі сабе прыхільнікаў.

Амаль усюды попыты кулакоў сустракалі дружны адпор бедняцка-серадняцкіх груп вёскі. Аднак, у некаторых мясцох, дзе сельпартячэйкамі былі зроблены некаторыя памылкі, кулаком удаецца перацягнуць на свой бок серадняка і тым самым стаць на чале вёскі.

Напрыклад, у вёсцы Новасёлкі, дзе на сходцы беднаты серадн<br>які, прышоўшыя на гэтую сходку, былі лішаны галасоў, сумелі стаць на чале ўсёй вёскі і пры правядзеньні сходкі пайшчыкаў коопэратыву правалілі прапанову аб вылучэньні сродкаў на коопэраваньне беднаты

У вёсцы Слаўнь, дзе праца з беднатой праводзілася надзвычайна слаба і дзе моцная праслойка кулакоў, парт'ячэйка ні сумела організаваць беднату навокал конкрэтных практычных лёзунгаў і кулакі сумелі ўзяць пад сваё кіраўніцтва большасьць вёскі. Аднак, такія выпадкі ўсё-ж рэдкія. Такім чынам, у выніку ўсваеньня парторганізацыяй асноўных пастаноў партыі аб працы з беднатой удалося дабіцца ў большасьці ўмацаваньня бедняцка-серадняцкага блёку і бязумоўна ізоляцыі кулакоў.

## Экономічная дапамога беднаце

За апошні час некалькі пачала наладжвацца экономічная дапамога беднаце. Самым важным дасягненьнем у гэтай галіне трэба лічыць, што ў працы большасьці організацый на вёсцы справа экономічнай дапамогі большасьці організацый на вёсцы пачынае ўваходзіць у сыстэму іх працы. Вышэй ужо было паказана, што як парт'ячэйкі, так і сама бедната ў гэтай справе некалькі рухнуліся ўперад.

У акрузе, апрача шэрагу прадстаўленых дэкрэтаваных ільгот беднаце (па сельгасп. падатку, па дзяржстрахаваньню і т. п.) была організована дапамога па лініі Каміт. С-Узаемадапамогі (працоўн. гуждапамога, лесаматэрыял і т. п.), земорганаў (у 1926 г. данадзелена зямлёй 1579 гаспадарак, на 1927 г. намечана данадзяліць зямлёй 2666 гаспадарак; за 1926 г. адпушчана лесу бясплатна на 48908 руб. і ў крэдыт на 10345 руб, у 1927 г. намечана бясплатна адпусьціць лесу

на 15.000 руб і ў крэдыт на 40.000 руб.). Асабліва належыць вылучыць дапамогу беднаце, выкаростыўваемую, як прыладу колектывізацыі: так, па лініі СКУДапамогі было організована ў 1926 г. розных арцелей—21 і ў пачатку 1926-27 г.—15. Організована машынных таварыстваў з пераважаючым лікам бедняцкіх гаспадарак (цераз вылучэньне спэцыяльн. фонду)—3251. На 1 студзеня 1927 г. фонд па коопэраваньню беднаты складаў 15.510 р.

Усе гэтыя мерапрыемствы ў значным стопні садзейнічалі росту аўторытэту партыі і ўлады сярод беднаты і бязумоўна адыгралі вялікую значную ролю ў справе ўзьняцьця актыўнасьці яе.

Аднак, ва ўсёй працы па экономічнай дапамозе беднаце ёсьць шэраг значных недахопаў, якія былі адзначаны ў пастановах Бюро і Пленумах Акругкому. Галоўныя недахопы—гэта: невыстарчальная плянавасьць ва ўсёй гэтай працы, недостатковая популярызацыя ўсіх ільгот і наогул аказваемай дапамогі сярод самой беднаты. Ёсьць яшчэ моманты, калі, напрыклад, коопэраваньне беднаты праходзіць габінэтным парадкам, навокал гэтага пытаньня вельмі недастаткова сконцэнтрована грамадзкая думка.

Ёсьць выпадкі нявытрыманай клясавай лініі ў галіне крэдытаваньня. Напрыклад, у *Азарыцкім раёне* ў 1925/26 г. у агульным ліку гаспадарак, атрымаўшых крэдыт, бедняцкія гаспадаркі займаюць 34,8%, а ў 1926/27 г. (першы квартал) 28,7% пры зьніжэньні і сумы крэдыта (у 1925/26 г. на бедняцкія гаспадаркі з агульнай сумы крэдыту прыходзілася—34%, а ў 1926/27 г. 30,3%). *У Лельчыцкім раёне* па гаспадаркам у 1925/26 г.—27,2%, 1926/27 г.—32,8%, у той-жа час па суме зьніжэньне з 32,2% да 28,5 проц.

Як галоўнейшы недахоп трэба адзначыць ня вучот політычна-экономічных эфэктаў, атрымоўваемых у выніку аказанай дапамогі беднаце. Гэтай хваробай хварэюць як парт'ячэйкі РК, так і ўсе органы, па лініі якіх накіроўваецца дапамога.

Наогул-жа трэба адзначыць, што і ў частцы экономічнай дапамогі беднаце мы рушыліся ўперад, паступова аўладзеваючы і гэтай галінай працы для набліжэньня беднаты к партыі і для ўзьняцьця яе (беднаты) актыўнасьці.

Нашы далейшыя посьпехі ў працы ў значнай ступені залежаць ад таго, наколькі парт'ячэйкі змогуць правільна выкарыстаць ужо маючыйся вопыт ва ўсёй нашай працы з беднатой.

---

Г. Шпэктараў

# Заметкі нізавога партработніка

## Удзел партыйных ячэек у гаспадарчым будаўніцтве

У кіраўніцтве гаспадарчым жыцьцём прадпрыемства парт'ячэйкі маюць дзьве процілегласьці:

1) Адсутнасьць патрэбнага практычнага ўдзелу ў жыцьці прадпрыемства. Няведаньне спосабаў і форм гэтага ўдзелу. Большасьць ячэек абмяжоўваюцца ў пляне пунктам: „Заслухаць даклад гаспадарчага працаўніка", і толькі. Даклад заслухоўваецца адзін раз у паўгода, аб ўсім адразу. Гавораць аб усім. Прымаюць агульную—аб усім адразу рэзолюцыю.

2) Ёсьць выпадкі захапленьня дробязямі. Дзёргаюць хазяйсьцьвеньніка-комуністага па некалькі разоў у тыдзень на бюро і сходы ячэйкі. Даходзяць да прапаноў аб прыёме і звальненьні рабочых, нават аб перастаноўцы рабочых па цэхам і г. д.

Такія факты прыводзяць да абвастрэньня ўзаемаадносін.

Гэтыя, уласьцівыя многім ячэйкам, факты могуць быць зьнішчаны толькі тады, калі ўстанавіць конкрэтныя формы ўдзелу ў гасп. рабоце ячэйкі на прадпрыемствах. Праз свае ячэйкі партыя ажыцьцяўляе сваё кіраўніцтва, праз ячэйкі комуністыя прымаюць удзел у нашым соцыялістычным будаўніцтве. У нашу пару, у пару цяжкой гаспадарчай абстаноўкі, ня можна адрабляцца адзін раз у поўгода агульным дакладам хазяйсьцьвеньніка-комуністага, прыняцьцем цягучай, вялікай рэзолюцыі і г. д.

Патрэбна практычная дапамога, дзелавая, штодзённая. Практыка нашай работы пацьцьвердзіла неабходнасьць у адзначаных мэтах рэгулярнага абгаварваньня ў парт. ячэйках, прымерна наступнага кола пытаньняў:

1) Гадавая вытворчая програма і гадавы балянс.
2) Кварт. вытворчыя пляны.
3) Вынікі правядзеньня рэжыму экономіі.
4) Праізвадзіцельнасьць працы і якасьць выработкі.
5) Сыр'ё і апал.
6) Амортызацыя і абарудаваньне.
7) Сабекошт, абароты, збыт.
8) Норміраваньне працы і зарплата.

Вырашэньне кожнага пытаньня будзе мець сваю карысьць пры ўмовах своечасовай пастаноўкі. Ставячы перад сабой, напрыклад, раз у 2-3 м-цы, адзін з конкрэтных пытаньняў сав. гасп. работы, мы яго здолеем лепш падрыхтаваць. Рашэньне па аднаму невялікаму пытаньню, ня можа быць расплывучатым. Практыка асобных ячэек доказвае вялікую конкрэтнасьць, прымаемых у такіх выпадках пастаноў.

Гэта ня выключае мажлівасьцяй заслухоўваць агульныя даклады па гэтаму пытаньню, але гэта неабходна ня больш 2-х разоў у год. Бязумоўна і тут ёсьць свае недахопы, але ўсё-ж падобная форма работы крыху больш набліжае нашы нізавыя ячэйкі да конкрэтнага, дзелавога ўдзелу ў гаспадарчай рабоце.

А. Эн

# Пастухі з стадам, але бяз поля[1])

Партыя дамагаецца, каб кожная партыйная організацыя на мясцох (ячэйка, Райком) была сапраўдным кіраўнікам палітычнага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва раёну сваёй дзейнасьці. Аднача-сова партыя імкнецца да ўпарадкаваньня і палепшаньня працы партыйных організацый, прадстаўляючы ім у штодзённай працы большай ініцыятывы.

Аднак, калі прыглядзецца да працы, дык мы пабачым шмат недахопаў і організацыйнай неўпарадкаванасьці.

Прыкладам такой організацыйнай неўпарадкаванасьці зьяўляецца існаваньне ў некаторых гарадох (Віцебск, Гомель, Менск) некалькіх гарадзкіх райкомаў.

Для прыкладу бяру Віцебскую гарадзкую організацыю, якая мне больш знаёма. Думаю, што становішча іншых райкомаў, там дзе яны існуюць, мала адрозьніваецца ад нашых.

Віцебская гарадзкая організацыя на 2 раёны. (Я выключаю 3-ці Пролетарска-Слабодзкі раён, каторы абслугоўвае фактычна толькі 1 прадпрыемства, лёгка можа быць рэорганізаваны проста ў фабрычны колектыў). Раёны організаваны па тэрыторыяльнай адзнацы і павінны абслугоўваць прадпрыемствы і ўстановы, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі. Яны абслугоўваюць сваю партыйную організацыю. Але разгарнуць сталай працы яны ня могуць. Што гэта так, прывяду некалькі фактаў і прыкладаў. Як вядома, вясковы райком абслугоўвае і накіроўвае працу Раённага Выканаўчага Камітэту. Кіраваць-жа працай Гарсавету, гэтай тыпічнай гарадзкой організацыяй ніводзін з гарадзкіх райкомаў ня можа, бо нельга-ж даваць дырэктывы з двух розных месц. І ў рэшце працай гарсавету цераз яго фракцыю, накіроўвае Акругком ЦРК спэцыфічна гарадзкая організацыя, Комунальны трэст таксама, але становішча з працай райкомаў у іх такое-ж як і з Гарсаветам. Такім чынам кіраўніцтва гаспадарчымі і савецкімі ўстановамі адпадае. Школамі гораду па той-жа прычыне райкомы ня могуць заняцца. Застаецца, такім чынам, кіраўніцтва толькі сваёй організацыяй, але й тут шмат недарэчнасьцяй. Напрыклад, політадукацыя гарадзкой організацыі замест кіраўніцтва райкомамі, накіроўваецца Акругкомам, бо проста нямэтазгодна склікаць ну хаця-бы нарады загадчыкаў політшкол, бо іх 2-3 у раёне і такія нарады склікае Акругком. Распрацоўка плянаў розных сьвят і кампаніяў, паскольку патрабуе абслугоўваньня ўсяго гораду, робіцца таксама Акругкомам. Нарэшце хаця-б абслугоўваньне дакладчыкамі рабочых гораду таксама ня можа быць праведзена Райкомамі, бо напрыклад, большасьць кваліфікаваных прапагандыстых у Віцебску знаходзяцца ў першым раёне, а „спэцы“ па-

[1]) У парадку абгаварэньня.

ложым, па коопэрацыі ў другім. Раёны самі рэдка змогуць дагаварыцца паміж сабою і пуцёўкі пішуцца ў АПА Акругкому. Такіх прыкладаў можна было-б прывесьці шмат, але і з прыведзеных ясна, што райкомы не зьяўляюцца кіраўнікамі гаспадарчым і культурным будаўніцтвам гораду, гэтай справай прымушаны займацца Акругком, што таксама, вядома, значна перашкаджае яго працы.

У гарадох, дзе партыйныя організацыі ў некалькі дзесяткаў разоў большыя, чымся нашыя, дзе ёсьць Раённыя Гарадзкія Саветы (Масква) там такі падзел, вядома, неабходны. У нас-жа ў больш выгадным становішчы знаходзяцца тыя гарадзкія райкомы, дзе організацыя не падзелена на некалькі частак. Ці ня варта было-б можа і ў нас, узмацніўшы належным чынам апарат райкомаў, галоўным чынам інструктарскім складам, організаваць адзіны гарадзкі райком, які зможа быць запраўдным кіраўніком гаспадарчага і культурнага будаўніцтва гораду.

Я лічу, што гэтае пытаньне варта абгаварыць і так ці інача вырашыць, бо пры такой сыстэме нашы райкомы знаходзяцца ў становішчы пастуха з стадам, але бяз поля... дзейнасьці.

# ГІСТПАРТ

Агурскі

## Роля дробна-буржуазных партый на Беларусі ў кастрычнікавай рэволюцыі

У рэволюцыі 1905 году Беларусь і іншыя заходнія губэрні займалі выдатнае вельмі месца: адразу пасьля 9-га студзеня па ўсіх гарадох, мястэчках і вёсках пачалася хваля рэволюцыйных выступленьняў. Палітычныя і эканомічныя стачкі, дэмонстрацыі і стычкі з паліцыяй былі штодзённым зьявішчам па гарадох і мястэчках нашага краю, а па вёсках адбываўся шэраг аграрных паўстаньняў. Але ўвесь рух насіў мясцовы характар. Усе рэволюцыйныя выступленьні былі толькі іскрамі вялізнага рэволюцыйнага вогнішча, які ахапіў усю краіну. Удзельнікамі ўсіх гэтых рэволюцыйных выступленьняў былі рабочыя (асабліва яўрэйскія рабочыя) і сяляне Беларусі.

У рэволюцыі 1917 г., як у лютаўскай таксама ў кастрычнікавай становішча было зусім іншае. У 1917 г. Беларусь мела куды большае значэньне, чымся ў 1905 г. Усе рэволюцыйныя падзеі, якія мелі тут месца, насілі агульны усерасійскі характар, а ўдзельнікі ўсёй рэволюцыі ў нашым краі ня былі мясцовымі. Беларусь зрабілася арэнай імпэрыялістычнай вайны. Беларускія гарады і вёскі зруйнаваліся ў агні вайны. Насельніцтва беларускіх гарадоў і мястэчак расьсеялася па ўсіх кутках вялікай расійскай імпэрыі. Вайна зьнішчыла рабочы і рэволюцыйны рух у Расіі, а як надыйшла лютаўская рэволюцыя ня было мясцовых сіл, якія гралі такую вялікую ролю ў рэволюцыі 1905 г.

Аднак зьнішчэньне беларускіх рэволюцыйных організацый, якое было вынікам імпэрыялістычнай вайны, прынясло з сабою пачатак новага рэволюцыйнага ўздыму і згуртаваньне новых рэволюцыйных сіл. Сярод вялізарных армій, якія сконцэнтравала вайна ў Беларусі, знаходзіліся рэволюцыйныя дзеячы, якія яшчэ да лютаўскай рэволюцыі стварылі рэволюцыйныя групы, і ў пачатку лютаўскай рэволюцыі гэтыя групы сталі на чале рэволюцыі, зрабіўшыся правадырамі рэволюцыі на Беларусі і на заходнім фронце.

Наймацнейшай рэволюцыйнай групай была бальшавіцкая. Бальшавіцкая група мела ў сваіх шэрагах такіх дзеячоў, як М. Фрунзэ (Міхайлаў), Мясьнікоў, Кнорын, Магілеўскі, Любімаў, Позэрн, Фамін, Рэйнгольд, Крывашэін, Селязьнёў, Алібэкаў і інш. Па ініцыятыве гэтай бальшавіцкай групы 5-га сакавіка (1917 г.) стварыўся Менскі Савет Рабочых Дэпутатаў. Першым старшынёю Менскага Савету быў т. Позэрн—адзін з бальшавіцкай групы. Пад кіраўніцтвам бальшавіцкай групы была разброена Менская паліцыя і М. Фрунзэ стаў першым начальнікам Менскай міліцыі.

Адразу ў першыя дні Лютаўскай рэволюцыі Менск зрабіўся адным з галоўных рэволюцыйных цэнтраў. У пачатку красавіка ў Менску адбыўся першы фронтавы зьезд, які меў аграмаднае гістарычнае значэньне. Гэты зьезд павінен быў цьвёрда ўстанавіць, пад чыім ўплывам заходні фронт знаходзіцца. І за гэты ўплыў на заходні фронт пачалося змаганьне паміж усімі політычнымі партыямі краю. На зьезд прыехалі самыя відныя прадстаўнікі ўсіх політычных груп: ад стаўкі прыехаў генэрал Гурко, ад кадэтаў і акцябрыстых прыехалі: Родзянко, Радзічаў, Чэпкін і іншыя. Ад Петраградзкага Савету і ад меншавікоў прыехалі Чхэідзэ, Цэрэтэлі, Скобелеў і Гваздоў і ад бальшавікоў: Бадаеў, Ляшэвіч і Ногін.

Зьезд закончыўся паражэньнем для кадэтаў і часовага ўраду. У прынятай зьездам рэзолюцыі гаварылася, што ў выканаўчы камітэт фронту могуць выбірацца толькі прадстаўнікі соцыялістычных організацый. Старшынёю зьезду быў выбран П. Позэрн.

Далейшае разьвіцьцё рэволюцыі, змаганьне супроць таго, каб далей вясьці імпэрыялістычную вайну, яшчэ болей рэволюцыянізавала салдацкія масы на фронце і стварыла на Беларусі аграмадную рэволюцыйную сілу, якая вельмі моцна дапамагла Кастрычнікавай рэволюцыі.

* * *

Апроч вайскова-соцыялістычных організацый у першыя дні Лютаўскай рэволюцыі пачалі таксама адраджацца розныя рэволюцыйныя організацыі, якія калісьці дзейнічалі на Беларусі. Сярод яўрэйскіх колаў адрадзіўся „Бунд“ і розныя сіоністкія групіроўкі. Сярод беларусаў пачала працаваць ранейшая „Соцыялістычная Грамада“, якая выяўляла сабою мешаніну розных кірункаў: соцыял-дэмократычныя, эсэраўскія, народніцкія і нацыянал-дэмократычныя, таксама адрадзіліся меншавікі і эсэры. Соцыял-дэмократы, як бальшавікі, таксама і меншавікі, у першыя дні лютаўскай рэволюцыі не стварылі асобных організацый, а працавалі ў аднэй аб'яднанай організацыі, якую пасьля назвалі „аб'яднанкай“.

У аб'яднанай організацыі існавалі тры соцыял-дэмократычныя кірункі: бальшавікі, меншавікі і „Бунд“. У Савеце і ў розных іншых установах спачатку выступала толькі адна соцыял-дэмократычная фракцыя.

Аднак злучэньне гэтае ня было даўгачасовым. У соцыял-дэмократычных шэрагах Заходняга краю пачалося ў хуткім часе тое самае змаганьне паміж бальшавікамі і меншавікамі, як яно адбылося ў Петраградзе і іншых цэнтрах. 19-га мая 1917 г. раскалолася менская аб'яднаная соцыял-дэмократычная організацыя, а 17-га ліпеня бальшавіцкі камітэт ужо выпусьціў маніфэст, у якім тлумачылася чаму бальшавікі аддзяліліся ад меншавікоў і іншых згоднікаў, якія знаходзіліся ў аб'яднанай соцыял-дэмократычнай організацыі. У гэтым маніфэсьце бальшавікі абвяшчаюць барацьбу усім згоднікам, якія ідуць поруч з буржуазіяй і перашкаджаюць далейшаму разьвіцьцю рэволюцыі. Дзякуючы таму, што ўся кіраўнічая група новастворанай бальшавіцкай організацыі знаходзілася ў арміі на фронце, бадай уся праца менскага бальшавіцкага камітэту адбывалася на фронце сярод салдацкіх мас. У горадзе, сярод працоўных мас, бальшавіцкі камітэт спачатку мала працаваў. Дзеля гэтага здарылася тое, што спачатку больш іншых партый сярод менскіх профэсыянальных організацый працаваў „Бунд“.

У той час менскія профсаюзы ў большасьці складаліся з дробнабуржуазных элемэнтаў. У справаздачы Менскага цэнтральнага бюро

профсаюзаў на Ўсерасійскай конфэрэнцыі профсаюзаў гаворыцца, што да 1-га чэрвеня 1917 г. у Менску было 20 профсаюзаў, у якіх з'організавалася да 6.000 членаў. Сьпіс профсаюзаў з лікам членаў быў такі [1]):

1) Саюз прыказчыкаў меў 1.500 членаў, 2) саюз друкароў—250, 3) парыкмахараў—125, 4) музыкантаў—100, 5) рабочых мінэральных вод—150, 6) фурманаў—150, 7) кіно-працаўнікоў—60, 8) маляроў—150, 9) вайсковых краўцоў—300, 10) пераплётчыкаў—300, 11) дрэваапрацовочнікаў—300, 12) пекароў—350, 13) гарбароў—250, 14) шчотачнікаў—60, 15) шаўцоў—400, 16) табачнікаў—600, 17) швэйнікаў—800 і тры іншых профсаюзаў.

Гэты сьпіс профсаюзаў з лікам членаў дае цікавую характарыстыку профсаюзнага руху таго часу. Сьпіс нам паказвае, што 50 процантаў членаў профсаюзаў складалася з дробнабуржуазных элемэнтаў, а рэшта 50 процантаў з такіх членаў як краўцы, табачнікі, дрэваапрацовачнікі, шаўцы і інш., у большасьці працавалі ў дробных рамесьнікаў, якія знаходзіліся пад уплывам дробнай буржуазіі, сярод якой яны працавалі і жылі. У Менску ня было тады індустрыйнага пролетарыяту, дзеля гэтага большая частка гэтых элемэнтаў не магла ўспрыймаць бальшавіцкіх лёзунгаў, дзеля гэтага „Бунд" з сваім згодніцтвам і нацыяналізмам меў уплыў на большую частку Менскіх профсаюзаў.

З самага пачатку Лютаўскай рэволюцыі „Бунд" стаяў супроць далейшага разьвіцьця рэволюцыі. Ён адразу пачаў змагацца супроць бальшавіцкага лёзунгу: „Уся ўлада саветам". Ён клікаў яўрэйскія масы да абароны часовага ўраду, каб гэтым самым абараняць рэволюцыю ад небясьпекі, якую бальшавіцкія лёзунгі могуць прынесьці. „Бунд" сконцэнтраваў усю сваю працу ў змаганьні за яўрэйскія сьвецкія абшчыны, каб праз іх узьдзейсьніць нацыянальную культурную аўтаномію. На першай бундаўскай конфэрэнцыі Заходняга краю, якая адбылася ў Менску ў пачатку чэрвеня 1917 г., разглядаўся шэраг пытаньняў і таксама аб абшчыне, нацыянальнай культурнай аўтаноміі. У рэзолюцыі па гэтаму пытаньню гаворыцца: „Перабудоўка абшчыны на дэмократычных асновах, паколькі гэта магчыма да організацыйнага сходу, цесна зьвязана з дэмократызацыяй мясцовага самакіраваньня. Толькі тады магчыма будзе практычна разьмеркаваць функцыі гарадзкой думы і аўтаномнай, нацыянальнай абшчыны, толькі тады будзе забясьпечана існаваньне яўрэйскага культурнага праўленьня".

Становішча новых дэмократычных нацыянальных абшчын, паводле артыкулу ў „Вэкер" (№ 7, за 31 мая 1917 г.), вызначалася такім чынам:

„У нацыянальную яўрэйскую абшчыну могуць увайсьці ўсе, хто лічыць сябе яўрэем, хто лічыць сябе членам яўрэйскай нацыі. Ці яны набожныя ці не, веруючыя ці няверуючыя, іх веравызнаньне нас ня цікавіць, калі яны залічаюць сябе яўрэямі па нацыянальнасьці".

З гэтага ясна, што новыя нацыянальныя абшчыны зьяўляліся яўрэйскімі думамі, дзе рабін з усімі сваімі прыхвасьнямі і ўсёй яўрэйскай буржуазіяй, з аднаго боку, і прадстаўнікі „Бунду", „Поалей-Ціон" і іншых партый, з другога боку, сабраліся і зьдзейсьнілі бундаўскую, нацыянальную культурную аўтономію. Бо новая нацыянальная абшчына—тлумачыцца далей у гэтым самым 7 нумары „Вэкер"—зьяўляецца часткай дзяржаўнай улады. Яна накладае налогі, яе пастановы маюць сілу закону, яна атрымоўвае сродкі ад дзяржавы, яна мае права прымушаць сваіх членаў, каб яны падлягалі яе волі.

„Гаворачы, што нацыянальная абшчына павінна быць сьвецкай, мы ня хочам прыгнятаць нічыё веравызнаньне, мы хочам толькі ства-

[1]) Сьпіс профсаюзаў з лікам членаў узяты з газэты „Вэкер" № 14 за 16 чэрвеня.

рыць сапраўдную свабоду сумленьня. Набожныя і веруючыя людзі, таксама павінны нас шчыра падтрымліваць ува ўсіх нашых патрабаваньнях".

Але веруючыя і набожныя не хацелі падтрымліваць „Бунд", бо ім гаварылі, што „Бунд" супроць яўрэйскай веры і таксама супроць суботняга адпачынку. У „Вэкеры" № 17 за чэрвень 1917 г. друкаваўся артыкул аб суботнім адпачынку, у якім гаворыцца:

„Сярод грубай хлусьні, якую нашы супраціўнікі распаўсюджваюць супроць нас, ёсьць такая, якую паўтараюць з асаблівай сілай і бессаромнасьцю. Бубняць на сынагогальных сходках, на вуліцах, што „Бунд" хоча зьнішчыць яўрэйскую веру, што мы вядзем яўрэйскія масы да хрысьціянства, што мы адмаўляем усе яўрэйскія звычаі і разам з імі суботні адпачынак.

„Мы ўжо ня раз выкрывалі фальш і бяссумленнасьць такіх гутарак, на гэты раз мы хочам застанавіцца на пытаньні аб суботнім адпачынку".

„Пытаньне аб субоце, ва ўсялякім выпадку, не зьяўляецца выключна рэлігійным толькі пытаньнем. Масы няверуючых людзей таксама адпачываюць у суботу. Гэта ўжо гістарычная прывычка нашага народу".

„Ня можа быць і гутаркі аб тым, каб дзяржава прымусіла масы адмовіцца ад такой прывычкі".

„Бунд" заўсёды змагаўся супроць такогу прымусу. Ён заўсёды патрабаваў для яўрэяў права на суботу. Такое патрабаваньне „Бунд" выставіў і тады, калі гэтае пытаньне разглядалася ў дзяржаўнай Думе, ён аб гэтым прыняў асобную рэзолюцыю на сваёй конфэрэнцыі ў 1910 годзе. Заўсёды „Бунд" бароніць правы яўрэйскіх рабочых і прыказчыкаў на сьвяткаваньне суботы.

„Усім сплетнікам, якія гавораць, што мы гвалтам хочам прымусіць яўрэйскіх рабочых працаваць у суботу, мы адказваем коратка і востра: жыцьцё быць можа пакончыць калі-небудзь з суботай, і там, дзе патрабаваньні жыцьця неабходны, яўрэйскі рабочы сам адмаўляецца ад старога дню адпачынку. Але пакуль *яўрэйскія масы трымаюцца суботы*, „Бунд" будзе стаяць за іх правы на суботу і змагацца за тое, каб закон гэтыя правы забясьпечыў і не дапускаў ніякага гвалту над яго сумленьнем".

Вось чым „Бунд" займаўся ў той час, калі расійскія рабочыя аб'явсьцілі бязьлітасную вайну ўсяму капіталістычнаму сьвету з яго гнілымі традыцыямі і звычаямі. Вось за што змагаўся Менскі бундаўскі „Вэкер" у той час, калі бальшавіцкія газэты заклікалі рабочых і сялян да ўзбраеньня, каб змагацца за соцыяльную рэволюцыю. І калі наступілі чэрвеньскія дні (1917), калі Петраградзкія рабочыя і салдаты зрабілі першую спробу, каб скінуць Часовы ўрад, гэтыя самыя пісакі бундаўскага „Вэкеру", якія на пару тыдняў раней выказвалі такое жаданьне змагацца за правы яўрэйскіх мас сьвяткаваць суботу, назвалі Петраградзкае паўстаньне „цёмнымі жалобнымі днямі". І аб гэтых „жалобных днях" „Вэкер" ад 7-га чэрвеня 1917 г. пісаў наступнае:

„Чорная пляма лягла на нашу сьветлую рэволюцыю, жудасная, незапомная. Мы і да гэтага часу ня ведаем, хто быў правадыром гэтага зброду; мы ня ведаем, з якіх элемэнтаў гэты зброд складаўся; мы ня ведаем, ці гвалты з боку гэтага зброду ўчынілі асьлепленыя чэсныя людзі, ці провокатары і контр-рэволюцыянэры".

Так пісаў Менскі, бундаўскі „Вэкер" аб чэрвенскім паўстаньні Петраградзкіх рабочых і салдат, якое пачалося з бальшавіцкімі лёзунгамі „Прэч 10 капіталістычных міністраў!" „Уся Ўлада Саветам!"

Ганебныя адносіны „Бунду“ да чэрвеньскага паўстаньня і да ўсіх іншых рэволюцыйных выступленьняў былі зусім натуральны. „Бунд“ з самага пачатку лютаўскай рэволюцыі цалкам стаў організацыяй, якая групавала вакол сябе яўрэйскія дробна-буржуазныя масы, і ўсю сваю тактыку дапасаваў да волі і імкненьняў гэтых мас. Бунд стаў супроць рэволюцыйных імкненьняў расійскага пролетарыяту і сялянства і пайшоў у яўрэйскія абшчыны і іншыя „дэмократычныя“ групоўкі—з рабінамі, з яўрэйскай і наогул буржуазіяй, каб змагацца за нацыянальную культурную аўтономію, за суботні адпачынак і за іншыя дробна-буржуазныя, нацыялістычныя патрабаваньні.

Вось якую ролю адыгрываў „Бунд“ сярод яўрэйскіх рабочых колаў у часы Кастрычнікавай рэволюцыі.

* * *

Апрача „Бунду“, у яўрэйскіх колах Беларусі дзейнічаў „Поалей-Ціон“. Дзейнічаньне гэтай організацыі было ў той час амаль што аналёгічна дзейнічаньню „Бунду“. Якраз як „Бунд“, поалей-цыяністыя ўсю сваю працу сконцэнтравалі ў абшчынах. Трэці зьезд П. Ц., які адбыўся адразу пасьля лютаўскай рэволюцыі, гаварыў аб яўрэйскай абшчыне ў спэцыяльнай рэзолюцыі наступнае:

„Прызнаючы, што яўрэйская абшчына павінна быць грунтам нацыянальнай аўтономіі, трэці зьезд І. С. А. П. (Поалей-Ціон) пастанаўляе, каб яна перабудавалася на сьвецкіх асновах з шырокай компэтэнцыяй у пытаньнях соцыяльнага забясьпечаньня спэцыфічнай яўрэйскай экономікі і асьветы і каб яна выбіралася на аснове выбарчай сыстэмы шасьціхвосткі“.

Як члены ў яўрэйскую абшчыну ўваходзяць усе тыя, якія прызнаюць, што яны належаць да яўрэйскага народу, нават у адным з гэтых двух пунктаў ёсьць патрабаваньне, якога „Бунд“ не выстаўляў. Гэта, каб абшчына занялася экономічнымі пытаньнямі. Але гэтыя патрабаваньні ў аснове тыя самыя, як і бундаўскія. „Бунд“ таксама браў абшчыну за аснову нацыянальнай, культурнай аўтономіі. „Бунд“ таксама патрабаваў, каб у абшчыну ўваходзілі ўсе тыя, якія прызнаюць сваю прыналежнасьць да яўрэйскага народу.

Як „Бунд“, так і „Поалей-Ціон“, былі згодны пайсьці ў абшчыну разам з клерыкаламі і яўрэйскай буржуазіяй. Затым, што ўсе яны дзеці аднаго народу.

У адносінах да пытаньня аб уладзе, поалей-цыяністыя ў сваёй выбарчай пляцформе да Ўстаноўчага Сойму, гавораць, што:

„У часы страшэннага разбурэньня ў сусьветнай гісторыі, калі над усімі народамі вызваленай Расіі вісіць сьмяртэльная небясьпека, краіна рыхтуецца да Ўсерасійскага Ўстаноўчага Сойму.

„Яўрэйская рабочая кляса глядзіць з надзеяй на Устаноўчы сойм. Яна чакае, каб ён зьявіўся найвышэйшай абаронцай усіх народаў Расіі. Яўрэйская рабочая кляса чакае, што, на Ўстаноўчым Сойме, рэволюцыйная дэмократыя ўсіх народаў канчаткова пяройдзе ад слоў да справы і паставіць краіну на моцных і надзейных асновах вольнага дэмократычнага жыцьця, працы і міру“.

Але канчатковая мэта поалей-цыяністых—не расійская рэволюцыя і не Расія. Затым што, тлумачыцца ў рэзолюцыі трэцяга зьезду П. Ц., калі: „ува ўсіх ператварэньнях і паляпшэньнях, якія расійская рэволюцыя ўносіць у прававое і экономічнае становішча яўрэйскіх масаў у Расіі, а ў зьвязку з гэтым і ў суседнія краіны, усё-ж такі ня зьнішчаецца галоўная аномалія яўрэйскага жыцьця—экстэрыторыяльнасьць яўрэйскага народу. У краінах выгнаньня можна толькі аблягчаць, але

не адмяняць важнейшыя і ганебныя вынікі яўрэйскай экстэрыторыяльнасьці, як соцыяльныя і політычныя звужэньні клясавага змаганьня яўрэйскага пролетарыяту і яўрэйскай масавай эміграцыі. Дзеля гэтага 3-ці зьезд І. С. А. П. („Поалей-Ціон") прызнае правільны стары погляд партыі, у адносінах да тэрыторыяльнай аўтономіі для яўрэйскага народу ў Палестыне".

Поалей-цыяністыя толькі шмат гаварылі ад імя яўрэйскіх рабочых і ўсяго яўрэйскага пролетарыяту. Але фактычна ў іх шэрагах яўрэйскага рабочага ня было; яны групавалі вакол сябе маленькія гурткі дробна-буржуазнай яўрэйскай моладзі. Іх бясьсільле было такое вялікае, што ў часе выбараў Менскай гарадзкой думы яны стварылі блёк з украінскай партыяй соцыял-рэволюцыянэраў, з украінскай партыяй соцыял-дэмократаў, з Беларускай Соцыялістычнай Грамадой, з беларускай партыяй соцыялістых-народнікаў і з аб'яднанай яўрэйскай соцыялістычнай рабочай партыяй „С.-С," і „І. С.".

Гэтае аб'яднаньне нацыянал-соцыялістычнага блёку закончыла сваю адозву да выбіраценяў наступнымі словамі:

„Калі вы хочаце ажыцьцёвіць свае найвялікшыя соцыяльныя патрабаваньні і найкрасшыя нацыяналістычныя надзеі, тады галасуйце за квіток нацыянал-соцыялістычнага блёку, галасуйце за квіток № 12".

Вось, як працавалі поалей-цыяністыя праз усю эпоху ад лютага да кастрычніка. І калі кастрычнікаўскія дні наступілі, і II зьезд Саветаў пастанавіў узяць уладу ў свае рукі, прадстаўнік поалей-цыяністых Бору—заявіў, як і прадстаўнікі „Бунду", што поалей-цыяністыя не адказваюць за працу зьезду і пакідаюць зьезд Саветаў.

29-га кастрычніка ЦК поалей-цыяністых разаслаў цыркуляр (цыркуляр № 2), у якім ён заклікаў усе поалей-цыяністычныя організацыі ўвайсьці ў камітэты выратаваньня айчыны і рэволюцыі, у гэтыя самыя камітэты, якія ў Менску і ва ўсёй краіне з дапамогай усіх контр-рэволюцыянэраў хацелі задушыць Кастрычнікавую рэволюцыю [1]).

Вось якую ролю адыгрывалі поалей-цыяністыя ў эпоху Кастрычнікавай рэволюцыі ў Менску і ўсюды, дзе яны знаходзіліся.

---

[1]) Гэты цыркуляр друкаваўся ў 14 (20) нумары „Еврейская Рабочая Хроніка"— Лістапад 1917 г.

# У ЦК КП(б)Б

## Пастановы ЦК КП(б)Б аб партпрацы ў Вузах і Рабфаках

У пачатку красавіка бягучага году Сэкратарыят ЦК КПБ заслухаў даклад камісіі па абсьледваньню партпрацы ў Вузах і рабфаках. Ніжэй мы прыводзім некаторыя вытрымкі з гэтай пастановы.

У адносінах арганізацыйнай структуры Парт'ячэек Сэкратарыят ЦК пастанавіў:

а) У БДУ і Сельска-Гаспадарчай Акадэміі перайсьці да арганізацыі партколектываў на факультэтах на правох цэхавых ячэек з захаваньнем Агульнавузаўскага Бюро Ячэйкі, як адзінага кіраючага партыйнага асяродку ў Вузе.

б) Увесьці інстытут курсавых арганізатараў, спачатку на першых курсах тых факультэтаў, дзе маецца большы лік комуністаў, з паступовым пашырэньнем гэтага інстытуту па меры далейшага павялічэньня парторганізацый у Вузах.

в) Аб'яднаць Ячэйку Менскага рабфаку з Ячэйкай БДУ (рабфакаўская ячэйка на правох цэхавай ячэйкі).

г) Партыйным камітэтам тых акруг, дзе ёсьць Вузы, перавесьці ў вузаўскія ячэйкі студэнтаў і навуковых працаўнікоў-комуністаў.

д) Аргаддзелу ЦК КПБ у месячны тэрмін распрацаваць палажэньне аб Вузаўскіх Ячэйках.

**По партыйна-выхаваўчай працы ЦК дае наступныя дырэктывы:**

а) АПО ЦК КПБ больш конкрэтна распрацаваць пытаньне аб увязцы сыстэмы партасьветы ў Вузах з выкладаемым агульна-палітычным мінімумам, распрацаваўшы адзіныя програмы партасьветы, прыстасаваныя да ўмоў Вузаў.

б) АПО ЦК і Галоўпрофасьветы ўскорыць распрацоўку програмы агульна-палітычных прадметаў для Вузаў.

в) Ува ўсёй партвыхаваўчай працы аддаць асаблівую ўвагу выхаваньню кандыдатаў КПБ (арганізацыя спэцыяльных гурткоў па вывучэньню гісторыі, програмы і статуту партыі для кандыдатаў і г. д.).

г) Асноўным найбольш апраўдаўшым сябе мэтодам партасьветы ў Вузах лічыць мэтад самаадукацыі.

д) Палепшыць зьмест працы ячэйковых сходаў. На агульна-вузаўскіх сходах неабходна ў большай меры ставіць пытаньні аб жыцьці і працы Вузу і розных яго органаў (даклады фракцый праўленьня, пытаньні працы сярод навуковых працоўнікоў, аб вучэбных плянах, аб акадэмпосьпехах, аб мэтодах выкладаньня, аб масавай працы сярод студэнцтва і г. д.), а таксама пытаньні агульна-партыйнага характару. Разгрузіць ячэйковых. Сюды ад прапрацоўкі агульна-партыйных рашэньняў, абмяжоўваючыся пастаноўкай на іх кароткіх дакладаў, аб выніках, перанесьці іх прапрацоўку ў гурткі.

**Па рэгуляваньню партнагрузкі ЦК прызнаў неабходным:**

а) Больш цьвёрда правесьці ў жыцьцё дырэктыву аб абмяжованай

6-ці гадзіннай нагрузцы партыйнай і грамадзкай працай, устанавіў, як правіла, што кожны член ячэйкі павінен выконваць ня больш аднаго партабавязку ўнутры альбо ня ў Вузе.

б) Скараціць лік сходаў і пасяджэньняў у Вузах, устанавіў, як правіла, у месяц ня больш 5-ці сходаў (2 партыйных сходы, 2 комсамольскіх, 1 профэсыянальны).

в) Выжыць выпадкі прымацаваньня комуністаў на пастаяннай працы ў вясковых ячэйках (Сельска-Гаспадарчая Акадэмія), устанавіў вядзеньне агульнай працы ў вёсцы праз шэфскія організацыі.

г) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на рэгуляваньне нагрузкі комуністых і комсамольцаў, якія рыхтуюцца і вылучаны на навуковую працу, даўшы ім поўную магчымасьць заняцца акадэмічнай працай, а таксама на максімальную разгрузку ад грамадзкай працы слаба пасьпяваючых.

д) Зьвярнуць ўвагу на рацыяналізацыю студэнцкіх організацый (культурныя гурткі, дабраахвотныя таварыствы і г. д.) у напрамку зьнішчэныя награмоджанасьці, лішняга засядацельства, устанаўленьне плянавасьці і г. д.

ЦК адзначыў, ня гледзячы на тое, што на падняцьце акадэмічных посьпехаў у апошні час парторганізацыі Вузаў аддаюць шмат увагі і што сярод партыйцаў і комсамольцаў, так сярод і беспартыйнага студэнцтва, маецца перадом у бок сьвядомасьці—падняць акадэмпасьпяховасьць, усё-ж неабходна адзначыць, што акадэмпасьпяховасьць у Вузах яшчэ нізкая, асабліва ў комуністых сярэдні процант пасьпяховасьці за 25-26 вучэбны год у БДУ—55%, у Сельска-Гаспадарчай Акадэміі—49,2%, у Вэтінстытуце — 93,4%. У БДУ пакінута на другі год усяго—12%, комуністаў 14,3%, у Сельска-Гаспадарчай Акадэміі па вестках на 1/3 студэнцтва на 15 лютага 1927 г. пераведзена на наступныя курсы 49,2%, комуністаў 41%, комсамольцаў 59,9%. Пакінута на наступны год 5,9%, комуністых 10,3%, комсамольцаў 6,3%, умоўна пераведзена ўсяго 37,5%, партыйцаў 41%, комсамольцаў 33,8%. Асабліва нізкі посьпех на Пэдфаку БДУ (40%), на мэліорацыйным факультэце (31%) і на землябудаўнічым (14,1%) Сельска-Гаспадарчай Акадэміі.

Асноўнымі прычынамі больш нізкага посьпеху комуністых, акрамя агульных прычын (нясталасьць вучэбных плянаў, нездавальняючая абсталяваньне асобных габінэтаў, недахват вучэбных падручнікаў і г. д.) зьяўляецца яшчэ: вялікі процант комуністых, служачых ва ўстановах (БДУ—45%), перагрузка партыйцаў грамадзкай працай.

**За гэтым ЦК лічыць неабходным:**

а) Вузаўскім ячэйкам больш завастрыць ўвагу на падняцьці акадэмічных посьпехаў як беспартыйнага студэнцтва, так і асабліва комуністых. Пэрыодычна ставіць на партыйных і агульнастудэнцкіх сходах даклады аб акадэмпосьпехах, вывучаючы прычыны слабых посьпехаў і прымаючы ў кожным асобным выпадку конкрэтныя меры для яе падняцьця (максымальная разгрузка ад грамадзкай працы адстаючых, дапамагаць больш поўнаму іх забясьпечаньню вучэбнымі падручнікамі, вылучэньне адставаючых у асобыя групы і г. д.).

б) АПО ЦК і Галоўпрофасьветы зьвярнуць увагу на пасьпешнасьць устанаўленьня сталых вучэбных плянаў, на лепшае комплектаваньне асобных кафэдр кваліфікаванымі навуковымі сіламі, на абсталяваньне асобных габінэтаў.

в) Галоўпрофасьветы і ЦБ Пролетстуду распрацаваць і палепшыць мэтады вучоту акадэмпосьпехаў (не абмяжоўваючыся толькі фармальнымі прыметамі посьпехаў).

**У галіне ўзаемаадносін між ячэйкамі, парткомамі і фракцыямі праўленьняў Вузаў, ЦК КПБ пастанавіў:**

а) Оргаддзелу і АПО ЦК КПБ распрацаваць інструкцыю аб узаемаадносінах між партячэйкамі і

партkамітэтамі з фракцыямі Праўленьняў Вузаў на основе партдырэктыў, якія маюцца аб працы ў Ву-

Установіўшы непасрэднае кіраўніцтва і падчыненьне фракцыі Акадэміі ЦК КПБ і ажыцьцяўленьня гэтага кіраўніцтва праз АПО ЦК КПБ пры абавязковым актыўным удзеле кіраўніцтва Аршанскага АК, Горацкага РК і ячэйкі С.-Г. Акадэміі.

в) Устанавіць непасрэднае падчыненьне фракцыі Вэтэрынарнага Інстытуту па пытаньнях вытворчага характару ЦК КПБ з абавязковым ўдзелам ў кіраўніцтве Віцебскага АК КПБ і партячэйкі Вэт. Інстытуту.

г) Акрамя таго, Сэкратарыят даў дырэктыву Менскаму АК і Ляхаўскаму РК аб прыняцьці імі мер палепшаньня становішча працы ў ячэйцы БДУ.

д) Для палепшаньня парткіраўніцтва працай у Вузах лічыць неабходным вылучэньне інструктара па Вузах пры ЦК КПБ.

е) лічачы, што сувязь фракцый С. Г. Акадэміі і БДУ з Аршанскім і Менскім Акругкомамі зьяўляюцца зусім недастатковай, прапанаваць фракцыі С. Г. Акадэміі і БДУ узмацніць сувязь з належнымі Акругкомамі КПБ;

ж) Менскаму і Аршанскаму АК КПБ узмацніць удзел у кіраўніцтве БДУ і С. Г. Акадэміі (заслухоўваньне дакладаў фракцый праўленьняў і партячэек, узмацненьня мэтодычнага кіраўніцтва партвыхаваўчай працай вылучаных ячэек С.Г. Акадэміі і БДУ ў групу, непасрэдна зьвязаных з АК; больш часты выезд працаўнікоў Аршанскага АК у Акадэмію і г. д.).

**Па масавай працы ЦК даў наступныя дырэктывы:**

а) Ува ўсёй масавай працы аддаваць больш увагі абхвату студэнтаў не стыпэндыятаў, якія жывуць на прыватных кватэрах; фракцыі ЦБ пролетстуду распрацаваць мерапрыемствы па ўзмацненьню абслугоўваньня гэтай часткі студэнцтва масавай і культурнай працы і па яе ўцягваньню ў грамадзкую працу ў Вузе і ня ў ім.

б) Больш рацыяналізаваць працу розных студэнцкіх організацый. Фракцыі ЦБ Пролетстуду распрацаваць гэтае пытаньне.

в) Узмацніць выхаваўчую і практычна карысную працу ў добраахвотных грамадзкіх організацыях ня гонячыся за мэханічным ростам гэтых організацый і неабмяжоўваючы працу выключна ўздыманьнем сяброўскіх узносаў.

г) Больш дыфэрэнцыраваць масавую працу, прыстасоўваючы яе да асаблівасьцяй асобных факультэтаў і курсаў, па магчымасьці ўвязваючы яе з разьмеркаваньнем у агульных памяшканьнях.

д) Павялічыць уцягваньне беспартыйнага студэнцтва на адчыненыя партсходы і яго ўцягваньне ў політычныя і профэсыянальныя гурткі.

е) У БДУ аддаваць асаблівую ўвагу на кіраўніцтва дэлэгацкімі сходамі пры профкомах, на іх рэгулярнае скліканьне, добрую падрыхтоўку павестак дню і праверку выпаўненьня іх рашэньняў. У С.-Г. Акадэміі організаваць інстытут дэлегатаў пры профкомах, разглядваючы яго, як асноўны від працы з актывам.

ж) Аб'яднаць профком Акадэміі з выканбюро Горацкага рабфаку ў адну агульна-вузаўскую профэсыянальную організацыю (агульнае выканбюро) з уваходжаньнем у яго асобных профсэкцый.

з) Адзначаючы, што правільнай пастаноўцы масавай працы ў БДУ ў значнай меры перашкаджае адсутнасьць студэнцкага клюбу, лічыць неабходным ускорыць выпаўненьне пастановы ЦК КПБ аб організацыі ў Менску студэнцкага клюбу.

### Па працы ў КСМ

а) АПО і ЦК КСМ распрацаваць програмы палітасьветы ў ВУЗ'ах, Рабфаках, а таксама распрацаваць палажэньне аб комсамольскіх ячэйках у здасканаленьнем іх організацыйнай структуры ў належнасьці з орг. структурай парт'ячэек.

б) Партыйным камітэтам і партячэйкам устанавіць больш глыбокае кіраўніцтва комсамольскімі ячэйкамі вылучыўшы для гэтага адказных і падрыхтаваных таварышоў (заслухоўваньне дакладаў, уцягваньне на партсходы і інш.). Прыняць меры да большага ўцягваньня пераросткаў у працу партячэек. Прыймаць пад увагу настроі пераросткаў і своечасова на іх рэагаваць.

в) Масавай працы сярод беспартыйнай студэнцкай моладзі павінна быць значна павялічана штодзённая ўвага комсамольскіх партячэек. Партыйныя ячэйкі павінны дапамагчы комсамольскім і ў гэтай працы.

г) Лічыць неабходным упрасьціць парадак праходжаньня спраў комсамольцаў, паступаючых у партыю (14 інстанцый). Оргаддзелу распрацаваць пытаньне.

д) У выхаваўчай працы паглыбіць прапрацоўку рашэньняў парт'-зьездаў, а таксама рашэньняў па нацполітыцы.

е) Павялічыць вылучэньне актыву з рабочых-комсамольцаў.

### Па працы сярод навуковых працаўнікоў

а) Больш уцягнуць комуністаў навуковых працаўнікоў у работу партячэек, а таксама сэкцый навуковых працаўнікоў, дабіваючыся гэтым шляхам узмацненьня парткіраўніцтва навуковымі працаўнікамі.

б) Згрупаваць асноўную ўвагу на разьвіцьці клюбнай працы сярод навуковых працаўнікоў і на большым іх уцягваньні ў актыўнае кіраўніцтва жыцьця ВУЗ'аў (Большае інфармаваньне навуковых працаўнікоў аб дзейнасьці Праўленьняў і асобных факультэтаў, большае ўцягваньне сэкцый навуковых працаўнікоў да ўдзелу ў вытворчым жыцьці ВУЗ'аў, дапамога большаму выяўленьню ініцыятывы навуковымі працаўнікамі ў будаўніцтве ВУЗаў).

в) Забясьпечыць поўную магчымасьць партыйцам—навуковым працаўнікам заняцца акадэмічнай працай.

### У галіне правядзеньня нацполітыкі

а) Працягваць цьвёрды курс па правядзеньню беларусізацыі і па ўкараненьню беларускай мовы ў звычай студэнцтва і навуковых працаўнікоў.

б) Правесьці больш паглыбленую прапрацоўку партыйных рашэньняў па нацполітыцы, асабліва ў комсамольскіх ячэйках і сярод беспартыйнага студэнцтва.

в) У штодзённай выхаваўчай працы аддаваць больш увагі выжыцьцю міжнацыянальных спрэчак і барацьбе з няправільным разуменьнем сутнасьці нацполітыкі, а таксама з праяўленьнем нацыянал-шовінізму.

г) Павялічыць перавод вучэбнай працы на беларускую мову.

### Па працы ня ў Вузах

Прыдаючы вялікае значэньне працы студэнтаў ня ў Вузах, якая дае магчымасьць атрымоўваемыя ў акадэмічным парадку веды параварываць на практычнай грамадзкай працы і быць зьвязаннымі з жыцьцём рабочых, лічыць неабходным устанаўленьне сувязі і нагрузку грамадзкай працай студэнтаў (у першую чаргу партыйцаў і комсамольцаў) на прадпрыемствах (Менск, Віцебск).

Партыйным ячэйкам і камітэтам сачыць за правільным разьмеркаваньнем і скарыстоўваньнем вылучаных для гэтага таварышоў, устанавіўшы вучот выпаўняемай працы і іх інструктаваньне. Грамадзкая праца ня ў Вузах павінна выходзіць з устаноўленай нормы нагрузкі (8 тыднёвых гадзін) і не павінна весьціся так, каб яна шкодзіла акадэмічнай працы.

Неабходна таксама палепшыць пастаноўку шэфработы Вузаў у належнасьці з дырэктывамі партыі па гэтаму пытаньню (Сельск.-Гаспад. Акадэміі мэтазгодна звузіць раён шэфработы, 57 вёсак за лік палепшаньня яе зьместу).

### У галіне вучоту настрояў студэнцтва

а) Значна палепшыць пастаноўку вучоту настрояў і своечасовага рэагаваньня на іх партыйнымі ячэйкамі Вузаў. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на вучот настрояў не— стыпэндыятаў, якія жывуць па прыватных кватэрах.

б) прыняць пад увагу неабходнасьць паляпшэньня матэрыяльнага становішча, у прыватнасьці пашырэньня ліку стыпэндыятаў на будучы навуковы год.

в) ЦК КСМ і парт'ячэйкам Вузаў зьвярнуць асаблівую ўвагу на працу з комсамольцамі - перарасткамі, на ўцягваньне іх у грамадзка-палітычную працу, якая праводзіцца парт'ячэйкай, профэсыянальнымі і іншымі організацыямі, на выжыцьцё выпадкаў пэсымізму, якія ёсьць сярод іх.

г) у партыйнай і комсамольскай частцы студэнцтва лічыць неабходным праводзіць больш паглыбленую прапрацоўку пытаньняў бягучай політыкі партыі і дапамагаць больш у гэтым пытаньні парт'ячэйкам Вузаў партыйнымі камітэтамі.

## Рэзолюцыя Вузаўскай нарады пры АПА ЦК па пытаньню аб комплектаваньні ВНУ, Рабфакаў і Тэхнікумаў на 1927-28 навучальны год, зацьверджаная Сакратарыятам ЦК КП(б)Б пр. № 11 ад 30 сакавіка г. г.

1. Асноўнымі момантамі, якія вызначаюць характар працы па камплектаваньню,павінны быць імкненьні к далейшай пролетарызацыі навуч. устаноў, павялічэньне іх рабоча-сялянскага ядра і ўзвышэньне акадэмічных ведаў паступаючых.

2. Галоўнымі фактарамі затрымліваючымі тэмп пасьпяховасьці ў гэтым напрамку, зьяўляецца прарыў у сыстэме народнае асьветы паміж 7-х гадовай школай і ВНУ, недастарчаючая колькасьць рабочых у БССР і кепскае забесьпячэньне ВНУ (прынамсі шырока імкнучыхся да асьветы). Апрача гэтага нашы рабфакі не цалком перадаюць сваю прадукцыю ў ВНУ БССР, а накіроўваюць значную колькасьць скончыўшых у ВНУ іншых саюзных Рэспублік. У сёлетнім годзе ў ВНУ РСФСР будуць разьвёрстку запаўняць толькі па тым спэцыяльнасьцям, па якім няма ВНУ ў БССР.

3. Правядзеньне ў мінулым годзе прынцыпу вольнага прыёму паказала лепшую падрыхтаванасьць больш моцных з матар'яльнага боку груп насельніцтва, а ў зьвязку з гэтым і некаторую небясьпеку пападаньня ў ВНУ социяльна непажаданага элементу.

4. Адзначаючы гэтыя факты Вузаўская нарада лічыць неабходным у кампаніі комплектаваньня 1927-28г. правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Ня спыняючы курсу па акадэмічнай падрыхтоўцы паступаючых у ВУЗ'ы, абавязкова трымаць цьвёрды курс на паляпшэньне социяльнага складу студэнцтва шляхам наступных мер:

а) Адчыненьне для рабоча-сялянскай моладзі не пазьней 15 красавіка пры АНА, Культаддзелах Саюзу і іншых грамадзкіх організацыях каротка-тэрміновых курсаў за кошт гэтых організацый. Галоўпрофасьвсты, разам з КА ЦСПСБ дагаварыцца аб утрыманьні гэтых курсаў.

б) Распрацоўка к гэтаму часу Галоўпрофасьветы програм і палажэньня аб гэтых курсах.

в) Максымальнае затрыманьне аканчываючых Рабфакі і ВНУ ў БССР.

г) Больш шчыльны ўдзел у кампаніі партыйных і комсамольскіх організацый, шляхам адбору жадаючых вучыцца і звальненьне іх ад працы для падрыхтоўкі.

д) Больш уважлівы прагляд дакумэнтаў пастулаючых у мэтах недапушчэньня да іспытаў соцыяльна чуждага элемэнту.

е) Давядзеньне проценту рабочых у Рабфакі ня меней чымся да 50 проц. на дняўныя і 80 проц. на вячэрнія.

5. У мэтах большай пасьпяховасьці правядзеньня пролетарызацыі ВНУ'ам і павялічэньня акадэмічных ведаў паступаючых на будучыя гады лічыць неабходным у 1927-28 г. правесьці наступнае:

а) Разгарнуць сетку ўстаноў рабочае асьветы (школа дарослых) прагледзеўшы іх програмы ў мэтах давядзеньня аб'ёму ведаў да Рабфаку.

б) Разгарнуць установы вячэрняга тыпу орыентыруючыся на прадпрыемствы, абслугоўваючы рабочых (вячэрнія) у Віцэбску, вячэрнія рабфакі (у Гомелі і Барысаве).

в) Адчыніць у Менску пры БДУ падрыхтоўчыя агульна-адукацыйныя клясы для моладзі рабочых і бяднейшага сялянства і батракоў.

г) Перавесьці дняўныя рабфакі на 4 гады навучаньня.

д) Дазволіць прыём на старэйшыя курсы рабфакаў дарослых рабочых і рабочай моладзі з профшкол, ФЗУ і вячэрніх школ.

6. У мэтах спрашэньня парадку прыёму лічыць мэтазгодным у гэтым годзе:

а) Зьнішчыць ЦПК, усклаўшы ўсю працу па комплектаваньню на ПК пры навучальных установах. У сувязі з гэтым зьвярнуць увагу на склад прыймовых і іспытальных камісій, зацьвярджаючы іх праз Галоўпрофасьветы;

б) Катэгорычна забараніць перавышэньне вызначаных норм прыёму, адносна нормы прыёму Галоўпрофасьветы дагаварыцца з фр. Праўленьня ВНУ НКЗ.

в) Даручыць Галоўнай Управе Проф.-тэх. асьветы выдаць правілы прыёму ў сакавіку і сетку з нормамі прыёму ў маі.

7. У мэтах ажыцьцяўленьня прынцыпу адзінай школы, лічыць мэтазгодным дазволіць непасрэднае (бяз іспытаў) паступленьне ў тэхнікумы па спэцыяльнасьці з профшкол па рэкамэндацыі Пэд. Рады, а таксама з 7-мігодак у тэхнікумы.

*Увага.* Сьпіс профшкол маючых права беспасрэднага паступленьня ў той ці іншы тэхнікум устанаўліваецца Галоўпрофасьветы.

8. Агульныя прынцыпы прыёму ў ВНУ і Рабфакі заставіць мінулага году, завярнуўшы ўвагу на неабходнасьць далейшай каранізацыі складу студэнцтва.

9. Даручыць Галоўпрофасьветы, а таксама партыйным, комсамольскім організацыям ВНУ шырока прапагандаваць прынцыпы прыёму і падрыхтоўчай да яе працы ў прэсе.

10. Галоўпрофасьветы пагадзіць з Ваенведам пытаньне адносна прадстаўленьня магчымасьці дэмабілізуемым з Раб.-Сял. Чырв. Арміі водпуска для падачы заяў і трыманьня іспытаў.

## Итоги перевыборов ФЗМК по Белоруссии

(*постановление секр. ЦК КП(б)Б от 14 марта 1927 г.*).

Подводя итоги перевыборов ФЗМК, Секретариат ЦК КП(б)Б отмечает следующие положительные моменты:

1. Активное участие со стороны партийных и союзных органов по подготовке и проведению перевыборов фабзавместкомов.

2. Предвыборные и выборные собрания ФЗМК, за некоторыми исключениями, были посвящены только отчетам и перевыборам; лучшее, по сравнению с прежними перевыборами, построение отчетов ФЗМК (внимание было обращено на содержание и изложение доклада).

3. Активность рабочих масс в выступлениях (выступало 14,6% всех присутствовавших: 10,6%—мужчин и 7% женщин); в основном здоровая критика со стороны рабочих работы своей низовой ячейки.

Активность при намечении кандидатур в состав ФЗМК и ревкомиссии, как со стороны ячейки, так и со стороны беспартийных (до предвыборных собраний партячейками вместе с фракциями ФЗМК было намечено 14% и дополнительно к ним рабочими—81% по отношению к количеству избранных).

4. Внимательное отношение со стороны парт'ячеек к подбору кандидатур, предварительное обсуждение их с активом на делегатском собрании и т. д.

5. Соблюдение принципов рабочей демократии при перевыборах.

6. Активное участие работниц в перевыборах и увеличение их в составах ФЗМК (присутствовало на перевыборных собраниях 69,9%, на выборных 68,2%). В ФЗМК избрано на 12,8% больше прежнего.

Вместе с тем, Секретариат ЦК КПБ отмечает следующие недостатки:

1) Некоторое снижение посещаемости предвыборных и выборных собраний (по предвыборным собраниям группа производственных союзов дала снижение с 73,8% до 70%, группа союзов умственного труда—с 77% до 62% по выборным собраниям; группа производственных союзов дала снижение с 77% до 69%; группа умственного труда с 69% до 60%) по причине проведения в это время других кампаний и в отдельных случаях—в силу недостаточной подготовительной работы, недостаточности извещений и отсутствия соответствующих помещений и сменной работы в предприятиях.

2) Имели место отдельные случаи неусвоения инструкций по перевыборам в части голосования и т. д.

3) Не всюду делали отчеты ревкомиссии, слабо прорабатывались их отчеты и недостаточно было обращено внимание на выборы ревкомиссий.

4) Слабое освещение перевыборов в стенгазетах и особенно в местной прессе. Отметить, что при подведении итогов перевыборов профорганизациями не в достаточной мере было предусмотрено выполнение старых наказов и проверка не выполнения их при составлении новых.

5) Имели место случаи недостаточного учета ячейками настроений рабочих при намечении кандидатур; в некоторых случаях партийцы и комсомольцы не принимали достаточного участия в отчетных и выборных собраниях, а также в проведении кандидатур ячеек, вследствие чего в отдельных случаях выдвигались беспартийными самостоятельные списки и забаллотировывались кандидатуры ячеек.

В дальнейшем Секретариат ЦК КПБ предлагает:

1) Партийным органам и фракциям профорганизаций на основе выявившихся недочетов принять меры к устранению отмеченных дефектов, а также принять меры к большему оживлению работы ФЗМК и их органов на предприятиях. Особое внимание обратить на усиление массовой работы, согласно резолюции мартовского Пленума ЦК КПБ.

2) Обратить особенное внимание вопросу обработки профактива, особенно новых, влившихся т. т. в ФЗМК (57,7%) и комиссии, больше ознакамливая их с работой профорганизаций, втягивая их в практическую работу.

3) Фракциям профсоюзов добиться регулярной работы ревкомиссий ФЗМК.

## Итоги кампании перезаключения колдоговоров.

*(Постановление бюро ЦК от 1 апреля 1927 г.).*

Бюро ЦК КП(б)Б отмечает:

1. Проведение договорной кампании в полном соответствии с директивами ЦК КПБ.

2. Достаточное руководство фракции ЦСПСБ договорной работой союзов и своевременная дача указаний и проработка основных вопросов кампании, а также уделение достаточного внимания договорной работе со стороны фракции ЦП Союзов.

3. Уделение достаточного внимания вопросам договорной работы со стороны партийных органов, в особенности парт'ячеек на предприятиях. В то же время имелись случаи, когда отдельные партийцы-рабочие нарушали решения ячеек, выступая против этих решений на общих собраниях рабочих, а также случаи, когда партийцы и комсомольцы возглавляли группы квалифицированных рабочих, недовольных политикой заработной платы.

4. Наряду с улучшением всей подготовительной работы союзов к договорной кампании, Бюро ЦК КПБ констатирует следующие достижения:

а) Более широкое вовлечение рабочих и служащих в обсуждение проектов колдоговоров и систематическое информирование их о всем ходе переговоров.

б) Большую активность рабочих на этих собраниях и проявление, в большинстве случаев, сознательного отношения со стороны рабочих к вопросам планирования заработной платы и общего одобрения взятой линии на подтягивание зарплаты низко оплачиваемых групп рабочих.

Вместе с тем отмечено несколько случаев недовольства со стороны отдельных групп квалифицированных рабочих, вызванное неудовлетворением их требований о повышении им зарплаты или некоторым снижением расценок, с целью нивелировки зарплаты на предприятиях.

в) В основном правильное выполнение союзными органами директивы о подтягивании зарплаты низко оплачиваемых групп рабочих.

г) Полное проведение директив об отказе от начислений по колдоговорам на курорты и Дома Отдыха и частично—перевод скрытых видов зарплаты и бесплатных коммунальных услуг на платность.

Поручить ЦСПСБ в директивах к следующей договорной кампании учесть необходимость: более правильного соотношения основной заработной платы и приработка.

5. Вместе с тем, Бюро ЦК КПБ отмечает:

а) Чрезмерную затяжку договорной кампании в результате некоторой затяжки в работах комиссии по планированию зарплаты, затянувшихся переговоров с хозорганами и особой сложности вопросов подтягивания зарплаты, требовавших от союзов внимательного и осторожного подхода к ним.

б) Случаи необоснованного оспаривания со стороны хозорганов большинства пунктов колдоговоров, в том числе и тех, которые имелись в прошлых договорах; требования многих хозорганов, направленные к ухудшению достигнутого уровня правового и бытового положения рабочих.

в) Недостаточная проработка низовым профактивом вопросов техники подтягивания заработной платы, как одного из важнейших вопросов договорной кампании. Местами среди рабочих не были достаточно проработаны отдельные вопросы изменения форм оплаты труда (перевод коммун. услуг на платность).

г) Недостаточное увеличение удельного веса тарифной ставки и

